# Адкрыццё прыхаванага сэнсу

Мы ўжо, здаецца, звыкліся з адкрыццём новых імёнаў у гісторыі нашай літаратуры. Апошнімі гадамі яна пабагацела на Алеся Гаруна і Антона Луцкевіча, Наталлю Арсенневу і Вацлава Ластоўскага ды на шмат іншых. Але кожная новая сустрэча, новае адкрыццё прыносяць радасць і захапленне яшчэ адным дыяментам у сузор'і прыгожага пісьменства.

Трагічныя супярэчнасці ў нашай культуры пакінула пасля сябе камуністычнае грамадства. Падсавецкая беларуская паэзія пачала ажываць у канцы 50-х гадоў з прыходам у літаратуру Р. Барадуліна, У. Караткевіча, а потым у вершах маладзейшых — А. Разанава, А. Мінкіна, А. Сыса... Пры цяжкіх стратах, якія прынесла для беларускай культуры пануючая камуністычная ідэалогія, тым не менш ішла барацьба паміж унутраным светам творчай асобы і псеўдакаштоўнасцямі, якія навязвалі грамадству. У творчасці кожнага пісьменніка адбывалася антаганістычнае раздваенне мэтаў і магчымасцяў. Перамагалі найбольш моцныя, таленавітыя і незалежныя.

У жарале гэтага змагання выкрышталізаваліся сапраўды вялікія таленты. Можна правесці аналогію з паэтычным выбухам у дзесяцігоддзе перад першай сусветнай вайною, калі, з аднаго боку, расейскія акупацыйныя ўлады дазволілі беларускі друк, але з іншага боку, усё адраджэнне хадзіла пад вязніцаю і трывала выключна на энтузіязме асобных ахвярнікаў.

У нацыянальным дэмакратычным грамадстве іншыя прыярытэты. Там існуе нацыянальная культурная плынь. Выспяванне творчых індывідуальнасцяў ідзе ў іншым вымярэнні, тым не менш вельмі часта даючы выключныя вынікі на нейкіх балючых, трагічных сваіх зломах.

Для Янкі Юхнаўца, паэта-эмігранта, якога мы прадстаўляем у гэтым зборніку, гэтая трагедыйнасць відавочная. Яна выклікаdebugная вымушанай адарванасцю ад Бацькаўшчыны, пагатоў гэтая адарванасць узмацнілася ягоным асобным месцам у плыні беларускай эміграцкай літаратуры. Адметная эстэтыка, філасофскія падваліны ягонае паэзіі, стылёвая адрознасць рабілі ягоныя творы непадобнымі для традыцыйнае беларускае паэзіі, а праз гэта былі і шмат для каго незразумелымі. Як згадвае Янка Юхнавец: «Першыя творы тут сустрэлі суперлівымі штыхамі, блізу «псіхалягічнай атакай» пад час 1-е вайны. Было чуваць: цікавы, але дзікі!»

Аднак вышэй адзначаныя ўласцівасці паэзіі Янкі Юхнаўца, прышчэпленыя на глебу беларускага фальклору, які з'яўляецца

асновай светапогляду паэта, далі нечакана магутны эфект. «У фальклёры ўсё,— піша Янка Юхнавец,— там і літаратура і дайная філязофія чалавечая».

З пэўнасцю можна сказаць — мы маем стасункі з буйным беларускім паэтам, творчасць якога,пры ўмове хай сабе і запозненага асэнсавання і спасціжэння сучаснікамі, можа зрабіць значны ўплыў на далейшае развіццё беларускай паэзіі.

Нарадзіўся Янка Юхнавец у 1921 годзе на Бягомльшчыне. Пад час вайны страціў бацькоў і пецярых малых братоў, спаленых летувіскімі фашыстоўцамі. Быў вывезены ў Нямеччыну, дзе і застаўся на эміграцыі. Першыя друкаваныя творы з'явіліся ў эміграцкіх часопісах «Шыпшына», «Сакавік», «Беларуская Думка» ды інш. Затым Янка Юхнавец выехаў у Амерыку. Атрымаў юрыдычную адукацыю і працаваў у сферы бізнесу. Апроч вершаваных твораў пісаў таксама і прозу пад крыптанімам Я. Юх. і псеўданімам К. Юхневіч.

Першая кніжка паэта — вершаваны зборнік «Шорах моўкнасьці» — убачыла свет у 1955 годзе і аб'яднала частку вершаў Янкі Юхнаўца, напісаных ім з 1947 па 1953 год. Гэты зборнік можна лічыць своеасаблівым ключом для разумення творчасці паэта. Назва зборніка, узятая з назвы аднайменнага цыкла вершаў у кніжцы, абумоўлівае эстэтычную звышзадачу, якую спрабуе вырашыць паэт — пачуць няўлоўнае, вылучыць паэтычную субстанцыю нашага жыцця, зразумець спрадвечнасць гэтага вялізнага свету, адначасна звёўшы свет вакол сябе ў адзінае беларускае цэлае.

Гармонію светаўспрымання выпраменьваюць гэтыя вершы. Спакойны беларускі пагляд на космас, які акаляе нас і звязаны з намі тысячамі нябачных нітак.

Уражвае ўнутраная танальнасць вершаў, якія нібыта звіняць ад пачатку да канца, іхняе паэтычнае суладдзе. Недарма адна з галоўных дзеючых асобаў у творчасці паэта — вецер. Гэта ўстойлівы і ўсеабдымны вецер, які пранізвае ўсё навылёт. Ён моцны і няспынны, ён вымушае ўсіх жыць пад сваёю апекаю, з абавязковым улікам ягонага існавання.

Ды і ўся паэзія Янкі Юхнаўца — гэта своеасаблівы вецер, які ахоплівае чалавека і не адпускае яго, трымае ў сваім пранізлівым, сумным і адзінокім гудзе.

Вершы Юхнаўца трэба чытаць няспешна і ўважліва. Іхняя прыцягальнасць і ў нечаканасці думкі, кожнага слупка, радка і нават слова. Ягоная паэзія дае магчымасць вяртання да яе і разам з гэтым новага адкрыцця прыхаванага сэнсу, шматлікіх нюан-

саў, не заўважаных раней. І пры ўсім пры гэтым яна застаецца праўдзівай паэзіяй

У адвольным такім і дзіўным самараскрыцці паэта, ягонага бліскучага таленту, трэба лічыць, вялікую ролю адыграла так званае пісанне ў стол. Вершы друкаваліся, але чытацкае кола там, за мяжою, было вельмі абмежаванае. Янка Юхнавец ці не адзіны беларускі паэт пасля Максіма Багдановіча, які ўзгадаваўся і сфармаваўся як творца на чужыне. Недарэмна ён сцвярджае: «Я насьледак М. Багдановіча».

У такіх умовах развіцця творчасць Янкі Юхнаўца была скіраваная на індывідуалізацыю, раскрыццё паэтычных магчымасцяў у самаспазнанні, пераасэнсаванні ўсяго свету праз сваё «я». Ні кроплі фальшу няма ў гэтай паэзіі, бо пісалася яна найперш для сябе і справаздача трымалася перад сваім уласным, унутраным крытыкам.

Паэзія Янкі Юхнаўца мае моцны агульналюдскі зарад, агульналюдское значэнне, бо нясе на сабе адбітак спрадвечнага ладу існавання многіх ранейшых беларускіх пакаленняў. Само мысленне Янкі Юхнаўца, адбітае ў ягоных вершах, з'яўляецца, на маю думку, праявай менавіта беларускага асэнсавання гэтага свету.

Выданне «Шораху моўкнасьці» ды іншых кніжак літаратараўэмігрантаў Наталлі Арсенневай, Алеся Салаўя, Антона Адамовіча, Станіслава Станкевіча, Уладзіміра Клішэвіча, Масея Сяднёва, Рыгора Крушыны ды іншых у другой палове 40-х—50-х гадах фактычна запоўніла тую жахлівую пустку пасля разгрому беларускай літаратуры, якая ўтварылася ў падсавецкай Беларусі. Дапаўняюць творчасць беларускай эміграцыі тых гадоў вершы Л. Геніюш, Л. Случаніна, В. Супруна, якія знаходзіліся на другім канцы свету, але гэтак жа ж упарта рабілі беларускую літаратуру.

Творы і пераклады Янкі Юхнаўца друкаваліся ў беларускай эміграцкай перыёдыцы, у часопісах «Конадні», «Баявая ўскалось» ды інш. Асобнымі выданнямі выйшлі паэмы «Новая Элегія» і «Калюмбы». У 1987 годзе ў Нью-Ёрку выйшаў першы, у 1989-м — другі і ў 1990 годзе трэці том твораў Янкі Юхнаўца, якія аб'ядналі ягоныя вершы, паэмы і драматычныя творы. Гэтае выданне яшчэ не закончанае. Яно падсумоўвае амаль паўвекавую напружаную творчую працу паэта.

Пры знаёмстве з вершамі Янкі Юхнаўца добра ўсведамляеш, што асэнсаванне ягонае творчасці патрабуе хаця б элементарнага ведання філасофіі, яе сучасных напрамкаў. Філасофскі накірунак паэм, драматычных твораў Янкі Юхнаўца, спробы па-свойму асэнсаваць складаныя пытанні чалавечых стасункаў робяць ягоную творчасць з'явою не толькі літаратурнаю, але й набыткам бела-

рускай філасофіі, набыткам, які яшчэ чакае свайго ўважлівага даследчыка.

У сістэме каардынатаў беларускай літаратуры творчасць Янкі Юхнаўца бліжэй за ўсё, на мой пагляд, да творчасці Алеся Разанава, паэзія якога таксама мае вялікі філасофскі падтэкст. Перагукаюцца іхнія пошукі ў сферы ўнутранай стылістыкі беларускай мовы, словаўтварэння і пераасэнсавання глыбіннага значэння, здавалася б, спрадвечных слоў. Свядома ідучы на слоўны эксперымент, Янка Юхнавец тым не менш заяўляе: «Мае словы належаць Беларускай мове». Хочацца перафразаваць выказванне паэта і сказаць, што ўся ягоная творчасць належыць беларускай літаратуры.

*Алесь Бяляцкі*

* * *

Вецер космы дрэваў прыгладзіў
і ў сукрасні хвалі завіў.
Недалёка ад возера,
пасярэдзіне ляда,
раскалыхаў зеляявы вір.

А гурмы хмараў, на небе здарылася,
на сонца накінулі плашч.
Мальба дарэмная —
вецер ашпараны
выліў і просьбы і плач.
А патыліцы дрэваў прыгладзіў,
у сукрасні хвалі завіў.

Недалёка ад возера,
пасярэдзіне ляда,
раскалыхаў зеляявы вір.

*1947*

# Цярністым шляхам

1

Дзень адшугаў. Ваўком крадзецца цемра.
Лагчына пыле ймглістасць тумаnoў.
І гэты дзень маруднаю хадою
ў абдымкі цемрыны ізноў прайшоў.

І я ваўком плятуся па чужыне,
ад болю ран не чую сваіх ног.
І толькі помніцца, што цёмнаю парою
свае радзімы кінуў я парог.

Але ж із гаю
зорнага
мой шлях,
мой ночны шлях асвеціць зараз месяц.
Напэўна, ён на помач нам, тулягам,
сябе самога ліхтаром падвесіў.

Напэўна, нам даверана, тулягам,
пабачыць на зямлі, як знікне цемры сцень,
і прывітаць той залацісты ранак,
што засвятліць над краем Новы Дзень.

2

...і з таго часу спапялела шчасце,
юнацкія гады і радасць дзён,
балонкі чорныя я часта
пачаў лістаць у сонме дзён.

Вандроўнік стаўся адзінокі,
сваё кароткае жыццё
шпурнуў у плыт дарог далёкіх,
забыўся я, што ёсць жыццё.

А Зорка-Лебедзь зіхацела
з таёмнай высі (гэта ты).
— Дзе пахаваюць тваё цела?
Здаецца, ты... пытала ты...

Красуня зор, нябёсных хваляў!
Я — лунь сівы пячор зямных
прыйшоў, каб толькі пахавалі
пакуты дзён маіх зямных.

3

Жадаю сніць я на чужыне сны,
а ў снох:
вясны зялёныя абрусы,
званіцы гонкія Святой Сафіі,
спрадвечны шум Палескіх пушчаў,—
сны тады мяне ажывяць,
пацешыць сэрца леташнясць гадоў,
і буду знаць,
што мытарам убогім
на зямлі сваёй
я не радзіўся жыць.

*1946—1947*

4

Як кіпцюрамі кот,
дождж скрабе па даху.
Цемра прытулілася
да празрыстых шыб.
І крадзецца мякка
пад шум дождджу,
да мяне вясняны, мляўкі сон...
Засынаю,
і сніцца раздарожжа.
Як дзіцё, крычу:
— Куды ісці?
— І дзе шукаць
таго святога выйсця,
што запаветам мне
ад прадзедаў, дзядоў?..
І голас гнеўны,
але срабрыста-чысты,
да мяне прамовіў з вышыні:
— Мужайся, брат! Цярністым шляхам
знаходзяць Сілу і Жыццё.

*1946—1947*

* * *

Вецер у ночы восеньскай,
нібы танец танцаў:
зыбае на дрэвах галіны зычныя.
Званіцы-дзіды над старой святыняй,
напэўна, торуць яго спевы.

У небе месяц аднатвары —
павук у павуціннях поўзае між хмараў...
У возеры-люстэрку,
уночы ахватней,
пяшчотныя адсветы з вачэй русалкі.

*1947*

## Зямныя песні

1

Не трэба мне Парнас.
У мяне, сябры, узлёты крылаў іншыя.

Не радзіўся я, каб лётаць у вышынях,
дзе таемнасць і блакіт
    і вечны рух адлучаных планетаў.

2

Што там шукаць?.. Чаго ляцець
    на крылах зломленых Пегаса,
    і даганяць свяціл палёт,
    спяваць ім гімны,
    і прасіцца
    ўзяць у славе жыць
    сярод лампад нябёсных,
    неагасных?

3

Садоўнікам там быць?
    Вырошчваць пладзіну чароўную у садзе,
    і кідаць сюды, да нас,—
    зямля бліжэй,
    прарочачы пра лёс наскі?..
Браты Айчыны, хай ведаюць усе на свеце,
сцены Новыя Полацку Дзяржаўнага
паміж жытнёвых ніў
узвысяцца ў нас.

4

Не трэба мне Парнас.
У моўкных снох
не буду сніць пра вечнасць тлённую...
    Я чар касмічных завірух
    на чар зямны не памяняю —
    я тут лаўлю пачуццяў рой,
    і кожны куст мне тут — Азарыс!

*1947*

## Уночы ў горах

Грываў бель расчэсавалі хмары,
на небасхіл памалу ймкнулі.
Каціўся месяц ім насустрач
і целы іх ірваў, як куляй.

Лятою птушкі рэха з долаў
лунала дзесь за перавалы,
і зоркі сходзілі з вышыняў
напіцца смагла ў плёсах з хвалі.

Так зырка вокны горнай хаткі
калолі цемру святлынёю
і зіхацелі пад ваконнем
бярозы срэбнай лісцінoю.

А вусціш сцёбала каменне,
свае рагозячы рады,
і паляцеў на хмарах вецер
на супачынак у сады.

І гэта ён прыносіў грукат:
руйнуюць горы верхавіны —
правечнасць нішчыць, каб сюды аж
зышлі нябёсныя даліны.

І ўжо, здавалася, былое
каля мяне навалай — міма,
і з небасхілу ўжо хмары
далоў плылі, плылі нястрымна.

*1947*

* * *

Такі мароз. Такі мароз пякучы,
Са шчэлак непрыгляднасць гнаў.
І дзень адкававаў мінулы
Ў ланцуг сівых вякоў.

Усюды ноч ляжала плажма.
І знічкі цалавалі цемру.
А ў цемры крокі —
Ход хіжацкі —
Хто іх спыніць, хто іх спыніць?

А мароз. Такі мароз пякучы —
Агністы дзень у холадзе застыг.
На слядох крывавых, між руін панурых
Высяцца ўскрыкі знаёмых мне «святых».

*1947*

* * *

Краскі пад узмахам ветру
былі полымем пажару.
Адбіваў навалу хмараў
агнявісты промень-джала.
Ды няўмольна хмараў валы,
каб затуліць прыход начы,
крокі цемры прыкрывалі,
хто іх мог перамагчы?
У цемры вецер доўга, доўга
таполяў гонкасць выгінаў.
І срабрыстым клыкам месяц
апону цемры разарваў.

*1947*

## На руінах

Спякотнай завірухай тут агні шумелі,
лажыліся усцяж каменныя сумёты.
Вогнішчам бруснеліся панелі,
дажджлівым водгуллем лажыўся жах.

Таполі пышныя рабіліся, як пікі,
ветру аксамітнаму было іх жаль:
ад смутку ён ганяў у небе хмары,
і над пажарышчам яны былі, як жар.

Разбітых люстраў аскёпкі із руінаў
смяяліся заліўна да цьмяных ліхтароў,
і вуліцаў шырокая прыгожасць
выдмамі пустыні засыпана, бы роў.

Бы на вуснах смага, была ўсюды плесня.
Бэлькаў сталь звівалася, як стужка.
Ў падзямеллі людская чахла песня,
смерць паўзла за ўсімі смоўжам...

Час — яздок, каня свайго прышпорыў.
Час заглушыў пакуты — жыццё ўскросіў.
У вокнах заімглелі шторы,
сцены туляць радасць шчаслівае сям'і.

*1947*

## Яшчэ на ўсходзе не было світанку

*(удзень 21 чэрвеня 1941 г.)*

Яшчэ на ўсходзе не было світанку.
Сукрыста не адсвечваліся на небакраі хмары,
і чараўніча не выгіналі стан,
па пурпуровых ідучы усходках,—
а на Айчыне
дзень даўно пачаўся —
людзі самі цяплілі ўночы ранне,
паветра моршчылася ў абцугох спякоты,
і чадны дым глыбока неба раніў.

I долы млелі пад агністым плугам,
скібамі ільсніліся узараных ніў.
Жаўрук сціхаў і пад мяжой туліўся —
рокатам матораў клекатала сінь.

I вецер з кулямі спрачаўся ятра
за спеўнасць струн сваіх чмяліных,
ды кулі ліплі да наўколля з гулам
і на дрэвах,
на цаглінах
свае імёны высякалі.

А на пагарах толькі пеўні
па жыцці пужлівых,
па жыцці адважных
спявалі паніхіду...

*1947*

## О вочы, вочы!

*(да празаічнага твора
М. Багдановіча)*

Замоўкла.
У шапках дымных толькі
стаялі дрэвы.
І да зямлі
яшчэ шчыльней кусты прыпалі.
Ноч прыйшла.
І груганоў,
наеўшыся насытна,
вечар спаць заставіў на раллі.
Нарэшце вецер песню запяяў,
запяяў
у дратох нацягнутых,
калючых.

А на прагалінах нябёсаў месяц
з вандроўнай хмарай бег у перагонкі,
й адстаў,
спыніўся,
здэцца, да сінявы прымерз.
І чалавек...
расчыненыя вочы,
у якіх памерла адвага і намер,
пад кустом махнастым,
між сталёвых вех,
ляжаў...
О вочы, вочы!
Вас колькі тут!

Вы не адны камусьці сніцеся жывымі.
У думках вас
шчэ не адна цалуе маці,
адданая дзяўчына...
О джунглі, джунглі,
з маіх братоў забітых
і паламанай сталі!
Вас тут шмат. Злосны лёс вас рынуў
на крывавым полі.
О вочы, вочы!

Вас толькі ночы
аплакалі
найчыстаю расою,
і вецер журна
на дратох калючых
прапяяў вам славу.
О вочы, вочы!

*1947*

## Вячэрні промень сонца пагасаў

Вячэрні промень сонца пагасаў.
Хаваўся мерна за гарамі.
Знікаў апошні сцень з зямлі
ў бронзавым святле заходу.
І песні ціхлі,
шорах моўк
у неабсяжнай цішыні.

І хутка змрок іржавы знік
у цемры ночы і дубраў,
і толькі ў небе жоўты месяц
між завулкаў зорных плыў.

І доўга моўкла жудзь начы,
ляжала між людскіх трывог,
і ў ложку росным, у імшарах,
нараджала дзень другі.

І дзень настаў. Дзень нарадзіўся
і цягнуўся колькі мог.
Але ж...
Не вырашыў нічога
і гэты дзень.

*1947*
*Бав止рыя*

* * *

Лета, лета на зямлі ўсёй.
Вясна-прамежак крывёю адцвіцела.
Але ж ізноў у садзе пустазелле
расцерушыла сваё семя.

І прынадлівым сям'і пчалінай лоскам
на пустазеллі краскі вырастаюць,
і соты поўныя — жыцця праталіны —
наліваюцца атрутным сокам.

А лета, лета на зямлі ўсёй.
Вясна-прамежак крывёю адцвіцела.
Але смяецца, млынар смяецца —
не ўзойдзе болей пустазелле.

*1948*

* * *

Мне сніцца зноў.
Жыццё незнарок:
у дом бацькоў
я завітаў.
Здавалася, наўкола цішыня
была нарушана маім прыходам.

... а дзе ж яны?
усмешкаю праменняў сонца ўзіралася
на разбітыя ў вокнах шыбы.

---

...масты апошнія пракладвала вясёлка.
На дрэвах восень ашчыпвала лісты
і на падворку сеяла палыну зярно.

У хату ўваходжу.
Дзверы на завесах не вісяць.
Цыркун тужыў па леце ў запечку,
і павукі з надзеямі спакою
усюды ткалі ссівелае радно...

---

...а вы? Дзе ж вы мае?
Дзе вы цяпер?
Смутак развітання з Айчынай
астаўся тут, у вашай хаце.

---

Шорах маіх крокаў
у пустэльні хаты —
уцівіліся ўспамінамі,
адклікаюцца
моўкным скрыкам жалю.

Дзе вы цяцер?
Дзесь далёка чуваць
старэчы кашаль —
каплі цяжкай долі.
Дзе вы? Дзе вы цяпер?

*1948*

## Кастрычнік

Скуголіць сівер. Празорысты сівер.
Марозу першага стукочуць капыты.
    Папоўдні пух
скрабуць ад хмараў дрэвы.
    Над вечар
сонца з высаты
    п'е з азёраў
    замыленыя снегам хвалі,—

        якая несуладнасць!

            Паказалася зусім лішняй.

*1948*

## З народнага

— У полі зноў.
Дарог шукаць не трэба
на спатканне...

— Хаваем ад людзей сваё каханне.
На камні-валуне, чаму,
пакінуць любіш
палявыя краскі?
Скамянелы ён
не хваліць тваіх ласкаў.

— Не! Ён скоймаю праменняў
з нябёс пасланы.
Глядзі, на ім
жыццё струмніць
красатосцяй моху...

— Лес аціх ад нашае гамонкі
хмарай між зямлёй і небам...

— Спадзеўна як!
Здарылася ад сяння —
радасць чуем у сэрцах нашых...

— Валун ніколі не ўздыхне —
ён увесь зямная лонь...

— Чаму, скажы,
у сцені пешчаў,
мы блізіні
шукаем доўга?

*1949*

# З чужога альбому

1

Вельмі добра,
што ў садзе восень
дорыць шорах
і памост
сцеліць намістам па сцяжынках простых
з лістоў.

Вось, як добра,
што я з табой,
што нас не дзеляць гады растання
і што ў садзе не спяваюць птушкі —
[illegible] каханне — песні нашы
хваляць сад асенні.

Як добра, што я з табой!..

2

Ноч усю я думаў пра яе.
А потым ранкам жадаў сказаць:
— Мая,
ты свет увесь,
агністая зара
ў загібах жарслівых рук.
Ля вуснаў ля тваіх, я — снег вясняны,
сплысці гатовы няведама куды.
Каб толькі шорах тваіх сукенак
уторвалі сцюдзёныя вятры
услед вандроўнікаў.
Там, на прыстанішчах,
дзе пачынаецца іх мрояў плён,
яны стамлёныя, без павеі, сталі,
як у духату прад аўтаром.

...што я надумаўся, юнак зачараваны:
турбаваць збіраюся свяцейшыя імёны.
Лепш буду я кружок намаляваны
на ейнай шыі запалёнай.

*1949*

## Эскіз

У немань ночы
адыходзіла лета.
Зарніцы свігалі
у нябёсны схон.

Свяцістасць іхная
забаўна,
але спалохліва,
азёрную
паласкала стынь.

А потым сталася зусім начліва.
Нейкі птах ля возера
заспяваў.

Псальм
у несапраўдным раю
падораны усім
між зямных уяў.

*1949*

# Сны на чужыне

...я дома зноў, ён для мяне спакой.
Гляджу з акна ў сад у воддаль поля,
там не відаць дарог шумлівых,
а краскі на аселіцах,
самі сабе,
прыгожая няволя!

---

...выходжу з хаты. Іду сцяжынкай, мной азначанай.
Узіраюся:
не па зямлі хаджу чужацкай.
Імёны змерлых кідаю роўна,
а іншыя жывуць для ўспамінаў.
Яны і я:
дзе ратавацца трэба,—
вечна не задаволеныя?

---

...адчуваю Час — усё з пачатку мірсціцца.
Ад сябе схаваўся павуком —
не пакідаю павуціння...
Як добра збавіцца ад праху,
уваскроснуць,
калі смерць забудзе, што была смерцяй.

---

...чую — звоняць званы ўночы.
Адчуваю — на зямлі бытую адзінотным...
Гляджу на стол, там ліст —
каму, недапісаны?

---

...абуджваюся.
Цісnуць грудзі крыўды-раны...

Змрочнасць у душы.
Спасцярога ночы цягнецца
жывым разлівам жаху.

*1949*

## Чалавек

Дахвальныя ўчынкі
занядбаны мной.
Праслаўленых падзей,
крывёй аблітых,
я не памятаю.
Адно я ведаю:
любіць любовай цяжкай
нат у вомірг
прокмеці смяротнай,
прынесенай да грудзей маіх
шукачом зямнога раю.

Я ведаю, навошта я жыву,
п'ю валогу са студняў і крыніцаў.
І чаму цалую вусны закаханы,
і чаму калісьці бегаў
без нагавіцаў.
Я быў тады дзіця-дзіцём
і маладосць і старасць
не разумеў яшчэ.
І чаму скародзяць
смыкам нівы,
і чаму гора
песняў
не пяе.

І падрос:
дахвальныя ўчынкі
занядбаны.
Праслаўленых падзей
я
не памятаю.
Але я ведаю,
шапнуць сваёй аздобнай:
— Там, у лагоўі,
цябе я пачакаю.

...а там, пакуль
ты прыйдзеш на спатканне,
у радасцях майго кахання,

пра славу я ўсё-ткі падбаю.
Напэўна, я
па ёй
злічыць схачу
часіны майго раю.

*1949*

## З народнага

Болесці й радасці
тваe я не люблю.
Ды сцерагу сябе
цябе не крыўдзіць.

Замах зрабіў я на сябе.
І гэтак зноў,
(ці будзе не,
ці можа здарацца?),
адвечнае — На Купалле сон,—
у жыцці не ціхнуць абяцанні.

---

Сяння вецер адшасцеў вячорна
між спрагнасцяў зямлі ўсёй,
не памятаючы, аж цэлы дзень,
ці быў лагодны ён
да камлёў урослых дрэваў.

---

...мяне кранула трывожліва змярканне.
Заходнасць сонца змерыла ўсходнасць дня...
Успомнілася найшчырае абяцанне:
— Сцерагу сябе
яе не крыўдзіць.

*1949*

* * *

У краіну далёкую
адпраўляюся.

З мною думкі:
— Што будзе? — адплываюць.
Буду там сабе нядаўнасцяй,
што ў ростаннях жывуць.

Дарогі пядзь апошняя
з Айчыны памятаецца.
Чужацкія абшары дзівяцца
прышэльцу ад чужых.

...зусім не каюцца,
зусім не пазнаюць:
далёкі ты,
ці блізкі да сваіх,
ці ім.

*1949*

* * *

Яны за рукі браліся, як дзеці ў гульні.
Плакалі ад радасці й болі ад жыцця.
Дні ўчарайшай маласцяй прыходзілі —
апавядалі ім усё
падстаўнымі ўспамінамі.

Аднойчы іх спалохалі пялёсткі,
апалыя між быллля.
Сціпласць памяталася небыцця,
што радасць іхную і боль вяла
да неспадзеў сваіх,
да злодзеяў сваіх
у саміх сабе.

— Прад табою, Божа, мы дзеці без гульні!..

Зноў рукі-вочы просяць:
абміні
у душы страхлівасць.

...раслінкі дзве цішна сохнуць зноў
у кожным дні.

*1950*

# Эскізы

I

Слову свайму я дасяжыць магу.
Пыл па дзьмуве асядзе...
Саромка дзяўчына нагу
з берага ў хвалі апусціць.

Спаткаўшы ізноў яе,
шчасце — камень, лепш ты не кажы.
Яе вусны, як лук у воя,
яе словы — расцяг мяжы.

А так зразумела між гор
мінулая памяць вякоў,
і ветру вяснянага хор
дрэвы доруць для зор.

II

...прыходзіла жонка ў спякотныя дні
да яго з вадою крынічнай,
на ўзмежку садзілася, і пчолы тады
спалоханыя з красак ніклі.

Спляталіся рукі яе і ягоныя.
Каханне іхнае — гамонка душы.
Пастух забыўся пра статак свой
у прахалодзе кахання мрой.

III

Сонца чырванела ў знямозе дзённай.
— Я ведаю, сярод начы,
ён спытае: — Хто ты, жонка?
Я адкажу: карэнь з раямі,
асачы!

А вецер гнаў прапушчанае ўчора.
Човен затануў — выпадак на рацэ.
Імём каханым я крамяніла грудзі —
запальная іскра на цэр!

Плыты звязалі віткамі лазовымі.
Спявалі плытагоны над прорваю віроў.
Чужыя жонкі купаліся наводдалі:
— Дзе ж хвалі пешчаў?..

Спяшаліся дамоў.

Смачная вячэра дымілася ў місках.
Радасць сцерагла начная ціш.
Там зоры не адходзілі ад месяца,
там іхняя знемагала выш.

А нехта просіцца да хаты.
Чаму пад зорамі не начаваць?
Пешаходам коннік перагнаты,
яго не цешыць мая суладзь.

І вось рукі твае я губляю.
Жарсці аддацца — размова спаткання.
Розум узвысіць — вязанак дачасны,
забыцца жадаю — шмат потым раніц.

IV

Сунімаецца млява спякотнае лета.
Побач песня — кліч смерці:
— Ідзі! Не прыходзь!
І абяцаны аванс не звярнецца,
і крык гандляра: — Не зводзь!

І шорах моўкнасці — вадаліў
жыцця пакіненага сярод пустэчы:
Прамежак дзверы за мною зачыніў
і толькі памяцяй глядзяцца рэчы.

...азіраецца памяць — шасценнем мерыць
свой спад з дрэва ліст.

*1950*

# Паміж пракосаў

1

Я нагастру касу.
Пачую гастрыню
на пракосах заўтра.

Раніца была
і будзе зноў,
зару сустрэне
касы свіганне.

Я столькі ведаю пра сябе.
А праца не забылася
пра мой пракос апошні.
Дзесь у воддалі,
на стаўпе,
драты трымаюць
ведамку пра пожні.

Луг узяць у горсці аніяк.
Смерць з касы — усцяж прыгорсці.
На паховінах сенажаці,
у восень,
жураўлі стаяць
кагортай.

Шастала каса, пакуль касіў у долясць.
Успамінаў усё былое...
Здабычу коршак цікаваў
між горкасці калінаў.

Галынь лугоў не любяць жураўлі.
Далёкасць выраю
іх вабяць крылы.
Мяне ж — пракосы,
у касьбе,
звялі із добрасцяй,
скарылі.

2

Я дбайна нагастру касу,
я выйду рана,
першым,
на сенажаць.
Пачую зноў, як птушка-драч
дзярэ зару
між небам
і кустамі.

Пракосам упачатым
зайду наўмысна
ад суседскага узмежку.
Трава там водрасцяй набракла,
бяры ахапкам, а не жменяй.

Над шэрагам пракосаў уздыхну.
Шмат з асакой скасіў істотаў.
Іх смерць заўважыў толькі мятлік —
хаўтурна, доўга,
мітусліва
лётаў.

Сусед таксама скасіў нашчодра
трысцеўнік, што дзяліў мяжой.
У сцені гэтакім утульным
я часта быў самім сабой.

Канава там была бузяная.
Рай асвойтаны ў мутнай каляі —
глыбіняй ёмістай люгашкам,
і конікам вадзяным
на разбег.

Трысцё ўзрослае высока
сусед скасіў усім адмахам.
Цяпер спакмечваю, канава
мяжой вадзянай пляхала.

Бачу я. Я задавальняюся.
Сусед ужо пайшоў дадому.
За ім раса шчэ клала сцежку.

Баюся зачапіць яго —
мы гнёзды восаў на ўзмежку.

Ён штодня няхай дагадваецца
мальбу да Бога ці да чорта...
Сусед, зайздросцьі
Жыві, як схочаш,
але паміж
маіх пракосаў
не хадзі.

*1950*

* * *

Шастанні за вокнамі,
я ведаю, былі,
на бярозе лісцвіня.

Вецер подзьмухным казаннем,
цвердзіў веццямі:
— Ад дня-да-дня
ёсць дзесьці цішыня,
што веціцца пакутным нараканнем,—

плач зноў аплачацца
тым самым плачам.

*1950*

* * *

Хуртавіна снежная
    круціцца, сцелецца.
Здаецца, бясконцу зіма і зіма.
    Дровы ў лесе ад подзьмуху ветру —
стамлёныя коні сапуць.

Хваляй збуялай
    сувеі ціснуцца,
перашкоды ўзвысіць і задзьмуць.
    Разбеглася неба
да зямлі прыпалае —
    дарога заблуканая
    у бель-каламуць.

Прытулак на зямлі завірусе ёсць.
Людзі не ўсе дадому вернуцца.
    Дзе-небудзь іхны заснежыць лёс,
жыццём звярыным звер.

*1950*

# Словы праўды скошаны

Словы праўды скошаны
ўсялякім словам,
і гады.
Манашка ўздыхае верай —
шум вады.
Нябачны вецер вырастае хваляй —
уважай!
Крычыць дзіцё маленькае:
— Не трымай!..
Я твае цалую вусны
аж за край —
гэта слова бясслоўнае:
— Бывай!

*1950*

# Яму жадалася

Яму жадалася сказаць усё.
Ягоны дзень яшчэ — бы зніч.
Вясёлка скоціцца, як калясо,
уніз.

Там — адхоністай высі ўздойм
і хмары — спрэчка з гонкасцяй муроў,
і вецер — спеў: ліні далоў,
дождж.

І сціхнуць.
Збіраюцца на выган дзеці.
У карагодзе шчодра мігацяцца пяткі.
Дзядок сівы іх радасцяй абняты,
жадае небу сказаць усё:
— Мой дзень яшчэ — бы зніч...

А думкі сцераглівыя, дзе спакой капліц:
вясёлка скоціцца, як калясо,
уніз.

*1950*

# Эскіз

Лета.
Далява лугоў між прасёлін пушчы.
Дзе хавацца, дзявацца ім
гушчынёй пакровіста-квяцістай
пад павеістым летняком?

Акаранелі пушчы на сваім месцы.
Лугі разводнікі — вохкія прасторы,
расступаюць іх —
даць ветразям сваім расквечаным
армадай сплыць
да віроў рачных.

Пад свяцістым сонцам любасцяй спакметнай
у сценях пушчы скраткамі, бы дыктаваныя,
яны плывуць павольнай віняй хваляў
ахіненыя асакою шчыльнай.

Лугоў разбежнасць любім мы.
Рух гэтакі нестамлёны.
Вочы-вобмацкі чытаюць іх.
Яны кажуць:
— Убожнік ты!
Пахіноты прывідаў ад твайго
жыцця
у сіле красаты
здабрэюць?

*1951*

## Далява лугоў

*(эскіз — варыянт другі)*

Вось зноў далява лугоў
між пушчароў
пад гушчынёю летняка
павеістага,
у сваёй дарозе,
    расступілася
    даць сплыць зялёным ветразям
    лугоў
    да віроў рачных,
    адно спакмечаныя
    сонцам
    і сценямі хмызнякоў.

Братэрскі рух
ад маленства аж да старасці.
Не зменшчык я дарогаў іхных...
    Убожнік перад імі я!
Вочы захінаю вобмацна да слепаты.
    Уражанні ў памяці астануцца, ахвяруюцца.

Убожнік перад імі я! *1951*

* * *

Ноч летняя.
У садзе салаўі заспявалі.
Любуюся спевам.
Спяваю і я.

Мой спеў ніхто не чуе.
Душа размаўляе са мной.

Вялікая радасць спадзевы мець.
А можа, так назначана,
адняць сябе ад спадзяванняў
і ў благасцях
жыцця пабыць?

Да заўтра, можа — пакорліва падбаю —
маўкліва не вярнуся,
пачакаць, што значаць
благоцці ў жыцці маім.
Дрэвы называюцца лісцінёю знакаў,
а душа не ведае імя сваё.
З хуткасцяй па ёй, бы па дарозе,
радасці імкнуць, і дрэннае ўсё.

Апаўдні ў сад вярнуся зноў,
дзе салаўі спявалі аж да раніцы,
і песню да краёў душы спяю,—
спяю сабе,
аніяк хаўтурную.

*1951*

# Вежы замкавыя

1

Не папраўлялі вежы замкавыя ўжо шмат гадоў,
адно дрэвы там раслі падпраўленыя —
яны самі, прытка,
вясною кажнай, аж да восені,
у стык нябёсаў высілі суччо.
Імёны іхныя лісцінёй пісаліся
подзьмухам нат кволым ветру.
Мірыліся яны абложна із дажджом,
ён шныхарыў, па лісціне сплываючы,
але ўпынам не сцюдзяніў,
калі спякота дробніла іх размах.

Прасторы з птушкамі дзялілі вежы,
сценямі атульвалі свой узрост.
Камень выветраны, вельмі стромкі,
з радасцяй выцерпліваў узвыш.

Яго няраз кранналі кулі чужакоў,
ён малеў зычліва ад сталёвай ятрасці.
Як рот у вісельца, на ім раны кроіліся,—
дробкі стуль асыпаныя — зямля карэнням.

Вежы бясстомныя трымаюць свой уздым.
Водгуль моўкная — павуціння, бы дрэў карэння,
замест згарэлых трамаў паміж сцен,
цягнуцца нязблуклай плецяняй.

Там кожная Айчынная расіна — праменні сонца,
днямі светлымі свеціць іх.

2

Лушчыліся хвалі лускою рыбы —
летняк па-летняму дзьмуў.
Вербалоз над вадой каля замку
зялёныя косы плёў.

З-пад ягоных карэнняў стрыбка
на бязрухныя грудзі камення,
завіхна ключ дружлівы
глыбіню падзямельную ліў.

Як дзіцяня гульнёй захаплёнае,
усё там песняй і гульнёй было...
Век знаёмы — не штосьці іншае —
птушка злоўленая
ў сіло.

*1951*

# Манашка

У хвалях возера ты месяц назірала,
калі ўваскрослы ён, і бы мядзяк ярчысты,
жадаў рассунуць
плойму неба.
У цябе тады, напэўна, сэрца ранай
і вуснамі рабілася
з шэптам мроі чыстай.

І ты пайшла. Пакінула вянок вясельны.

Там, дзе нарадзілася, манашка, ты,
дзе бацька і маці
цябе на ўлонне бралі,
застаўся выган ля возера ўсцяж
і сяліба іхняя, маўляў ніты
із павуціннаў восеньскіх
навітыя.

Пайшла. Пакінула вянок вясельны.
Шум тапалёў цяперака ля вокнаў манастырскіх
і радасць у журбе святыннай,
і сніцца, калі прыходзяць ночы:
з хваляў возера чаруе месяц сэрца
і нерастанна сінее прохань неба.

*1951*

## Сцюдзяніць...

Сцюдзяніць за горамі спакой і змрок,
а словы круцяцца адсветам дня —
у ціхай мернасці яшчэ не змоўк
стук сэрца і глыбіня,
што сніцца ў начох вясняных.

Цісьнецца яна і ласкаю і кругам
і слепіць чарам разбуджаную жарсць,
і сэрца робіцца вяршалінай натугаў
скінуць камень: каб высіцца й стаяць.

Але за горамі сцюдзяніцца змрок.
І каменям нямее водбліск дня:
у шпаркасці абвалу ён замоўк —
шуміць у долах падмывамі вясна.

*1951*

* * *

Клікаюць штодня званы маліцца.
Да прошчы ходзіць багамольны.
У сценях уздарожных ліпаў
адпачыць спыняецца
і думае, думае шмат пра Бога
або нават пра нікога.
Спатканага выпадкам падарожнага,
як радзімага, прывітае ветла,
а расстанецца, уздыхне, варожыць:
да мясцін святых шчэ цягнецца дарога.
І думае, думае ізноў пра Бога,
пра палахлівасць жыцця на свеце,
пра зломленыя у калёсах спіцы;
і прад воблікам святых укорнікаў
успомніць: малітваслоў забыўся,
пакінуў дома
на паліцы.

*1952*

## У тую ноч

У тую ноч я быў адзін у полі
пад крыжам схіленым, сівым.
Ноч плыла нада мною моўкна,
і ўсходзіў месяц спакваля.
А знічкі, зраднікі вышыняў,
секлі небасхіл агнём.

У спелым жыце чуў, як сцежку
святы Мікола пражынаў.
І плач у воддалі: — О, любы,
на якой вярсце прыстаў?

А ноч плыла, плыла і моўкла
і над крыжам і над усім...
У кажнай болесці жыцця зарука,—
ах, шмат балючага ў ціхім!

*1952*

* * *

— На Замчышчы ў Менску ўсе пагоды
адбываюцца.
Менск, як воблака з імём,
над ім вітае...
Абрушаныя камяніцы ў Замчышчы
ступеннямі бліжуцца ў падзямеллі,
сценамі нярушнымі, дарогамі.

---

— Вада ліецца па нахіле,
раку наводзіць або ручай...
Як страшна на зямлі ўсе дарогі
вясці дарогай, адкуль ніколі
не вернешся,
нат падсхілянасць густое елкі.

---

— Прасцінкі не знікаюць у падзямеллі.
Старажытнасць вечная ад горасту святога.

Губляемся, хапаемся за яе.
На вагу кладзем ад самога пачатку.
Не пераважаная!
Ад Усяслава нашага,
бо ён угледзеў
зіркам рэчы вартаснай
ведаць пайсткі ад роду наскага.

---

— «Адысея» і «Іліяда» — заснуўшы перавулак
у менскім бруку.
Пра «Зубра песню» прыходзіць валачобна.
Спяём нахабна!
Спяём, як песню,
над царствам падзямельным
на Замчышчы ў Менску.

*1952*

* * *

— Чым больш творыцца незразумелага,
тым розум больш разумным станецца.
Здарылася пераканацца, пакуль плыў
на невялікім вадаплаве па рацэ Бярэзіне.
Заносlівыя перамены ад вякоў —
пырскалі разбежаста рачныя хвалькі.

———

— Учапіўся за адростак сэнсу дня.
Дзесць пад вадаплавам
ляжма
дно рухаецца вандроўна аж да мора.
Па ім плаваць рыбам наразгон увесь ракі —
абараніць абток ад рыбакоў нахабных.

———

— Пад раку заходзіць благадасць зямлі.
Мяне збліжае нявокмець узбярэжжаў.
Не пры чым яны ў глыбіні нябачнай.

...думкі цімклівыя.
Можа заўтра здоляцца па іншаму?

...на палубе цалую жанчыны вусны,
якую трэба назваць яшчэ было
бязвіннай, зусім дзяўчынай.

*1952*

## З народнага

У прыгоднасці змены,
тулюся да вуснаў тваіх.
Ты іншая!
Дрэвы прынадна,
ветру суседзі,
паросткамі ветру
шасцяць.

І шэпат кахання мы чуем абое.
І руліцца шчыра табе сказаць:
— Вочы твае —
сняжынкай зіхрацца...
А лета!
Усюды лета
каля нас.

Вецер зямны — гублівае слова!
Словы і шум імкне ў прастор.
Ён ветку зламаў,
не мабыць,
а пэўна,
асохлую мінулым днём.

У прыгоднай радасці,—
надзённа зменеанай,
ці будзе зменена,
кагосьці пахваліць?

*1952*

## На замчышчы

На замчышчы толькі вусціш.
У вышынях месяц спынёны.
Вецер, чаму ты не хлусіш
песню разрытай калёны?

Як добра! Хоць раз заўнімуся
і псальму спяю ўсяночную.
Рэхам з вуснаў маіх разліюся,
бы на скале вада ўсточная.

На замчышчы вусціш прапала.
Месяц,
здаецца, ты спевам спынёны?..
Ах, вецер узноў,— нябачная хваля,
і шорах пясочны з калёны —
мой спеў згумлёны.

*1953*

## Менская кальварыя

Помнікі ў моўкнасці, што нас хвалюе,
бы адзіным выхапам сцяжын кароткіх,
узняліся угару. Іх пэўныя сляды —
магілы
адтокамі старых узрэччаў адышліся.
Між імі ў разбудлівым, з муравы, засцілі
весела павеі ветру блукаюць.

Бы нядобры рыцар, там святыня
дзіду гострую — званіцу у неба выцягнула.
Там паставілі яе жывыя. Услед за ёй —
не надвак,
у каменных плітках бяжыць алея,
Сцвярдзела...

Усё трываюць сонцам дні.
Мальбой пакуль сціхаюць
каля крыжоў карэнні неба — сцені,
не прыходзіць мніх у змрок тае святыні...
Таполі
шэптам прыхалоды споду
з Богам росцяць шум сваіх вяршалін:
з іхнай боляй за равом, у полі,
адрослі іхныя апынуліся.

*1953*

## Чалавек-статуэтка ў музеі

Перасцягнены выпадкам, праз бязуважнасць
ты застыг, мо вечна, у злепку з гліны.
У вобразе найлепшым людское дамавіны
не ціхне разам чарвяка ўсцяжнасць.

А нам, жывым яшчэ ўмеру,
засталося, мабыць, пашкадаваць цябе:
што вусны закаханай — несупакой намеру,
не адплылі цалункам на ілбе.

Ды ты прыціх пад змрокам сценаў
і кажны шорах наш жывы хапаеш,
каб ноччы разбудзіцца: на колькі жменяў
узняцца аж пад столь... І напаткаеш
донь найбольшую празорых шыбаў,
зор прасочыны і кволасць хмарных глыбаў.

*1953*

* * *

Пачатак быў пачаткам сам,
зверадаваны пешчамі й друзгамі пары ўсякай.
З імём людскім, скарынкаю абмяклай
на плечы нашы лёг, і ў сцінкі рам,
што з нашае крыві штодзённай закарэлі.

І болей не здаюцца ўяве думак нашых
ракою змытыя на сплыве мелі,
і вечна нашчыя звяры на пашы,
навокмець незгублёныя ў прасёлах лесу.

Мы таксама зыдземся у сваім пачатку
цішэй начы зімовай; із сумленнем
праз ручай паложым заўтра самі кладку,
што мы ў хаце не асядзем сценем
і думкай не асілімся: як з нашым пакаленнем?

*1953*

# З розных тэмаў

1

Небакрай (даруйце ўяўленню!),
там, дзе лес вершалінамі спаткаўся з ім,
векі сплюшчваў пад сонцам скратна.
Адыходзіў дзень
у павалоку ночы, у зіхценне зор.

Водгулі усякай поўна у прасторы.
Кажная ступень зямлі хіне да адпачынку.
Часіны гэтыя лісцё трымае, лічыць;
вячорны змрок узгоркі роўніць.

Рупнасцяй у сіле скончыць працу,
бо, можа, заўтра пойдзе дождж,
не вінуючы утому рук і ног,
касцы апошнія заходзілі пракосы...

...у нябёсах знічка аніводная,
каб мне дарогу ўночы асвяціла...
Ёсць святло у сценях мрояў,
яны вітаюць ад працы й імкненняў.

2

Ён разумнейшы за усіх на свеце.
Сябе накорміць і апране.
Імя адвечнае: селянін з-пад Вільні
яго не страшыць,
а ахіне.

Ён браў багатыя узяткі
ад папялістае зямлі.
А плуг кінуўшы — са стрэльбай —
прад ім схіналіся каралі.

Пра ўсё, што ім здарылася,
не апаведаў нат часапіс.
Хват увесь айчыннай мудрасці
у капусце кіслай кіс.

У гэтым вершы старакаватым,
забыўшыся на усякі Час,
хвалю цябе стогод наўперад
знаёмы селянін Антось ці Ясь.

Заўтра мо, як ты заўсёды,
я закахаюся зямлёй.
Не адступлю ад пясці глебы —
буду разам з табой.

Чым ахватней сваім жаданнем,
зайздрасцям даю разгон,
летнім досвіткам любуюся —
багаццем сіліцца загон.

Мы разумнейшыя за усіх на свеце:
сябе накормім і апранём.
Імя адвечнае: селянін з-пад Вільні
мы не адмовім,
ахінём.

3

Да болесці усякай, і не да болесці,
прынамсі:
працоўны дзень мы апушчаем длонна
да страху веку, што ідзе
ў бытнасці краінаў свету —
не згоршаная прычына роляй паменяцца.

---

Валадарнасць усялякая прасягнутая асуджэннем,
абы-кім,
не ледзь забыўшыся, што было,
і як здарылася спаткаць яе,
узорліва палохаемся...
Магутнасць уладарнасці падступі ўладна!

---

Ты асаблівы. Зрабіўшыся асудлівым
над людзямі грэшнымі сваімі,
і нават добрымі чужымі,
думаеш пакутліва:

пад, і як узяць,
хоць сполахна ў пладах трывогі быць,
непрыязні іхныя метхласкія
ў шкадаванні найбольш сябе.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

5

Няма нікога на дарозе.
Ён адзінотным пайшоў спаткаць яе.
Кароткі ўшчалопак у водблізу ад дому
даўжэзнаю дарогай лёг, пачаў.

Там нешта здарыцца, што суджана
стварыць ці адысці на бочаны,
і ціха, у самаго спытацца:
— Як дайсці, вярнуцца, зноў дадому?

...дарог яму не трэба.
— Сцяжынкамі пайду.
У гасцінай радасці забудуся
на дарогі гладка пакрытыя асфальтам...
Сцелецца, лажыцца, суджаная
і нясуджаная стварыць на дарозе.

...успамінаецца:
шчэбень у прызвычаі — камень дробны,
што прашчур ваяўніча кідаў ахвотна,
смяротна з прашчаў на варагоў,
шмат раскідана па зямлі наскай,
а потым, неўзабаве, агністыя гарматы
шчыра
падпялі шыі дарогі закалелай...

Ён адзінотны выйшаў спаткаць дарогу.

6

...ізноў я кідаюся ў адзіноцтва.
Чым кончацца канцы маіх дарог?..
Святло гарыць і на скраёх святла,
і дрэвы не схіляюцца дадолу ў мароз,

і смутнасць усялякая ўладна прывяла
уторна зноў спаткацца з сэрцам,
яно, нібы анёл,
без крылаў у грудзях.

---

Вось гнецімся, гнібеем у паўнаце спагадаў.
Вось слухаем свабоду «шчырую» апекуноў вялікіх,
і ведаем: жыццё адчуецца праклёнам.

---

...бацькамі сцеражонае дзіцё
забудзецца на пешчы. Сам, як бацька, маці,
губляе ў кароткі час усё,
што сцераглося сцерагліва доўга
ў парадах іхных нараджэнцаў.

---

Разгонныя тады.
Не вельмі любяць спрагныя ўражанні
старога пакалення.
Як заўсёды, прызвычваюцца да сваіх намогаў,
споўнена, прадонна
задзіўляюць:
— Маладыя мы!..
— Я малады жыццю!

*1953*

## Хрышчэнцы

Хадзем. Акрыяў я. Якраз у час
старасць надышла, як і маё маленства.
Будзе люба ўсё. Жаданне кажнае уразіць нас,
аддаючы крыві моц блізкага наўцемства:

хрышчэнцамі хадзем да слепасці вякоў —
там гімны моўкнасці, як скорсць,
што любіць вартасць —
свет палоханы чым-небудзь зноў
у просьбы кідаецца, тайкуючы ўпартасць.

І толькі даўшы ўбожну, тады
паверым собскай моцы пераможца.
Усяк унімемся трывогамі сваімі —
даляву, якую кроў не апалошча...
Жыццё ясніць нат кроплямі малымі.
Пытаешся: — Ці жыць хоць шчасцямі благімі?

*1954*

* * *

*Крытыкам маім — прысвячаю*

Прыманіўся без хмараў навальніцай быць.
Цікаваць, як вартавы, астыгласці жыцця,
я радзьва не хачу ў болясць часу
убягаць сабакам
і гаўкаць усялякую небяспеку:
ужо колькі год я песню пешчу
што спакметнікам усякім кажнаму аддаецца.

Я непрыветлівы камусьці оды слаць;
хваліць ступкі дзіцяці першага.
Прыходжу ціха да бярэжжаў схоністых
журбу праводзіць адзіноцтва скрытнага.

Любіць жадаю вякі мінулыя —
будучыня ад іх прыходзіць шчытная.
Незнаёмым з'яўлюся я вандроўнікам,
дзе парог пераступалі людзі
ўжо багатыя,
крыху шаноўнасцяй вядомыя,
і словы чутныя,
скажу:
— Убогім заўтра да вас
я не вярнуся.

* * *

Вятры падзьмуць і ветракі ізноў
зачэпяць крыламі скрыгат жорнаў.
З воддалі лугоў жалейкі спеў,
бы дзявочы смутак і сорам.

Спеў ручаём імкне ў прасцяг нябёсаў,
але шчыра нікне ў затуле пушчаў
між ствалоў імшыстых і вываратняў карнастых,
каб вецер зноў іх там спаткаў
і шорахам жывым між галінаў шастаў.

Сухавеям зноў падзьмуць вятры.
Уздымуць пыл дарожны,
скалынуць на полі збожжа,
асцюдзяць твар ад працы запацелы,
смутны спеў жалейкі ў далаве развеюць...

Ах, не! Смутак благасцям жыцця паможа!

* * *

У гадзіны, калі намітусь усё зблытана,
адзіноцтвам уцешаны і згублены небам або зямлёй,
ты чуеш, спакмечваеш:
ад ветру, здаецца,
дрэвы смяюцца,
упрасіўшы сонечную літасць.

У гадзіны, калі ўсё не да ладу,
і плуг іржавее, не крануты раллёй і селянінам,
ты чуеш, спакмечваеш:
шаранеюць ад ветру
на возеры хвалі,
яны, бы невад, із вады зладжаны...

---

У гадзіны, калі ля кратаў снуецца матылёк,—
кароткі век ягоны і вольны і прыгожы,—
ты чуеш, спакмечваеш:
іржавым скрыгатам
турэмныя замкі
скубытаюць сэрца столкі.

## Жыццё зноў весціць...

I

Сабака бяздомны?.. Значыць, грамадства шукай!
Дабрахвочы ўчынак — дай недапаможнаму...
Людцы слыхам — вушамі хліпаюць,
прыкроніцца як да раю блізкага.

---

На просьбы нядбаючы, людзі самі
на пляцы розніцаў жыцця... Мы ж нашы!
Цяплішчы ад будоўляў даўно агашаныя...
Свабода — успамін: у маленстве радасць.

---

Балазе абняхаеным думкам —
незасыпаныя мерцвякі...
Жыццю навучылі ўбогія клумкі —
сэрцу балюча, страты родныя.

II

Абурлівасць струны кранула.
Ім радасць даўно апрыкла.
У музыкаў пальцы чула
болясцяў любяць скрыкі.

---

Буявіны ў бубнах бубняць.
Скрыпкі — бы скропваюць росы і слёзы.
Руінамі сціснуты пляц,
а людзі — сцень на падлозе.

---

Дрэвы зызнуць сцюжай і віселыцамі.
Музыкам ручаць мамэнты...
Касцямі сваімі граюць усе,
як на музычным інструменце.

III

Вятры і музыкі — не сны ў сэрцы маім.
Музыкаў пакіну.
Вецер у Менску ў пырсках крывавых.
Песня недапе́яная паміж руінаў.
Вадзянее Свіслач у бярэжы цесным.
У падвалінах жывым прыціхнутае —
ў барацьбе загінуць.

---

Смуга затрымаецца — вецер разгоніць,
і падкрадна расшыбіць вісельцаў...
Патрэсканыя шыбы зазвоняць,
калі вокны ёсць між руінаў...
Таполі акураныя — галлём усядно —
радыя подзьмухі ветру спаткаць.

---

Вецер не ўтрымаецца на падстрэшшы —
шасціць ціхату,
лятчэй за крылы птушныя ці завірушны снег.
Песню дзікую з людскіх сэрцаў вырывае,
чаруе пойнасцяў несхінёных вех
жаданняў,
　　　　　што заўтра будуць
　　　　　праўдай... і камусьці крыўдай.
Крыўда і праўда — спрэчка вечная,
　　　нарсціва не ўмее
　　　　　　　　　　　пазначыць меж.
. . . . . . . . . . . . . . .

V

Шмат слухаю ад ветру спеваў.
　　Ускрашальны спеў!
Ноч не міне мае нагоды
　　і спадзеў.

Калі толькі,— (ёсць зямля!) —
　　ты, вецер, падгані.
Я не чуў учора
　　мае гаманы.

Усю ноч і дзень узносіцца
лёгкі верш душы.
Уцешна радасць цешыцца
ў цішы.

Я зноў прашу усяк:
ты, вецер, не міні

гнёт цяжкай смутнасці
ў спагадным дні.

VI

Нешта зноў,— як малюска скорчваешся,—
вецер аніяк тут ні пры чым.
Усупор рунявіць хор дзяўчын
песняй спеўнай, сардэчна-боскай.
А хвалі, што праз дамбу мкнуць,
яны
спрадвечна песняй чэзнуць.

---

Мне сказы гэтыя ўчора вецер наказаў,
быццам стамлёна,
з глыбіні прадонняў
уздымаючыся.

У сказах словаў не было...
Бо водгуль карагодная забаў купальскіх
у прастор зямлі вітала.

---

Любоўна, бы цуд ад чараўніка старога,
кволю водгуль у сэрцы чула.

Пакут жыцця няма,
калі песні слухаеш
ад веку вечнага маладога.

* * *

Я спяю, як апаўночы
краскі п'юць красу зямлі,
як мроі чыстыя паэта
праклёнам на журбу ляглі.
Як у час вясняны, рана,
жаўрук абудзіць ніваў сон,
як згублены (заўсёды) вецер
мкне за хмарай наўздагон.
Як святасцяй людзьмі прыдуманай —
я паверыў цуду сталі.
Як смерць чужую цешыў люба,
жыццё самому ледзь даравалі.

Як быццам скрыўджаны людзьмі і Богам.
...мне адно было магчыма:
несаромным попелам спамінаў
сяброў абсыпаць густа —
хаця і ведаю:
у памінальным слове
сціпласць сціплая — пустая.

Я спяю, як дахвальна хтосьці,—
рукамі выберу, не розумам, падзеі
(бадай цікава). Садзіўся,
апіраўся на ўладны трон
і гінуў, як у мароз атава.
Або інакш:
як рукі на жывот паклаўшы,
аддаўшы ветру: «жывот я дараваў»,
распараджаўся сабой сурова:
ці смерць, ці жыць была ўмова.

...валей спяю:
як апаўночы
краскі п'юць красу зямлі.
Як мроі чыстыя паэта
праклёнам і на зло ляглі.

* * *

У адзінотнасці сваёй — учора, і вось цяпер,
вятроў любіць не перастану.
Задаволены улетку звер —
паляўнічую абмінуў я рану.

...і вось рана, што цяпер?
У глухаце пушчы скрытна лягу.
Паміраючы, усё адзін наўмер:
жыццю дару павагу.

Ад успрымальнай, смутнай мроі
я кропнасць чуў маіх уздыхаў
жыцця хлуслівага із праўдай скрутнай,
што раніла ўсё,
як слоў паспешнасці Гамлета
пад мах смяротны
гастрыні мяча.

* * *

Вецер, ты сюдзіш свет увесь быццём.
Ці пазнаеш мяне ў днях мінулых?
Я не запоўніў пустату
шарохным лісцем на адоле.
Старэчую чароўнасць вяжу ў красату.

А калматым пакуллем — над рэчкай туманы.
На сцежках зорных — крыкі журавоў.
Знямогшы красаваннем — уцеху адцвітання,
здаецца, вецер па ўзбярэжжы вёў.

Як няўторацца сказаць:
ён штогод над журботай восені
дажджавыя пасмы развівае.
Штогод асенняю парою
свет неспакметна старасць забаўляе.

*1954*

* * *

Ах, вецер, супакойся
і сэрца супакой!
Хачу, як птушка раю,
мрою маіх мрой.

Мой голас — віхравей зімовы.
Хай сэрца б'ецца!
Балазе нязгодам свету
Айчына адзавецца...

Вось, даражоная, цяпер
у супакоі майго сэрца,
засне той мір,
што прашчур знаў,
сыплячы да намёту жвір.

Пад ягонымі нагамі
былі сляды звяроў магучых.
Каб піць ямчэй сядзёр кляновы,
з бярэсты кружку скручваў.

У супакоі майго сэрца
я прашчурам зайздросціць мушу:
свабоду іхную хваліць хачу
ў сцізе пушчаў.

Я сцігую мінулых сэрцаў шорах.
Мне любы вецер на ўзвышшах нашых...
Гнеўна памірaю на крыжы —
астанкамі старых прашчаў.

* * *

З цярплівасцю я любасць падарую ворагу.
Не ўпершыню я адступаю меру.
Курыць і пылам і дымам смерці
і нікне знібай
кроў жаўнера.

---

Ці ноч спакволіцца крыкам болі?
Ці месяц высвяціць схаванае цярпенне?
Упрыгожваецца
натхнёных сноў крутлівасць:
сваім аслепіцца
пакаленне.

---

Ці ты, ці я, мае сябры, у жыццяхвалях
плывём да берагу далёкага.
І, бы на злосць
у высях таямніцца,
той самы сціж свяціл,
што здзек зямлі не ведае.

---

Не ціхне спеў вятроў усцяжных,
як раса спадае, нябачна, на зямлю.
Весткі смутныя, нявокметна, пачуўшы,
спагадамі малюся ім.

Зло дабром не ўгамоніш.
Згоднасцяй заслужанай яно
штодня між намі ўваскрасае.

* * *

Упэўнена ўсё заручана сабе,
хіба ад сэрца можна гэтак думаць?

Шмат парожняга ў сэрцы б'е
смехам смешным чорта.

Пакуль вятры не дзьмуць з далін лясных,
ліюць пітвой хваёвай,
ручайцеся сабе жыццём завіхна.

Не лягчэй, і не будзе цяжка,
вярнуцца хмарам да верхалін лесу.
Надоўга астаецца ў сэрцы казка,
як наведальнік цярпення мае.

А пакуль у ранішні спакой далін лясных
ад схону неба вецер уварвецца,
ручайцеся сабе: межы ёсць хістання —
жыццё заручана сабой завіхна!

* * *

У рэках часта не стае вады.
Аднак бруняць фантаны струмнём халодным,
у самым, ад людзей шумным месце
ў блізіні мора прыгодаў поўных.

Віно таксама льецца ў воддальках фантанаў,
пастаўленае на сталы.
Мроямі карцівымі гулякі й прапойцы
трымцяць, як хвалькі ў басейне,

бо ж калі
ім справіцца з гульнёю сваіх целаў,
із сэрцам, што нявечна б'ецца?..

Вецер скардзіцца званамі із святыняў.
У святле жаўцелым свечак,
з набажэнствам шчырым,
святары за іх мальбою стыгнуць.

* * *

Гэтак дорага каханне наша
і жыццё.
Спявае вецер шчасцю,
зычыць пешчы,
і дзіцё
вясёлае на руках у маці —
спеў яе кахання.

...у напеве вецер — лагодзь шумлівая,
натрапіўшы на след садоў,
вецці паражніў ад лісця асохлага,—
ды зноў:
там сцені ўтрымалі прыгаство кахання
(не сварку дзедаву),
а каханне — крыўджанае каханнем.

* * *

Не ведаю, што ты думаеш,
я ўжо юнак каханы?
Я чую просьбу сэрца захопнага —
вясёлую цешу рану.

Вецер парывісты на пляцы.
Ветру больш ад «Лявоніхі».
Краскі адышліся расці далей —
на андараках краскі сваволяць.

На працу забудуся — нізавошта цябе.
Хвалюецца вецер, хвалююся я.
— Да цалунку рыхтуйся! — смяецца яна,
бы з працы гультая.

Не ведаю, што скажаш пасля,—
я ўжо юнак каханы.
Я чую просьбу сэрца захопнага —
каханне цешыць
каханне.

* * *

У гурце з краскамі гатоў узвіцца вецер,
і квола змоўкнуць аж над возерам.
Хмарамі няветліва ўпрыгожаны вечар,
бы сонца, ночы перавозяць.

...і я прашу цябе: — Прыйдзі,
у той куток, дзе ёсць завівы
маладых вятроў асенніх,
пад выгляд сонца гамазлівы.

У дні адлёту мо пагодзімся.
Я ж прад табой заўжды схінёны,
слухмяны ветразь мараплаву,
або ўбогі прад Мадоннай...

* * *

Галубка шызая — у песні так пяецца.
Спявай, спявай!
Убраўся сад увесь у май —
вясняны рай.

Вецер, бы наўмысна,
ляціць туды, дзе гай,
красой зялёнай цешыцца...
Ах, вецер, не чапай
пялёсткаў кволых —
вясняны рай!

...і так здарылася, што зноў,
я зноў руплівы да кахання.
Сад на людзёх. Хачу, каб гай
туліў дваіх спатканне.

Галубка шызая — у песні так пяецца.
Спявай, спявай!
Убраўся сад увесь у май...
І зноў вясной
не сохне гай.

* * *

Зоры рэдкія іскрацца, як раса,
і вецер лёгкі —
    дыханне дзіцяці.

Сад губляецца ў пацёмках,
і крокі —
    гамонка немаўляці.

Калі б месяц засвяціў раней,
і вецер квола
    сцішыў шамценне лісця,

        я, пэўна,
        зямлі глушэц,
                здалёку,
                падслухаў Бога прыйсце.

* * *

Дождж спыніўся.
Ты, вецер, у дастатку
цяпер пагавары за кроплі голасна.
    Барздзі да дрэў.
    Пасля дажджу, бы арфы новыя,
    яны
    гучней адклікнуцца...

...у роўніцы сваіх часінаў доўга
дрэвы добрасцяй дажджын зіхцелі.
Уночы толькі вецер іх крануў,
бы месяц пырскаўся з нябёснае купелі.

* * *

Вецер шасцеў за вокнамі,
шасцеў.
Хмары месяц зганялі з неба.
А восень, бы спрытныя рукі,
вопратку з дрэў здымалі.

Бы савінае крылле шамцеў,
шамцеў
за вокнамі шорахна вецер.
Ноч апушчала неадгоныя сцені —
цела з душой разверыць.

Перад світанкам вецер заціх,
заціх.
Месяц хмары прагналі.
Званіцы святыняў
не ад зямлі,
а з неба
нябёснай цвярдыняй стаялі.

* * *

Так ціха, што нават, здаецца,
сам рассыпаўся ў ціхату.
Сонца заходу, бы скронь бражовая неба.
І час усялякі далёкі, бяспамятны,
бадай зрабіўся вячорнай зарой.

Ветру няма — ён за дзень ацяплеў,
лянуецца скрасці ўражанні дрэў.
Цішэй позірку возера свеціцца.
Чарот і трысцё — валасы абмяклыя
на плечы бярэжжаў апалі.

У гэты вечар, блізу свята-святочны,
цела аціхла маўклівай пакорай...

Сонца зайшло.
І на сцежку, ступіўшы, зноў —
заўтрашні дзень
турботай
пакорыць.

* * *

Дзень свеціцца да сваёй пары.
Не ўсім лядайкасці ў цяглiцах нашых.
...голасам бяскратным, аж за ўзгоркі,
рэха клікае
замашна.

---

Моўкнай гутаркай, бы хата цуплая зімой,
сэрца скардзіцца пастуха
далінам травяністым,
у верасох палянам.
Там вецер змёў
думкі ягоныя,
і стук рагоў — сустрэліся
на святое Юр'я статак вясной.

---

Па-свойму зайздросцім вёснам,
а сонца пассоўваецца да пары
пастуху ўспомніць:
ў часе сенакосу
заўсёды духам ён стары.

---

На пожнях скошаных паліць вогнішчы.
Статак не хаваецца ў хмызнякох...
Надзіць бачыць: ручай, бы памяць,
успамінае лета ў лясох.

*1953*

* * *

...о вышыні! Нябёсныя вышыні!
Мяне зямны не страшыць рогат перамогаў
пад вашай цёмнай або светлай зналіцай...

Ды, не!
Барзджэй!
Дзе ж вецер дураслівы?
Вей!
Вей весялей ты, подзьмухам нябачным!
Мне млосна ўжо, мне страшна тут.

А мо?
Смялей, смялей,
з далін прадоння дзьмі,
абвей мяне,
раздзьмухай шлях Птушыны
працёртай сцежкай —
знаёмы для зарынак!

Ах не!
Мне млосна тут,
мне страшна на зямлі маёй.

Ды галубом ляту.
Скрояна зямля кірункамі вядомымі.
Вецер, памажы!
Даляту хутчэй, адкуль я вылецеў.

О вышыні! Нябёсныя вышыні!
Пад вашай зналіцай
у казаннях родных казак
задорасці крыві маёй.

* * *

Калі ёсць слова самае першае,
то гэта:
каханне было,
і штосьці іншае,
большая чымсьці вера і брацтва,
гэта — ці не мы,
нас, удваіх,
што помнім сябе, і сёння, і ўчора,
словам не названым?

Калі толькі было яно
пакутай і цярпеннем,
дык, мабыць, у словах найпершых
жыла трывога,
несказаная ад самага пачатку
твайго і майго маленства.

Любі яе неадрачона,
і слова першае і апошняе
будзе:
ёсьцека мы, і былі мы.

*1955*

* * *

На ўзбярэжжу смутак ровен кроплям слёзаў.
У мора выплыўшы, жадаеш пеніць хвалі.
(Чаго ні хочацца чалавеку!)
Ды верыш радасцяў ніяк і не памножыш,
яны ў благасцях прапалі.
(Усядно ў якіх — яны адны спрадвеку!)

Але смяешся,
прынятліва,
да слёз таксама,
з пахвалаў блудніцы надрыўнай і прыгожай.
Возьме ад цябе яна ўсё,
пакінуўшы спамін, як келіх апарожнены.

О, лепш нічога не казаць пра смутак,
калі каханне ў сваім пачатку!
Жаданням часта памяткі няма —
і сэрцу не мінаваць журботаў скратку.

*1955*

# Ад сноў, ад памяці й чутнасці

## I

Няўтойнасць кажную, заснуўшы, я ўяўляў узорам,
што ў водмежках душы мае гарэла.
Я верыў моўкнасцям сваім празорым,
і месца ім было — ноч летняя ды пасцеля.

Я прагны імі. І кажная вахлавасць перада мной пясцела
такім адпетраным наўрокам і уторам,
што здавалася — плажміць навошта? У каторым,
ах вам — амінь! — ёсць кропля розуму і цела.

Пад уладай схованай душы, як вецер ненавочны,
я мог ісці жняцом у Час любы, на сваю Ніву, дзе кажны
колас быў сярпа ўзмаху рады. І мальбе урочны.

У светлы мір далёкіх зор услухваўся, бы мніх разважны,
каб толькі зноў у селішчах прысніць братоў сваіх
з адзінотнай тайнасцяй... святога не ад святых.

## II

У памяці ўсё бывае.
Мне памяць сёння падмовіла дзівосна:
    чалавеку першаму ўсёдно было,
    дзе любую сваю кахаць ён мог,
    дзе спадкаемцаў пасяліць здаралася
    і дзе бязмоцны і стары
    мог узвысіць розум свой,
    як нізенькі парог.

Але не снілася яму
    мае цяпершчыны суцем жыцця
    із супакоем быццам сон запраўдны:
    дзе ўсё назначана надуманай размершчынай —
    кажныя наўмеры прымай, як нейкі рай,
    што будзе некалі на касцёх тваіх
    фосфарам жыцця свяціцца;

дзе бы,

ад рэчы, кіненай у ставок,
адходзяцца завіціны вады да берагоў
і нікнуць паміж імі нарасцівай глуханёй,
прыходзяць усялякія жаданні нам
з неперажытым аніяк жыццём —
бо ўсё бывае ў памяцях у нашых.

І рукі нашы годзяцца рухлівасцям усякім,
і душой расцём, як дрэва з каранямі,
і хінемся пабыць,
хоць кволымі,
але бажкамі.

Усё не забываецца ў нашай памяці.

III

1

Ёсць адна дзівосная часіна:
яе спакоем я назаву.
Кропля скропне на траву
і прагнасць пільная
ахвотна рэчай моўкне.
Было мне цяжка сустракаць спакой.
Я пазнаваў яго заўсёды ў пацёмках.
Мальбою занімаў яго. І слухаў брунь крыніцаў,
ад якіх дзялілася да ракі зямля.
А пацёмкі? У пацёмках пастукаю прынукана.
Дзверы не адчыняць. Я цемлю за дзвярмі спалох:
мізэрная пяшчынка трымае муру злог,
ты ж Боская струна, што трэснуць можа.

2

Мы не ведаем, дзе частка ёсць мяжы
спаткання каралёў, узнанку абвянчаных.
Мы znічкам назіраем іхных душаў морак,
яны, як кіненыя на стале нажы.
Ім з тацьвай абяцаецца свая знямеласць
бліщчэць выпадкам кароткага спакою,
пакуль іх вочы ў пацёмках зблукнуць
у нейчым крыку — жыцця умеласць!

## IV

З голасам нямым мае зямлі
рукой дрыготнай я бяру пясчынку.
Схінаюся без руху. Сны жывуць,
жылі
ўнячыўку.

---

Унята малачавасцяй неба верасня.
Яе крылом падзьмуўны згоне вецер.
Восень будзе цёплая. Так лёгка верыцца
прыкмеце.

---

Адоленага гурмай усякага быцця
(дзе нават сцежцы пакласці цяжка знак),
спадзяванні крышацца. Ды шэпаты жыцця —
усяк...

---

Раджанне неўтрапеннае — прадчуванні нашы.
Навага дбае абток знайдзены.
Вогнішчы патухлыя... ды мроі лашчаць —
хлеб твой абыдзённы.
. . . . . . . . . . . . . . .

## V

Тваім імём праймаюся, як святасцяй якой —
часу аніяк уцягнасці свае мінуць.
Так часта ветразі на быстрыні рачной
і да хваляў, і да ветру льнуць.

Чуецца прыроджанасць да чуткасці чуцця:
сэрца нецярплівіць нат дробязных нястачаў.
Я кажны дзень мяркую: — Каб хаця
я што-небудзь ды ёй прабачыў.

І так бясконца — свет ты мой!
Ды заўтра стацца можа па-інакшаму.

Перажыванні дзён я у душы сцярог —
шмат падкупнага дзеля сябе з табой...
Блізіцца пара, як прадзед некалі,
я пачну любіць парады й прычасці;
цвяліцца ад тупацення ўнукавых ног
і навучаць яго:
— Не лёгка ад жыцця ўсё ўкрасці.

*1955*

## VI

Назіраю і чую ўсёй душой, мой свет
аніякі рух я часткай не раблю майго ручання.
Часткава ў мернасці азначаных спакмет
знаходжу праўду собскіх прызначэнняў.

Вось заўтра здарыцца: я пераконна
паверу маладосці — яе зусім не скончыў.
Але што ёсць, і будзе хваляваннем,
у сціплым позірку не схаваю вочаў.

Я назіркам слядкую за жыццём маім:
часінай кажнай жыўлю яго і смерчу.
І толькі надысь,
парог у дом пераступіўшы,
дзе было святло і госці раней прыехалі,
моўкнасць скрозная ў целе ў маім
спатканнем іншым уцешыла спамін.

*1955*

## VII

Я шмат што пераняў ад самаго сябе.
Я плакаў, як маленец кажны;
дакорлівасць кахання зведаў
і на жыцця дарогах
прасіў спагад усякіх.

Застаецца шчырасць падараваць камусьці,
каб кінуць тайнасці мае у пахавальні.
Я не зракаюся, што, жывучы жыццём,
браў яго крывёй сваёй,
і хвалой даслаўнай — усялякай.

---

І радасць не зрахую — пясчынак будзе мала
іх адлічыць на сяння і на заўтра.
З прамежкамі слязін,
яны цяпер і помняцца і надзяць
прыветнасцяй спаткання ціхіх дзён,
якім аднолькава адплачуся
усім сабой.

* * *

У вогнішчы крылы вецер не знявеціў
мкне далей, у поле, да гушчыні лясоў,
памятна з пажарышчаў попел звеяўшы,
людзём іхнай песні не знайшоў.

Буйнее іхны гнеў. У подзьмухі хісткія ветру
патаемным шэптам не скардзяцца яны.
Небакрай аціх. У ціхаце далёкай
ён поўны ведамак і смерці й жыцця...

Вочы застыглыя, што спраглі быць жыццём.
Сэрца б'ецца ў суравым гомане,
у тых, хто раны палічыў свае,
пад скраткамі адвечнае свабоды.

*1956*

* * *

Прасцінкі зямлі і ўзвыш нябёсаў
не ведаюць утомы.
Вецер паміж імі — ахалода іхная.
Неба больш маўчыць,
зямля
стромы зорныя цвяліць ніціхатою.

Крыху пазней, апоўначы, у вёсцы ціхата.
Глухамань у горадзе толькі камяніцы.
Начную працу скончыўшы,
накладач,
кляў жыццё за півам у піўніцы.

Ён працу цяжкую кранаў рукамі,
наскладаў яе ў цягнікі й вадаплавы.
Вочы плюснуцца
заснуць... і сніцца:
дабром напоўненыя мяшкі каляныя.

*1958*

* * *

У манастыры, у гэтым, свечку не цяплі,
а зацяпліўшы,
у іншым
дзесьці,
пачуцці іншыя
ахінуць цябе;
і нават снег
па-іншаму забялее,
і нават,
што мінула,
што было учора,
успомніцца
па-іншаму табе.

Мінулае успомні,
калі не будзе будучага!

*1959*

* * *

У ноч зімовую,
маўклівую,
маўклівую за ціхату,
я разбудзіцца хачу заўсёды,
каб словы мілыя
сказаць начы:
— Дабранач, Ноч!
Ноч, адпачні
на святлістых руках Усходу!

— Дабранач, Ноч! —
і гэтага я не прасплю:
— Пакінь зорамі
агніста-палымянымі
людскія цепрасці.

— Дабранач, Ноч!
Ноч зямлі — дабранач!..
Расінкамі радасці
пакінь пакуты нашы.

Мне хочацца,
і заўтра,
я схлушу:
— Дабранач, Ноч! — скажу.— Дабранач!
— Ноч адпачні! — Зайздросцы!
...моўкнасць некалісьці,
тваю збяру.

*1959*

* * *

Даверцеся:
усё было ад самага пачатку
на зямлі,
калі па ёй
пачаў хадзіць із дзідай прашчур,
палюючы за турамі на лугох лясных.

Можа, жменямі залатыя пялёсткі
ён сыпаў у ручай,
каб той брунеў гучней.
Мо па-іншаму каханне адчуваючы,
гаротнікам не быў дзявочых дзён.

Боль усялякая была яму балючай,
але апошняя,
не ўздагадку,
пад плач зямлі — раса ірдзістая —
назаўсёды сціхла
каменнай неманяй.

Слязьмі апалымі аж за ляснымі сценямі
рэха слоў шчытнела нараджэннямі...
У воддалі пячораў кляліся нараджэнцы:
— Жыцця трывогаў
не таім, а —
зайздросцім!

*1959*

* * *

*Бацьку, знішчанаму немцамі*

У вёсцы невялікай з імём Забродак,
там нарадзіўся я.
На падлозе былі дашчаныя палавіцы,
шчыльна скрэпленыя.
Пакуль па іх узімку
было вясёла поўзаць.
Дрэвы навакол раслі ўкорліва
(а пазней спакмеціў),
пад самую сялібу,
блізу на вокны.

---

Было жыццё у блізасці.
Над мухай забаўляўся
на шыбінах ваконных.
Двайное неба для яе знаходзілася:
ляцець ці адляцець жывой
аж на камоды,
на гадзіннік, што шукаў гадзіны
у нашым памяшканні.

---

Ногі, апранутыя басаножам —
сваім маленствам,
на складках будучыні абрастаў абуткам.
Спрачацца із бацькамі навучыўся.
Мой любы певень зноў
на прадажу быў адсажан.

---

Падрос. Першая ці другая палавіннасць
майго жыцця — бадзёрасць.
Усе мроі гналіся за мной.
Але часцей спакмечваю.
Бацька ходзіць смутны.
Лажыцца рана спаць.
Пакінуць, мабыць, трэпеткі
свайго быцця

прысуду сноў,
бы на целе адлічыць сваім
аддачу
будзённым апекуном.

---

Наканаванне вытлумачана —
прызвычаенае да пераменаў.
Бяссілле ёсць спадзевамі адолець!
— Хвароба ведае найлепш,
чаму хварэем,—

аднойчы бацька мне сказаў...
Вочы бачаць колер —
плён ад працы.
Лікоўна ахінае дань пакалечаная.

Снуюцца хмары, пад сонца кіненыя.
Жабрамі пахлопліваю — рыбай злоўленай
разам са сваім бацькам.

---

Загінуў ты.
Цішыню тваю памерлую
не растлумачу анікому.

*1960*

* * *

Навошта кволіцца слязьмі і смуткам?
Пасля смутку дабром і злом я поўны.
Ад часу, калі калыску кінуў,
Дабру праз Зло я добры.

Я ўкленчу прад Дабратой сваёй —
(рака пасля паводкі ў плыўнай ціхаце),—
але, хоць крыху адчуўшы Зло,
нянавісцю свячуся ў цемнаце.

Казак пра жыццё не хочацца казаць.
Усё жыццё без казак — казка.
Як пераможца-вой ступаю на зямлю чужацкую,
што непераможная для мяне загадка.

Для мяне жыццё — толькі сэрца стук,—
усяк яно ў жыцці б'ецца...
Учора дзень быў жорсткі й вясёлы,
але роўны, роўны смерці.

Люблю нямоўкнасць жыццёвых спрэчак.
Жыццю справедны ад нараджэння.
Спадчыну, валадарную ад жыцця,
і я
пакіну пакаленню.

*1960*

* * *

Тую ноч я жадаю памятаць.
Пад ейнай засеняй чуўся, бы ў хаце.
Навокал горы — пакіненыя сцены замку,
месяц над імі — вялікомасць атама.

Увайсці хацеў да пячораў цёмна-замкавых,
там негамонка вялі бяседу
волатаў некалькі з Машэкам Магілёўскім
пра жыццяскрухі, што былі пад сілу ім.

Яны прывіднямі мяне абмінулі,
у падмурных сценях распаліся высатой.
Сумнымі вачмі агледзеў я сябе:
сэрца стукам разбівала грудзі.

А ноч гняцілася цеменяй падмуркаў.
Свет увесь у думках
я іначыў церпна.
Сон яваю жыцця
падсцерагаў мяне:
— Валадарнае не прасі,
уваскрошвай!
Ветразям заўтра, зноў,
вёслаў разгон паможа.

Памолімся, так, як ёсць:
за рыбу гандляр
не
пераплоціць.

*1960*

## Раніца ў падарожжы

1

Пушча хлынула астыглым валам водрасці
у воддалі
за ракой шырокай.
Сонца зноў,
зара яго прыслала,
нячутным звонам біцца
над самым скраем узвысістае пушчы.

Усплёскі хваляў,
бы лішняя вада затонам,
хоць узбярэжжа вышэй за іх,
здавалася, уночы расплёскаліся плажма
ў шырыні лугоў і ніў.

Раса бражовай срабрынёй ірдзее.
Хмары дзве кволыя на зараём плывуць.
Жалейка пастуха рэхам распласталася,
поўнячы зямлю жаданаю парой.

Птушкі, за пастуха раней і сонца,
спевам прывіталі зямлю ўсю.
І зноў у светласці дня ўторнага
мроі добрыя аціхлі сценям.

2

Рака будрожаная ўночы плёскам рыбы
пырскаецца праменнямі, быццам мала іх.
У гэтым месцы
няма тут пераправы,
не можна перайсці раку ўброд.

На беразе другім
(яна мяне не бачыць),
вопратку скінуўшы,
наготная, бы раніца ўся,
дзяўчына ў раку заходзіць,
скаланаецца ад хваляў сцюдзёнаватых,
валасы на плечы таксама хваляй рынуць.

Маладосці ейнай
уцехі ў палёх няма.
Прыемна, мабыць,
глыбінь ракі будрожыць? —
пра гэта ў сябе адно пытаюся,
слоў маіх ніколі
не чуць ёй.

Плыве ў супраціў рачнога сплыву.
Мне міла яе не ведаць.
Але душой
да яе цягнуся.

3

Запаветаў сваіх не ведаю,
але шмат чужых наслухаўся.
Мне лёгка турботы іхныя,
але цяжка мне
свае,
чым іхныя.

---

Раніца сонечная — люблю я сонца!
Ноч люблю, каб з цемнаты ўстаць,
у поле выйсці,
месяц бачыць,
вышэй падняты хмараў адзінокіх,
вышэй за небакрай над лесам, полем,
каб ведаць: больш няма ратунку
ад рэшты думак сваіх руплівых,
ад нейчых запаветаў свойска-любых
дбайна пераплеценых у бібліятэках.

---

Запаветаў я сваіх не ведаю.
Я цешуся жыццём валацугі вольнага.
Здарэнні добрасці людской люблю.
І свабоду думкай нелетуцівай,
без жалю часткамі велікомымі
кажнаму дзялю ды векавечу.

4

З пачаткамі вясны свае мясціны я пакінуў.
Не хачу тлумачыцца, чаму пайшоў вандроўнікам
або тулягам па сваёй зямлі Айчыннай.
Спытацца пра гэта можна ў майго суседа.
Ізыдара,
бо ён заўсёды назаве мяне:
— Панас бясштэнны, бязкляшторны,
сярод паэтаў наскіх нарадзіўся.

Адно даверцеся: нам праўду надзіць Бог —
зіма і лета да нас у час прыходзіць,
а іншае:
падстаў цяглiцы і розум дараваны Ім,
каб апынуцца ў валадарнай страце дзён,
што гарэць, бадай, лясным пажарам.

...усё быццё гадоў у навальніцах першых
у час вясны, ці ў жыцці сярод людзей,
што дні свае заўсёды дзеляць
у працы цяжкай, у пакутах,
у выдумках пра шчасце у быцці мінулым.

Успомнім зналуску, болесць дзён і радасці,
і першы сон прыгаства жыцця,
і мрою абяцаную унуку дзедам,
успомнім шчыра, не ўпершыню.

5

Я сын для мацеры маёй.
Мяне сынам
народ Айчыны кліча.
Краінаў шмат я любіць магу,
але народы хай самі сабе любяць.

Я шмат прайшоў прастор Айчынных.
І вось дайшоў да Нарачы бурлівай.
Спаткалі хвалі неаціхлым рокатам
і зарой вячорнай у небе толькі зіхатлівай.

Узмежжа хвалям ёсць,
зары ж па небе,

усім размахам разліцца можна.
Здалося мне:
няма бярэжжа небу,
але і хвалям між камянёў
не утаропіцца нізінай.

Куды ні глянь:
бягуць за хваляй хваля.
Гурмой гагаркі на ўзбярэжжа селі.
Іх крылы не вяшчуняць мір у разбезе хваляў —
узлётам крылаў самі хвалі надзяць.

Уночы,
калі скрозь хмары свеціць месяц
і хвалі аплываюць, як чаўны на іх,
рыбакі з спадзевам багатай лоўлі,
будрожыць любяць спакой азёрны,
і скрыкі іхныя да берагоў лятуць,
бы невады, у глыбіню апушчаныя.

6

*Максіму Танку*

Шчасця рыбака ўспомнілася мне,
казка, што не сэрцам,
а розумам паложна цеміцца.
Наканаванне гэткае аднойчы прысудзіла,
каб праца не мінала рук яго,
звахам крыламі сакалінымі
    невад і сеткі распластай
    у нетры возера, Нарач-возера.
    Хвалі вазёрныя скалынуцца
жывым, даробным скарбам —
    рыбай.

---

Уваходзілі рыбакі ў човен, поўны сетак.
Небам прасцёраста лускатала Нарач:
    вочы рыбакоў і хвалі возера
    палыскаліся лузгою рыбы.
    Дзеці ўслед глядзелі.

Ускрыкі іхныя з бярэжжа
шчаслівае маленства пэўніць,
цяжэй, чым пялістыя ўзмахі вёслаў,
цяжэй, чым радасць
трапяткую рыбу з нерату выцягнуць.

---

Рыбакам заўсёды свеціць і не свеціць сонца —
у нябёсах плыць знаходзяць месцы хмары.
Плёскаты гусвірастага затону
цемені глыбіняў аб'яўлялі.
Чаўны міналі ўзбярэжжы,
паднявень краналі прагна невады.
Сіліліся ветразі ад ветру ўсялякага
між прастораў ірдзістае вады.
Невады з рук рыбакоў шукалі месцы,
здаецца мо, ніколі нечапаныя.
Твань выцягвалі. Кагаркі не ляцелі
крыкам памагчы цягнуць дабычу.
У іхных крылах растаропленых
шарэла возера надыходам ночы...
. . . . . . . . . . . . . .

*1960*

## З народнага

— Пайду з табой.
Пайду да возера, іх шмат у нас.
Вянок Купальскі кінуць ад бярэжжа.
Я пахвалюся:
даплыве якраз,
дзе рака і возера сплываецца.

— Там нікога ўжо няма,
ні рыбалова на чаўне цяслёным,
ні касцоў стамлёных на лугох ля возера.
Адно ракі расходзістая плынь,
і трысцё шасціць расхвіліста,
бо вецер адляцеў ад хмараў...

— Ты любі асудліва маю знарочнасць.
Танцую я з табой, як дождж той па лісцінах.
І бачыш зноў:
вось сёння, я прыйшла
прыгожасць кідаць
вянкоў Купальскіх.

— Навошта красатосцяй красак у вянку
жадаеш веціць наканаванне?

— Любы мой,— а як? Я — пчаліна!
— Тады хадзем. Хадзем адгэтуль.
Словы
усяляк паслухаем
у вуллі нашым.

*1961*

## Лісток на дрэве

Здрадлівы вецер не любіць цішыню.
Кранаў усё барздлівым шумам,
не сваім:
апраметна
захонамі ляснымі,
крыллямі шасцістымі ляцела,
лісціня і трава сухая.

А ён трымаўся на галінцы —
лісток апошні.
Ён жыў вясной яшчэ
і летнім шорахам.
Маці-дрэва высокае і магутнае
не пакідаў.
Не ведаў ён, хто бацька быў яго.
Ён мовай ветру размаўляў:
— Я жыву яшчэ! Любі мяне,— цябе прыгожу!
Не страшна мне сустрэць зіму.
У сцюжках сіверу весціць буду:
ты расла, расцеш
у патаемнасць неба...

---

А вецер дзьмуў, дзічэў,
сцюдзёнасцяй калеў.
Неба абяцала: — Не адступлюся!

---

Апаў лісток.
Пайшоў, дарогі не шукаючы.
Каля карэння, бы на парозе,
ён раз шапнуў, у спадзе лётным:
— Блудным сынам буду... Сынам блудным
буду я цяпер.

*1961*

# Казка пра возера

*З «Новай элегіі»*

М л ы н а р
*(да двух на возеры, яны каля ўзбярэжжа)*

Вярнуцца не можна было
вадзе ў цямрынь падзямельную.
Быццам у сполаху, бадай
ад радасці, гэтак дрыготкай забілася,
што блізкі ўзгорак —
жарсьцвісты гарбок —
пакрысе перад ёй апусціўся:
убраўся зялёнай вярэйкай чаротаў.
Гастрысты жарсцвяк, аднак, не стрымаў
ні сплётаў карэння травы,
ні скратнага цёку вады:
ночы аднэй каля вёскі блізу
зацурчэў ручай із возера гэтага.

І думалі людзі (калісьці, даўно),
кудысьці таксама яны адплываюць.
Але вось мой век ужо мінае,
шмат дрэў пладзінёй у садох
вясной некаторай зусім не пладзіла,
шмат іх назаўсёды засохлі,—
наша вёска, як і раней,
на месцы адным
засталася.
Ад таго, што цесна на сялібе кажнай,
нашы сыны бліжэй да возера асяліліся.
Уночы месяц (хоць дзядок, а люблю
глядзець за месяцам у хвалях возера).
Месяц неба — месяц у возеры,
здаецца, нанач
нябёсы
на зямлю апусціліся!
А ўдзень (з сужэнкаю яшчэ спрачаюся)
хаджу глядзець купальніц маладзенькіх...
Калі б вы сюды радзьвей
пабачыць прыходзілі
спатканне возера із днём і ночай,

вы напаткалі б
патаемную
цуднасць зямлі,
што голасам віхравейным
і навальніц гаворыць.
...вы б самі сабой уцешыліся:
два страхоцці-мужчыны
на хвалях возера плаваюць.

Двое з чаўна
Цынік, цынік ты стары.
*(Адплываюць на сярэдзіну возера.)*

Першы на чаўне
У зайздрасці да жыцця гаворыць гэтак.

Другі на чаўне
У жаласці старэчай — ад жыцця, напэўна,
не ўсё узяў,
таму і цвеліцца, як гаспадар які,
што хоча бачыць зірком адным:
ўвесь здлон ягоны
ў парадку месціцца.

Першы на чаўне
Карацей скажы:
яму надумалася —
ён на зямлі жыве адзін...

Другі на чаўне
...упершыню
ты думкі не дваіш мае.
*(З ускрайку лесу каля возера — спеў.)*

СПЕЎ ДЗЯЦЕЙ

Каля гнёздаў сетка
нябёс і прыроды.
У гнёздах саміх
радасць снуецца —
найбольшая ціхата.
Але змрок
там заўсёды бывае
ці днём, ці ночай усякай.

З хмараў — нябеснага пылу —
змрок большы усюды сцелецца:
у лесе, у полі, у небе.
Азёрная вогкасць тады
да самых сяліб падступае.

Што нам, дзецям?
Мы дзеці заўсёды.
У долях прыроды
і бацькоў змагання
ходзім, валочымся
па двары, ля варотаў
спадзевам прывучаны:
гасцей пазнаваць,
і грымоты дажджлівыя
у хаце праводзіць.

Чараўніча на свеце ўсё!
Ля сялібаў улетку
шмат красак (не трэба
іх рассыпаць
                    прад гасцямі
неспадзеўнымі,
прад бацькамі
калі з працы вяртаюцца),
растуць яны,
каб полымем жывых каляроў
сцены будоўляў буялі.

Адступстваў нашых
ніхто не даруе,
нават сам вялікі Бог.
Наследвай бацькоў
і старэйшых братоў,
што розумам нават
дурнейшыя нас.
І мы баімся
не чорта і не святых укорнікаў,
а бацьку ятрыстага
із дзягай шкуранай, татарскай.

А нам маленькім
жадаецца быць

ростам і розумам роўнымі
з старэчамі тымі,
што ледзь толькі парог пераходзяць,
з тымі, пры спатканні што любяць
нашы галоўкі
у скручалінах
гладзіць.

Мы дзеці із цэлага свету,
за крыўды свае заступаемся.
Не просімся (бацькі хлебадайныя),
вы самі гэтак упрошваеце:
— Прыбітых змаганнем
пашкадуй да часінаў прыгодных —
іх Боская смерць падмяце.
А нам талакою
жывым, пераможаным
цяжка не будзе адмерыць
шнуроўкі узнорку
пад магіліцы.

Свабода нам па прасторах пабегаць...
О, Божа нябачны, дзяцей упасі!
Падрасцём — свабоду порцыяй выдадуць.
У шатах ейных не леткасць, а сцюжа.
Не тое што лес ці нівы жытнёвыя
у вобмацках з нашай душой.

Не старэецца існасць, прыгаство памяняецца!
Сэрцы дзяціныя тояць пагарду ужо...
Разыдземся, браткі, целам і душой здаровыя
над бацькамі нашымі кпіць.
Мы ж расцём,
досведам хваткім мужаем.
Шкуранымі дзягамі із менскіх заводаў
мы родных бацькоў,
ах, як змалодзім!

Млынар
Спеў дзяціны душу прыгожыць.
Мяне салаўі ніколі не прываблівалі...
Навошта сціхлі вы?
Сонца яшчэ не заходзіць?
Гневам якім за вас разгневацца,

ці тым, што ў сэрцы б'ецца,
ці тым, што б'ецца ў руках мазолістых?
Разладам айчынным я даўно цвялюся.
Але шчасліва ў Айчыне быць.
Не толькі харастcovом ейным цешуся,
а даткам працы вялічу яе...
Ды аджа навошта
хваліць сябе? Навошта?
Сілу праклёнаў хацеў бы бачыць я...

П р а ў н і к
*(з'яўляецца неспадзеўна)*

Вітанне! Ахвочы вас спаткаць.
Памогу дам, яна патрэбная вам.
Сумлеву да мяне ніколі не трымайце.
Спецыялісты я вышэйшае ступені.
Заместа вядзьмарак, усякіх чарадзеяў
на свеце праўнік аб'явіўся.
Чараўнік таксама я,
нормай права карысці прычарую,
І за працу банкнотамі бяру,
або лягчэй: гарантаваным чэкам.

М л ы н а р
*(у нецярплівасці пагутарыць)*

...не спадкаберац я ні гербаў кованых,
ні нават колькі лішніх акраў ніў пад ворыва.
Я толькі той, што спакусы любіць
гэтакіх, як сам я.
Кіраваць з млыну — з будоўлі невялікай,
нікім ніколі не збіраюся.
Хачу, бы нейкі добры князь,
лішнюю збажыну на хлеб перамалоць
і раздзяліць яе паміж,
хто прагне лоем пуп аправіць...
Душой заўсёды чалавек я добры,
але праклёны люблю я пасылаць:
з людскога сэрца ўсё нялюбае
скаўзаецца удол, як із сцяны адхоннай...

П р а ў н і к
*(пры сабе)*

...засвеціць сонца,
і партрэт зямлі

выступіць увесь.
*(Да Млынара.)*
Не барздзі мірыць сябе з сабой.
Ад міру гэткага
па свеце
з торбай пойдзеш...
Собства небяспечна мецъ.
Спадкаберац забярэ яго,
а часам могуць дзяржаўныя ўлады,
але, але-е...
пакуль што знакам гуманітарным
азначыць яе можна.
Вось, прынамсі, што жывот не ператравіў,
мы назавём вялікай думкай
або ахвярай небывалай.
Маёмасць згарыць, загіне ў пажарах войнаў,
аднак думка, вось твая, застанецца
собствам на век-спрадвечны...

Млынар
Што будзем мы тварыць?

Праўнік
Закон — заўсёды справядлівы.
Як у часы мінулыя, старыя,
сачу, ці сочым цярпліва мы
звычайнае хіненне праўды аж да зла.
І прытым анёлам не даносім,
хто згінуў у ходанні із намі:
вораг ці дабра наўмерац
жыцця благоцці па-роўнаму падзяліць.
Мы толькі, як ты у ратах, плацім
падаткі хітрыя дзяржаве кажнай.

Млынар
Цябе я разумею.
Крыху бліжэй да справы.
*(Пачуліся дзяціныя галасы.)*
Удол гаці зыду.
Балюча слухаць мне
галасы і спеў дзяціны.
*(Праўнік, не пазіраючы на яго,*
*ідзе памалу па гаці каля возера)*

## ДЗЯЦІНЫ СПЕЎ

Хібаў шмат у руках нашых кволых,
майстра сказаў нам учора.
Хвала, бы роўніца з небам,
не ступай на яе парогі.

Змей папяровы із нашых рук
бяз ветру ў небе віецца.
Кажны аддаў, што збярог
купіць даўгую, моцную нітку.

Слядоў у вышынях няма.
Сцеражомся прыйсця Ягонага.
Звычаем пагоды сцішаны,
лічыць вецер завіхі страчаныя.

Ах, бацька! Ці бацькі даражоныя,
радасць якую дзяцём сцерагчы?
Дуброў і ніваў каберцы
вясёласцяў вашых мілей.

Зменаю час прыходзіць:
нам пара бацькамі быць.
Б'юць адрослі з суччча й карэння —
бацькоўскі грэх напаказ.

Калі не заўтра, тады ніколі
гонар самі сабе аддадзім.
Вёсны бывалыя дрэмляць,
у буднях будучых дзень.

Мы самі іх, хоць кволыя,
прыносім сціпла ў вячорны час.
Журбім: бацька й маці
калекі ў моцы сваёй.

І на Купалле
ад вогнішчаў ноч святлістая,
карагоды спраўляем без нейчых парад.
Шчокі пунсавеюць полымем,
брунь рэкаў вянкі аж цьмяць.
Разыдземся, дзеці, у размерах зямлі —

мы самі вось гэтак пяём.
Мы ж самі цары — маладосці гарэзнасць,
і самі пануем над сабой.

*(Спеў заціхае.*
*Млынар узыходзіць на азёрную гаць.*
*Праўнік памагае яму ўзысці.*
*Азёрная гаць цяпер шмат вышэйшая.*
*Млынар прыпыньваецца,*
*здзіўлена азірае гаць,*
*але задаволена ўсміхаецца.)*

Праўнік

Твае праклёны ўжо здзейсніліся.
Узыходзь, бы княжыч на кілім!
Любуйся! Прад табой
загата новая
ручай із возера загарадзіла!
Шмат вады, бы мора між узгоркаў.
Цяпер яна спадна-моцная
у роўнай сіле
закруціць колы
ў тваім млыне.

Млынар
*(узіраючыся ў азёрную шырынь)*
Дзе ж дзеліся, што на чаўне былі?

Праўнік
Мудрасцю закону ўседзяржаўнага
яны праклятыя!
Здаецца, гэтак ты жадаў?
Яны ў насыпе загаты,
іх дыханне апошняе, смяротнае
тваю загату высіць...

Млынар
*(бы гардліва, бы з праклёнам*
*адступае ад Праўніка)*
Дзякую!
За шчырасць вашу
гатоўкаю і чэкамі
аплачу я вам...

Праўнік

...і я барджджу.
Адно ласкава ўмову падпішэце...

Млынар

Маем аж да заўтра час...

Праўнік

Хай вам шчасліве ў працы плёнам.
*(Адыходзяць)*

Млынар

Дзякую!
*(Застаецца адзін.)*
Цяпер я вас
усіх
па-свойму перамялю.

*1961*

* * *

У спякотны дзень,
у часе доўгага падарожжа,
я спынюся ў сцені прыдарожных дрэваў,
на карэнні іхныя прылягу.
Не адважваюся назваць над імі
воблікі жыцця здабытыя —
мой Час існісты й прыдуманы.

У раздум'і сёткі пальцамі пастрабэчу
па карэнні дрэва ростам нестамлёнага.
Час тады хутчэй мінае,
чым сэрца б'ецца.

Подзьмух ветру на часіну прыляцеў,
духату засціжлую раздзьмухаў паміж веццяў.
Удзячны Час сабе!
Ён пра нічога
не забыўся.

*1964*

* * *

Я пайшоў ад вас.
Быццам
назаўсёды мусіў
пайсці адтуль,
плач не пачуўшы Айчыннага маленца.
Сябры звычайныя,
што ціхату бязмоўную
з кніжак слухалі,
пакуль памалу навучаліся,
і таямнілі свет падзелены
ў разліках формулаў,
сказалі мне:
— Бывай!

Усёдна ім было расстанне,
маё расстанне.
Бы задавальненне асвяціла.
З вяшчунствамі асвойцеся, нарэшце,
у сваіх раздум'ях —
у маім расстанні з вамі.

Я кажу таксама,—
(рызыка жыве ў лёсе!),
— Бывайце!

Яны глядзяць услед, мае сябры,
на мае плечы.
Плечы — непрыглядныя, бы сцяна,
на ёй рухліва рухаюцца
два празорцы-вочы,
азіраюцца
вяшчунствамі таксама:
— Бывалыя, бывайце!
Яшчэ спаткаем будучыню неабмінутую.

*1964*

## З народнага

Хоць на часінку
зірні,
хоць на часінку.

Я плачу,
мой плач —
зарніца
душы маёй.

Слёзы — вакенцы
душы адчыніліся.
Зірні праз іх,
на іх,
хоць з неахвотай,
але крыху,
хлуслівай нават,
пяшчотай,
гэтакай мне
жаданай.

*1965*

# Водарасці ў сталічнай Свіслачы

Водарасці ў сталічнай Свіслачы —
век жыцця спаткаць і перажыць.
У паўзелень апранутыя,
вадзяніста,
збегліва сябе крануць
віхляцца,
бы дно апорастае ўздыхае.

---

Дагана рухаецца, і не замарудзіць:
прыстань пачынаецца ў ліхтарох святлістых...
Як паплыць далёка?
У міжтуманні плыць далёка?..
...сама ж рака маяк святлісты!

---

Рачная хваля (асабліва паводка неміласэрдная)
мітрэнгу водарасцяў (як бывае з кволай водарасцяй)
на ўзбярэжжа вымае,
ці ў лужыны-багавінні
макрэць і гніць пакіне.

Рака плыве разгоніста.
Вада ў ёй не любіць няроўнасці зямныя.
Колаў калясістых аўтамашынаў грузных
пад імі свет, блізу, увесь
паклажай часлінак усялякіх
рыхліцца ў лініі вулканаў.

---

У неба зорнае як глянуць із зямлі,
далява Айчынная ў лужах свеціцца.
Там месца ёсць залюбленае:
тая самая агіднасць стойкая
ад зла самімі нарсціва створаная.

---

Водарасці ў сталічнай Свіслачы-рацэ
плывуць спрадвеку.
Ці варта назіраць, назіраць за імі?

Інтэрвал жыцця — сухое узбярэжжа!
Дзяржаўныя будынкі цвердзяць
бярэжжаў няўступнасць.

---

Ёсць рака жыцця! Вечна маладая ў ёй вада.
У Госпада сумлівы: чаму Зямлю пакінуў звахна? —
не спытаемся, як сяння
плыве яна
у тканінах хвальбістых у парламенце,
а на вуліцах,
улашчаная разумныя сцягам і дурным,—
крычым пад імі тапельца ротам.

---

Водарасці спаткаць — непаражнеча хваляў,—
не абыдзешся без іх,
плывуць, віхлявяць па донішчы ракі.

---

...а ў грукату калёсаў ды аўтамашынаў,
пабожліва-спагадліва,
нясурова-памяркоўна,
дні жывыя наступныя ў дзеях,
нестарасць ахінае ў косці едліва,
а ўспаміны здаўна ядлівыя:
пакуль дзея збудзецца спасцяроглівая —
радасць нам надзённая,
не адхлыньвае на некалькі нядзель
у падвалы хваляў Свіслачы.

*1967*

# З дзённікаў незакончаных

I

— Ку-ку! — гэтак даўно ў лесе Айчынным пачалося:
зязюлькі спеў між небам і зямлёй.
— Агу! Агу! — мо нехта ягады або грыбы шукае,
або жывое жывым жыве.
Моху ціхата із верасам упобач —
дабрадзеі шматгадовыя,
хаваюць і памятаюць ростна
людзей нянаскіх
і сваіх
пад калянкай мякка-крохкай
калярова-водрастнай ўсцяж.

Час вераснёвы на зямлі маёй.

Спевы й галасы людзкія пад дахам неба,
бы матлянне рыбы з вады выцегненае,
бы дзіця народжанае на ўлонні маці,
здаваўся лес у той дзень гэтакім
наўмысна.

Адпачынак быў.
Асудліва нічога не думаў я:
падумаць, ці будаваць, ці разбураць.
Голас лесу слухаў я —
голас мае Айчыны.

Што мог перамяніць у ім я?..
Абняць хацеў падабенствам водгуллі
душы мае пустэльнасць,
каб рэха поўніла і торала
аб'ёмам-мерай будучыні жаданай,
што ўся ацілхла нявольнікам за кратамі,
або насеннем расцярушаным
па нівах пустазельных.

---

Айчынны лес!
Ты — хорам, ты — святыня Часу!
У тваіх часінах мой сцень і постаць,

уздыхі дрэў тваіх — грудзі нашы.
З табой мой лёс узняўся
увысь нябёс маячна.
Там вецер не патушыў знічы
святла паходняў прашчураў.
Ты армія ў айчыннай вопратцы —
абараняй мяне!
Ты палац:
пад тваім сталічным дахам
іду памалу да жыцця і смерці!..
Хваля маленькая, людская я
між тваіх бярэжжаў кволіцца.
Уберажы яе наканаванне,
калі стане бурастойнай.

---

Айчынны лес адвечны наш прытулак!..
Між камлямі шмат сцяжынак і дарог,
там троны і кароны
нялюбыя маёй Айчыне,
трухлеюць пад імхом і ломжамі.
Айчынны лес!
Ты сам сабе і нам
спрадвечны абаранец і гімн для жыцця,
аж да смерці.
Красуй прыгоствам!
Песняй і дзеяй увайшло яно!
Хто з нас забудзе:
пляц няпустынны Айчыны ёсць?
Сцень кожная — гадзіннік сонечны,
таму, хто згінуў, каб жыць у памяці.
Не выраем увосень ці вясной ляцець —
карэннямі-цяглiцамі ўраслі
у нетрасці зямлі наскай.

2

— Усе намогі маёй моўкнасці — іх не слухаюць,
у прамовах чужацкіх,
ад сваіх калі — прыкідак шчасця
слюнявым Часам растварoны.
А я? Я толькі ніва зжатая —
быць зноў узаратай.

Кроплі дажджу мяне крануцца.
І на разорынах яны паплывуць.
Зноў карэнні... Ах, не — пустазелле!
Здаволіцца сонцам і багаццем маім.
Пясчынку ўсюды ў свеце знойдзеш.
Іх часлінкі сціснуць квецень сцяблінак.
Але вецщем пад ветрам не сціснуся —
я моўкнасць жыцця, што араты
з целам сваім параўнуе.

---

— Растлумачаны процьмай шчодрай
усялякіх словаў і жаданняў усялякіх,
выпрастаўшы пясці, хоць немазольныя,
самім сабе даём прароцтвы.
Ратунку не спадзеўляем аніякага.
Чыстае сэрца (дэзінфекцый не просіць)
сілу дае, каб растраціць яе,—
час недармо
жыццём распачаты.
Без волі гэтай ніколі не здолееш
наканавання відушча-непахіснае
непакутай, нарэшце, назваць.

---

— Назваць — нямогай дзень канчаецца
звычайнай ноччу (без адкладу усходзіць Месяц) —
ці можна так?
Маленцы засынаюць.
Ад іх любоў на зямлі пачалася.
Свет увесь для іх штодня
заўсёды ў любові.

---

Сяння дзень канчаўся
святліста і бясхмарна.
Галінка кожная на дрэвах краем ветак
віхцела квольна пад-ледзь ветрам.
Але лісцеўе сыпалася ў пярэймы долаў —
вадрыла водарам не красак, а зімы.
Ручаі, бы згубленыя між хмызнякоў,
азёры і рэкі стромкія
цяжарылі цяжкасцю на дне сваім...

---

...моўкнем мы збудрожаныя, і радзьва,
расцярушаныя!
Сяння дзень здарыўся не гэткім, як учора.
Раздумана ўсё былое, і здзяснёнае
хай песняй уваскросне
ці знакам
на зажытай ране.

*(1970—1972)*

## Засуш

Ад самай раніцы замкнёны круг.
Ад самай раніцы
духата,
спякота.
Кажух — бы скінены з узплечча
луг,
іржэла сцелецца,
несенажатна.

Лісцё лянотна звісла
у кустох.
У бруні ручая,
скратнай водрасцяй,
ірдзеюцца расінкі.
Лес уводальку —
там крыўдна — цішыня,
шукае вохкасць для кожнае галінкі.

Жалю аніякага ў полі нівам.
Палюча абвісае над імі высь.
Воблака-туляга звівам белым туліць
сцень кволую,
аж уніз.

Яно глыбела, макрэла ў небакраі.
Шмат раслінаў на калені стала.
Воблака знікала ў нябесным раі,
нячутным шумам пушыстага абвала.

Уночы мурагі, азёры нават,
валогу нівам не прыслалі.
Каласы з пакутаю раслі
з былінак,
што расці ўмеюць.

Сонцу не маліліся,
а клялі.
На пляцы выбраным яно
асілкам бушавала
неператожным.

*1980. Нью-Ёрк*

* * *

Зышоўшы крокаў некалькі з узгорку,
апынішся на скрайку даўніны тваёй:
там струмяніць усё аблітая крывёй
Няміга вузкая, нібы у надвячорку

сутоніць водгуль далёкае паходні.
Там прывідам вітальных стогнаў захаплёны
мройны мір не цісне грудзі плёнам:
спагаднае прымі жыццё, як ёсць, на сходні

пакуты вашае, цярпенняў і пагардаў...
Плыві, Няміга! У збытку поеныя патокам скрух
скарынку хлеба богам не прыклікваюць.
Свабоды зайздрасці не цешацца прычасцяй скаргаў,
як чуткі досвіткам — так кволяць хвалі слых,—
грахамі усялякімі... і добрымі мы баім іх.

## Малюнак

Цэлы дзень мітусілі неба хмары,
ім цэлы дзень свяціла сонца,
А цяпер яны дайшлі да небасхілу
і яго чакаюць на спачын.
Пухам залатым яны набухлі,
мякка паляглі прад сонечным палацам,
і вячорны промень на кілімы
іх ступіў агністаю ступой.
І так пайшоў, пайшоў памалу
ў глыбіню сваіх начных палацаў,
і толькі бронзавы адплыў паветра
ў небе ціхай хваляй лёг.

*1950*

* * *

Закасаныя рукавы па локаць,
і святло.
Вецер, зрокшыся далінаў,
залоціць пушчы.
Намяло
ў садзе нашым каля плоту
збаравелых пялясткоў.

Плойму абарваных красак
я жадаю — разбяру.
Ды вецер, зрокшыся пушчараў,
згасіў намер,
дзесь угару
занёс яго.

— Смерць я смерцяй прыбяру,—
хваліўся потым у бары
вецер.

*1949*

* * *

Маразянае звонкае ранне,
Асверы скрыпяць, і бушуе зара.
За вакном мая любая, бачу,
порсткага поіць каня.
І да ганку да ейнага сцежка
следам
раўнюткім лягла.
І летуценні — думак узлёты.
І словы потым — каханне маё.

Маразяныя звонкі раніцы.
Асверы скрыпяць, і бушуе зара.
Прабягае мой позірк,
спыняецца
так часта ля яе двара.

*1951*

* * *

...і слёзы дзяціныя — пачатак наш,
і калі збянтэжаныя з адказам і пытаннем —
выступ грайкі зводзіць нас
з нашым цёмным гэткім раннем.

У смутку цяглым дзяціных зваб
на спатканне цягнецца Яе рука,
і насустрач той самы раб,
у тых самых берагох рака.

А потым быццам — усё здарыцца...
Ізноў красуюцца краскі дзіў.
Але знаёмае незнаёмым робіцца
там, сярод
ужо даспелых ніў.

*1950*

* * *

Бы нейкі успамін цяжкі.
Ты ў хаце, ды хата ўсё ж пустая.
Агні запаленыя ля ракі,
на хвалі полымя спадае.

Я гэта бачу за вакном.

За даляглядам цішыня чарнее.
А коўш, напоўнены він0м,
водбліскам хмяльным калее —

чароўнай прагнасцю суздром.

Я прыгаства ніяк не атулю...
І толькі вусны, каб вымавіць — люблю,
складаюцца, як да цалунку.

А хата ўсё ж пустая.
Купальскі вечар. Уявай я лаўлю
твой вобраз, што нада мной вітае.

*1950*

* * *

Ты ад крыніцы йшла тады,
калі ён выехаў з-пад шатаў елак.
І прыслухоўваючыся да спеву пастуха,
незнарок цябе пабачыў.
— Мая ты, любая,— усклікнуў ён.

Ты ж ціхатою золаку спынілася,
але вядро з вадою расу не абабіла.

— Да рэха слоў тваіх
прыслухалася,— сказала ты яму.
І звабаю кахання —
плячыма ўскалыхнула зналуску.
На хвалькі у вядры зірнулі вы абое:
няцёплая ірдзелася на іх зара.

*1951*

* * *

Там, дзе зямля зрабілася вадой,
жадаў ад шчасця
вёсламі паплёхаць.
Ды ты адмовіла: — Не надта
займайся тым, што гэтак лёгка.
Лепш ты зрабіся, юнак, агнём.
Няхай цябе
трысця затула надзіць —
мы небам вузенькім адтуль шугнём,
і будзем ведаць: усё нам рада.

*1956*

* * *

Намер праклёнаў ёсць адзін:
зраўнаць Душу у векавеччах,
вярнуць туды, дзе ход пачаўся
па мастох з крыхкога веццяю
На абразох намаляваць
яе па-іншаму, як трэба:
прыгнуты дуб у завіруху
із суччам, быццам зрэб'е.
А далей, каля кустоў,
лісцё прыпалае прышчэпам...
Ды вось пытанне — неадчэпны сцень:
— Мо галубы у клетцы лепей?

І загадка стала перад загадкай.
Мы ізноў тут ні пры чым.
Мы разумеем: лес — раздолле,
і з дзікай таямніцай спім.

А ўсё віхравіць несканчона.
Ўсё у вобмацку сляпым:
і конь з разгону перад прорвай,
і голас наш
нямы... *1953*

# Жаданні

I

Жадаю песняй кахаць цябе,
і ласкай жыць у памяці тваёй.
Наперакор хаценню іншай ласкі,
жадаю сніць цябе
усё-ткі нічыёй.

У прокмеці тваёй неспадзяванай
пазбег я тэй знаёмае зарукі.
Спыніцца прагну перад табой цяперака...
Імгліцца шчасце
у церпную прынуку.

Жадаю, каб мой голас непачуты
журбой застаўся ў грудзёх тваіх.
Жадаю бачыць... Мне ж адно магчыма:
з трывожнай мрояй
я заціх.

Жадаю смуткам, і песняй — ці пачуеш? —
лялець цябе у памяці сваёй,
наперакор хаценню пешчаў іншага
сніць цябе, няжданая,
усё-ткі нічыёй.

II

Цудоўны дзень, і ты цудоўная.
Навокал краскі — плён вясны.
Жаўрук згублёны
у кволе неба,
а можа,
у сваёй хлусні?

Цудоўны дзень, і ты цудоўная.
Ты сэрцам будзь — у садзе салаўі.
І ў пошалку тваіх
жаданых вуснаў
мяне журбою не лаві.

Дай мне руку тваю і словы
усе ад першага твайго пачатку,
калі змусіла
кагосьці жыць
і не насіць іх,
як загадку.

Цудоўны дзень, і ты цудоўная.
Навокал краскі — плён вясны.
Жаўрук згублёны
ў кволе неба,
а можа,
у сваёй хлусні?

* * *

Я прыйшоў да дому твайго.
Буду я прасіцца
і, можа, плакаць.
Дазволь мне увайсці да тваіх пакояў,
сказаць табе: хадзем адгэтуль.

Прасіцца буду —
даўно не бачаў я цябе.
Плакаць буду?
Як дзіўна для мужчыны.

Мне хочацца пайсці адгэтуль
з табою, любая,
дзе толькі вецер
ад маху лесу здарыцца,
дзе ручай між дрэвамі
пітвой уманіць нас,
там дзве шчырасці: зямля і сонца.

Рукі за працай ці ў танцы...
Твае рукі — дзень няскончаны
у руплівасці й кволе.
Я не ведаю:
чаму даўно і церпна
чакаў ён блізіні тваёй... бы нашу?

...на валуне ты зноў стаўляеш кветкі.
Ён закамянеў імем сваім спрадвеку
прыгоствам візарункаў, і ў трэшчынах
струмніць жыццё ляснога моху.

Здаецца, лес аціх ад нашае гамонкі,—
хмары смрагдавыя між зямлёй і небам.
Шчаслівa і спадзеўна ў сэрцы ў маім
мы чуем радасць у далонях нашых...
Я ведаю, чаму той церпна
блізіню чакаў тваю... бы нашу.

*1972*

## Тады

Пакутнік я.
Мама пакарала
і злосна,
і мо па-добраму.
І тады ускрыкнуў я:
— Мама! Мама!
І тады, пакуль па попцы хлёпала,
асталася тады, уверылася:
— Мама! Мама!
Ты большая, чымсьці мама!

Пакутнік я.
(О, любая,— не зразумеў я Тройцы!)
Памылкі дзве зрабіў...
— Якія?
— У веданні Хрыста й яго навукі,—
сказаў святар.

І тады, сталася тады:
— Ці плакаў хтосьці
над болесцю маёй
і мае мамы.

Пакутнік я.
— Ты працу мог зрабіць,
і вайну найлепшую,—
сказалі правадыры чужыя.

І тады, сталася тады:
— Хто мне памог
знайсці правадыра свайго?

Пакутнік я...
Думкі дзе вышыня зіхціць,
дзе уцеха скрыкам маладосці,
дзе зямля прасторнасці дае,
вось тады,
прынікнута тады,
успомніў я:
— Я лішні раз Айчыне не памаліўся.

Прымі, Айчына,
цэмент касцей маіх.
Ад іх ты сталася зямлёй Айчыннай,
і вызваленнем ад жыцця-пакут.

*1976*

* * *

Часіны надыходзяць усялякіх прадчуванняў.
Зацята дыхаеш вяснавым паветрам —
кунега.
І, забыўшыся на ўсё смяротнае,
цягнешся, як кволае сцябло, з цемры
да нечага.

Яно ажно знаёмае,
яно так зялёнае
там, дзе сады запушчаныя,
там, дзе стаўкі зарослыя,—
адзіноцтва.

І не жадаецца абы з кім сустрэчаў,
але сукрыта думаеш пра ласкі ўчарашнія.
А потым неяк узбудрожана:
— Няўжо адгэтуль шчасце
пэўнае
паўночнае?

І адлятае ўсё мінулае.
На хвалях летуценняў сябе шпурляеш.
І подых жданы забаўляе,
мучае
шыпшыну зацвіцелую
сярод шыпуль сваіх
калючых.

*1951*

## З жыдоўскага

Па хвалях крывавых падзеяў
да святых берагоў паплывуць караблі.
Жонкі зрадлівыя прыйдуць ізноў
у сад Саламонаў расцвіўшы.
І будуць слухмяны яны перад ім,
слухмянейшыя за нявольніц,
пакуль іх здзірванелыя душы
прытуляцца бронзавым целам.
Із жарсцяй таемнай тады
іх цар павядзе па лугох і па нівах...
— Часам вятры ў гультайствах гуллівых
у свой заварочваюць круг,—
ціха прашэпчуць уладныя вусны.
Але ж думкі заўжды вокаміг:
— Няўжо ты ізноў, нестамлёная пешчамі,
насустрач забойцу пабяжыш, Суламіф?..

*1952*

## Ода рыдлёўцы

О, мая жалезная сяброўка,
табе танклявая, прыгожанькая Муза
йшчэ не спявала віншавальных одаў:
баіцца, каб чароўненькія вочкі
ты не засыпала пяском,
каб пантофляў, з шоўку шытых,
ты не забрудзіла зямлёй.

Затое я табе пяю:
о, ты сваёй жалезнай жменяй
засып памерлых між жывых,
каб жыць магло усё жывое.

*1948*

## Балада пра не новага героя

Пахінены на маладзенства меча —
меч яшчэ крывёю не зырчэў —
герой чакаў, бо веча
душа была яго, не гнеў.

— Ёсць радасці і смуткі на зямлі,
ёсць цеплыня і сцюжы жарсці,—
нашэптвала Яна.— Цяплі.
— Няўжо іх трэба сталяй красці?

— І пад бярозай з веснавым сядзёрам,
што на моўкнасць
карэння
скропвае,
летуцець пра ворага? Пад дзёрнам
навальніцаў толькі чуцен рокат...

Адзінока вахаліся на небакраі хмары.
Даляву аздобілі ўхопіны жыцця,
а ён, дзіця
з душой нягнеўнай,
не зманена
усё чакаў змагання,
і шэпт яе: — Твая. *1952*

## Тлён

Ён заўсёды вартасны.
Ён тлёнам называецца, і тлён яго не раздзьмувае,
як тых жаўнераў цела,
што на полі бойкі згінулі.
Невідзімкай, ад самае калыскі нам,
адданы сябра тлён-жыццё.
Ведае: без яго ніхто,
не жыве жыццём уласным
і не турбуецца, якімі ноздрамі
дыхаем пад скуру
безупынку.

Шмат спадкаемцаў у яго.
Іх ніколі не памятае ён.
Толькі косці, бо доказам з'явіліся,
лік вядуць, што можна пакідаць
не занімаючы аніяк прастору
ў тлённасці прасторнай.

Прасторлівы, захопны ён.
Займае кожную пустату між рэчаў:
у ямах — бульбу захаваць,
у дамавінах, дзе ёсць тайкі,—
чарвяку схавацца.

У раздоллі кожная краіна распласталася
жыць чатырма бакамі тлёну.
Каб не забыліся:
кожнага да дому
із тлённай скурай
вядзе дарога
з вяселля, з працы ці з няволі.

*1957—1958*

# Максіму Багдановічу

I

Немань ночы шасціць.
Ручаі руплівыя
у возеры спыніліся.

Адвечная знізь над возерам
ад зораў працэджаных небам.

Святло яно.
Напэўна бы,
у цемры бачыш,
шчылілася праз ваканіцы.

---

Да возера ўкрадна вецер прыляцеў.
Зоры тады,— на пляцы бязлюдным,
ліхтароў святло зіхцення,
у час дажджлівы.

На возеры ўсплёскі.— Дай прастору больш! —
услед за ветрам гоняцца,
нібы
з глыбінь прасяклыя
галасы зацятыя
крыніц употайкі
зблудзіўшыся.

---

...а немань ночы шасціць,
шасціць;
і вечна абяцаная нябёсаў знізь
цвіціцца... цніцца
аж за возерам,
аж над усім.

II

Вада — жывая сцень нябёс
таёмнасцю сівее каля па́ляў:
з пяску насыпаная грэбля
гоніць плынь яе ў рына.

---

Калясо ў млыне,
з узгорку бы,
струмніць ад спаду вадзяністага.
Яно стрымана рыштаваннем,
скрэпленае ў бярэжжах.

Сваім спадам хвалі абмываюцца.
Пакуль ноч, абніме сцені дня,
сонца-дня пагаднае глядзіцца
між скратак хмараў,—

(светлае ў невідушчасць
уласнасць Часу светліць).

---

...а хвалям хочацца пусціць разлівіста
прыгаство схаванае ў надбярэжжах,
каб штодня яно зіхцела
вачамі іхнымі
у мармур нескамянелы неба.

III

Сонечныя косы заходу,
бы ціхаці песня.
Зноў рэха
бор утаіў —
у ім не цесна.

Верас туманіцца каля сцвалоў,
бы шэпат нячутны.
Над верхалінамі строп нябёс
у гомане смутным.

Хутка, хутка зойдзе сонца,
бы памяць ронім,
каб ноч пажыла ўзноў
у бары цёмным.

IV

Золакам скончылася вусціш начы,
зычней дзесь у лесе малыя ключы
бруняць між карэння, узяўшы зару
з прамежкаў шапотных галін.

Ім будучнасць зноў даруецца:
між дрэў, бы ўсходзіны новай зямлі,
страмніны выточваць узлётныя,
каб нашыя косці там месца знайшлі.

І ціхасць зямная на расстанні не з кажным,
выйдзе з адхону іх сцені ўцяць...
Лепш вусны сэрца для жаху дай,
і пругкасць далонь безуважных
іх шчасця пакутаў узяць!

*1955*

* * *

Ізноў палова дня.
Сонца свеціць і грэе.
Сценем прыкрытыя ад карэння
парасткі растуць,
але вянуць.

Як быццам незнарок,
павеяў вадрыста лятняк...
Хтосьці хваліць мо сонца,
мо сцені...

Свігавіцай, наўмысна,
за хмарай, праменні,
радзяць святло
зямлі й небу.

*1958*

## Эцюд

Асцеліўшы часіны не астатнія,
зноў адчыніць нябёснае вакно —
золак на ўсходзе
над зямлёй ускінуў
жарыста стканае валакно.

---

У час азначаны, бы над магілай,
дзе смерць не зроўняць із жыццём,
касец зусім, у днёх пахілы,
праз болі траў ішоў ганцом.

---

Яму бы што,— дзесь нейкі сквэрак,
у снох міргне успырскам гаю.
У меру месца болям ёсць,
а праўдзе — блішчыня касы —
ад скраю...
Праз болі траў
ішоў касец.

*1980*

* * *

Купальскія агні.
Полымя красак ад вогнішча і кветак.
Гарачынь агня — шуганне і адсвет —
Ракі бярэжжа, бы палошчацца,
захопнай песняй маладзенства.

---

Там лясоў не шмат цяпер.
Але на лёс яны не скардзяцца.
Грымяць расходзіста Пяруны
у рэдкім лесе.

---

Там ёсць узгоркі,— (не ўсё зраўнуеш!) —
з-пад іх крыніцы свежаць
траву і хмязнякі...
Павер: там не было
зарніцы часу весціць
пагоду добрую на іншы дзень.

---

І вецер не патрэбен быў...
Цымбалаў гукі й жалеек
святлом Купальскім палымнелі
й спявалі.

---

Сытнасцю зямлі
узгоркі аставаліся,—
дарылі шчодра крынічную вільготу.
Шарохнасць кропляў
хто пачуе?
Дзе гарачынь агня-шугання,
дзе попел вецер ададзьме,
не азіраючыся,
адкуль павеяў.

Там будуць зноў Купальскія агні,
і полымя агня і кветак
спаткае чарам кагосьці на шляху,
хто на жыццё глядзіць
без кропелькі сумлення

*1982*

* * *

Павуценне — шкілет лета,
шоўкам вытканы на траве, усюды,
хваліста сцеліцца і плеціцца
у восеньскай ціхаце.

Бы разбураныя курганы —
зямлі ашматкі,—
хмызнякі на іх растуць,
і гусцяцца наследна
сабе ўслед.

У прарэхі на адолах —
разводы спусцянелыя зямлі,
шмат лісцёў у восень намяло.
А лес наводдаль
ашчэраўшы,
на дрэвасека зубы,
стагнаў пакутна
і чакаў:
— У зрубе заўтра,
у сяле,
 acіхну я.

*1984*

* * *

Вецер ацiх. Кволяцца рахмана ў небе хмары.
... i надвечар пры святых лампадах,
хоць сэрцы мужныя i пэўнасць у вясну,
рукой мазолiстай перахрысцiм грудзi
i паскардзiмся Аднаму.

— Ах, каб ведалi, што гэтак будзем доўга
гарэць нязнiшчаным i разводзiць жудзь,
пайшлi б пад стрэхi
ельнiку i хвояў
кроў свежую iз вепраў пiць,
i, стамiўшыся ў паляўнiчых скоках,
на воўчых скурах ля агнёў заснуць.

А перастаркамi, у дзень наш ачырчоны
з новай насцярожанасцю, мы, як каралi,
гурмой вясёлай (няхай злуюцца жонкi),
Еву iншую Адаму адвялi б,—
каб толькi ведалi, што гэтак будзем доўга
жыць нязнiшчаным i разводзiць жудзь.

*1950*

* * *

У Гамера героі ў крыві бескаляровай,
сонцазахад — сонца зайшло.
У казцы Беларускай
колер — жыццё,
бы наўцемы жыцця усялякага.

У колер розны ўвабраныя сужэнка й удава —
карагод поўны рухаў жаночых.
Каляры не ўсякія гуллівасці просяць.
Колер: сонца заходзіць —
мой дзень адпрацаваны,
колер усякі — маленец на ўлонні
да грудзей маці хініцца радзьва,
бы промень вясёлкавы да хваляў азёрных,
бы мацеры рукі, што яго сунежаць.

Колер цела, вопраткі й зямлі наваколля
ува мне вабяць сына і бацьку і мацер,
і адгадку, што пазнаю штодня
між дарог скрыжаваных
жыццём.

Спаткаўшы вандроўнага, як і сам,
павядоміць вам: вёску якую і горад
у садох якіх
ён мінуў.
З развітальным усмехам
скажаш яму: — Бывай! Бывайце шчаслівым!
І вочы зноў — скраі нябёсныя
вясёлкай цешацца ўсялякіх дзён.

*1962*

* * *

*Памяці М. Равенскага*

Тады
неба цяжарам хмараў
з зямлёй не раўнялася.
І ўночы
шарахлівым шумам
дажджын барздлівасць
не лічыў наш дах.
Бо якраз
узбожныя прасконкі ў пачуццях споўненых
да святла хіліліся тайніц ашчадных.
Яны пазналі вусціш спеўную.
Яна ж, кранутая
водгуляй душы, бы вадаспад у горах,
палілася радасцю
і вясёлкай грайкай.
— Прымі, Сястра! Далёкая ў далях Ты!
І блізкая, блізкая ў снох, і ў сэрцы.
Я ў тваіх пяю барох,
і ветразям
не даю спакою на азёрах ціхіх...
Спявай са мной, Далёкая!
І калі вітаю жнеяў, і хвалюся ліху
пра шчасця дзён русалак,
у нячутым шуме лісцёў апалых,
спадзеў прыходзіць.
Прымі, Сястра, і гэта!
Спеўная мальба ў ім змаўкае.
У гуслях адгучэлых
жыццё Тваё, што веціў
у маладой адвечна песні.

## Размова

— Мы адчуваем болясці жыцця найбольш.
Я не кажу, пра каго я думаю...

— Напэўна, пра чалавека?
Мы карацей жывём,
чымсць нейкія багі
або расліны ў недалёкай Поўначы...

— Чарапахай папаўзём. Маруднасць навучае,—
(навошта нават думаць?) —
жыццём тады даўжэй пабудзем,
і смерці чутлівасць адхінем...

— Страхам жылак цела наша сплецена.
Адвіткі іхныя ў прызначэнні кожным
лёс скрэсліў сплётам невада...

— Не адшукаць, як уцячы адтуль...
Здабытліва сцігуюць
і ловяць нас
багі сучасныя.
Не часам! А страшна нам
твае справы, Госпадзі...

— Куды дзявацца нам? Ад саміх сябе?..
Вуллі растаўлены усюды дбайна
асяліць раі...

— Занятна ловім з мутнае вады
саміх сябе нарсціва,
каб на крэдыты, бы рэльсы разыходныя,
аплаціць багам здабычу
купленую,
а нам?
удвайня праданая!

— Тады няма віноўных?..
Мы крэсівам з камню таго-самага
высякаем іскры.

*1968*

* * *

Дня апошняга не было
ў лёце птушак і думках людзей.
Усё віхлялася сваёй мерай:
Бяздумнасць людзям спыніць,
а птушкам ляцець,
дзе коршак не чакае.

Адвекам днесь спатыкае дзень.
Стаіліся птушкі й нават людзі.
У ліку лішняга няма —
наступны дзень
чагосьці не далічыць.

Учора сонца, насустрач раніцы,
гэта была далёкая дарога.
А ўночы цела страхам абнімае,
бо сны былі ад дня апошняга.

Дзень водведкам спатыкае дзень.
Стаіліся птушкі і нават людзі —
у ліку рознасцяў рознасць ёсць:
уладай слоў
пагрээмся.

*1970*

* * *

Яго пераканаць нічога не магло.
Ён быў увесь пад каронай працы.
Быццам на паляванні, сцігуючы звяроў,
у сцяну адмерана ўлепліваў цагліны,
каб толькі жах ягонага злачынства
стаўся скарбам камусьці так патрэбны.

За працай, з высотных рыштаванняў,
ён чакаў памальную пакорнасць дня прад ночай.
І дзеля таго, што думалася пра свабоду,
бянтэжыўся ад позіркаў памочнікаў сваіх.

У паднябёсах з абяцаннем аніякім,
шчыльна апіраючыся на размах паветра,
птушкі лёталі на зваху крылляў.
Між шырыні галінаў,
кінутыя ад камлёў,
яны свае паклалі гнёзды.

Зайздросна вельмі,
у рупнасці нямотных думак,
сцярог гардліва ён
свой наўмер цярплівы.
Люба скрэпліваў цагліны вапнай
і радзьва піў ваду з бляшанкі.

— Уніз усе!.. У кагорту — марш!—
з адолу закрычалі вартавыя разам.
А ён, злачынец,
азірнуўшы
надзённы працы здлон,
пад ногі рыштаванняў рынуўся
самагубцам.

... над шкілетамі будоўлі
ён хмарамі ляцеў і зорамі
ірдзеўся.

*1972*

# Успамін

Я маленькую браў цябе на рукі.
Уздымаў пад неба
на вышыню рук сваіх.

Тваe вочы
сонцам былі мне,
і радасць галосная,
ад цябе маленькай,
было небам
над табой і мной.

*1979*

## Малюнак

Там у завулках
вятры спакволяцца.
Кожнае вакно
усход, заход спаткае.
І няма пытання
аднаўлення
уцемленая галінамі
без лісцеў.

У воддалі,
бы рукой дзяцінай,—
(гэтак верацца, аніяк),—
прасцінак сцежкі
лісцінёй заслаўся,
і памятнасць руплівую ручай
над сабой не сцерпіў
ільдзінаў прыварот.

Там над ім
не было сцянлівасці,
і нат крыхотнага
прамення сонца.

У водмеці з крыніцы,
наўмысна, і зімой,
адвечна радзіў ён
брунлівы звой.

*1978*

## Часіны

I

— Пазнавата! — нехта некаму ўскрыкнуў...

А над зямлёй быў мір нябёсаў.
Крокам лёгкім я хадзіў у хаце,
крокі-думкі толькі пераменьваліся.

Разбегласцяй прастор, зналусна, за вокнамі,
часінамі хапаў мой позірк утаймёны.
— Пазнавата! — нехта зноў ускрыкнуў,
і я зірнуў ахвотна на зліў ракі з бярэжжам.

Я часіны меў спытацца, а не адгадваць:
— Чаму, каму так пазнавата?

Магчымасцяй дабротных меркаванняў
таксама папярэджу: — Суседзі, вам пазнавата!
Але было яно пытанне, не папярэджанне
яснiстае й лікоўнае.
У пытаннях шмат дакораў скажаш.
Палон вайсковы — у наймах мая хата:
рана не выходзь! Вяртаешся? — то пазнавата!

II

Шкадую сэрца я
вашы й сваё таксама.
Руку прыймаю ад месца, дзе яно б'ецца,
кладу на калены або сціскаю ў кулак —
кулак таксама сэрца.

Ён запаветна сэрцу шмат разоў укленчыў
гэтаксама біцца,
працаваць, змагацца.

III

Усё, усім зямля мая
тоіць ува мне тайніцу сваю.
І сэрцу майму і розуму разам
жыццё аддае, што шукаць не патрэбна.

---

Я песні жадаю спяваць не пяяныя,
пачуццём прыгожым сэрца вясёліць.
Розум шукае ў іх смутак пакутны.
Жыццё жыве жыццём ажно двойным.

---

Здаецца, навошта гаворка смутку,
і сэрца цвіценне ў пачуццях бачанае?
Шапотныя вусны — лісціня на дрэвах
шуміць аднолькава і днём і ноччу.

---

Калі толькі адным словам
можна назваць у жыцці ўсё,
што тады ў самой весялосці
болесць жыцця ўтоіць двойчы?

IV

Неўгамонлівы,
ахвотны,
я цепрасці вясны аддадзены:

кволю сэрца, пакуль што,
шасцівымі казаннямі
ветру ранняга.

Вецер раніцай —
мятлік зморани,
прыгаство кароткае ў прыгастве.

Здаецца, дзень хвалюе
красотасць немані:
крыламі лётнай радасці
я ім уцемены.

V

Маланка захліпнулася ў нягустой цямраве.
Як гэта так?.. Такі агню узмах!

Ізноў мяне
пачаўшы мучыць словы,
што я ўчора не сказаў.

Я разумеў, нязнанасці даткнуўся
(утоптаны спамінамі на пляцы не ляжу),
сівыя пасмы на галаве прыгладзіў:
шчасце усялякае — птушка ў руках.

Дзівота поўная ў старасці!
Але ж абнова,
маленькая,
ды ёсць!

VI

Полымя Твае ласкі так нечакана згасла.
У процьме слоў Біблійных праслухаў Твой прысуд.
На зло Табе
шукаць пайшоў пачатакаў у бесканцоўі,
забыўшыся пра хмары, што вятры нясуць.

Як птушка спуджаная, я між руін снаваўся.
Блукаўся ў днёх і ў кураве дарог.
Ды раз аднойчы ў засені прысад дарожных
мяне Ты зноў наведаў, Усемагутны Бог...

Але шукаць канцы, пачаткі ў бесканцоўі
я ўсё-ткі мроіў.
Подых захапленняў — будучнасць нязведная —
не кінула мяне.
А прад акном расчыненым —
без хмараў нескончоных — неба,
нямотная звінела згода ў душы-струне.

* * *

Назіраю й чую ўсёй душой мой свет.
А ніякі рух я часткаю не раблю майго ручання.
Часткова ў мернасці азначаных спакмет
знаходжу праўду уласных прызначэнняў.
Вось заўтра здарыцца: я пераконна
паверу маладосці — яе зусім не скончыў.
Але што ёсць, і будзе хваляваннем,
у сціплым позірку не схаваю вочаў.

Я назіркам слядкую за жыццём маім:
часінай кожнай жыўлю яго і смерчу.
І толькі надысь,
парог у дом пераступіўшы,
дзе было святло і госці раней прыехалі,
моўкнасць скрозная ў целе ў маім
спатканнем іншым уцешыла спамін:
я нядаўна сустракаўся з вамі.

*1980*

* * *

У гаі поўна песень,
і ён не трымае іх.
Навокал поле,
і лес адводальку
сцяменіцца ў сцень.

Заходам сонца,
мо не ўсюды,
вецер сціхне
як заўсёды...
Моўкнасць — няўдзячнасць
не ўсё заўважа.
Астанак працы
прадоўжыць ахватней,
прад сном у шуме,
каля варштатаў — шклянкі піва.

Але крыніцы мітуслівыя
сняцца потым
блізу ўсім —
зямныя слёзы,
пасланцы нашчадкам нашым,
пояць болесць дзеля сілы —
спадзяваць радасці вялікія.
Поўна песень у гаі,
і ён трымае іх.
Навокал поле
і лес адводальку,
не ўберажэ:
там будзе боль.

*1982*

# Вецер

Шмат я слухаю ад ветру спеваў.
Ускрашальны спеў.
Вось ноч міне мае нягоды
і спадзеў.

Калі толькі не здраджаеш —
ты вецер падгані,
голас, што не чуў учора
маёй гаманы.

Усю ноч і дзень узносіцца —
лёгкі верш душы.
Без жалю радасць цешыцца
ў цішы.

Я зноў прашу ўсяк:
ты, вецер, не міні
мой гнёт цяжкое смутнасці
ў спагадным дні.

*1951*

* * *

Вятры і музыкі — вы не сны ў сэрцы маім.
Музыкаў пакіну. Вецер у Менску здаецца мне белы.
Між руінаў — ён песня недапяяная.
І калі б Свіслач паводкай не шумела,
усе чулі б вецер з водрам падвалаў.

---

Смуга затрымаецца — вецер разгоніць.
Падкрадна разбітае адчыніць акно,
патрэсканыя шыбы цінкліва задзінькаюць.
Таполі абапаленыя — галлём усядно,
радыя подзьмухі ветру спаткаць.

---

Ціхата не ўтрымаецца. У руінах вецер шасцівы
лятчэй за крылы птушыныя або першы снег.
Ён дзікую песню із сэрцаў людзкіх вырывае,
чаруе ўпойнасцяй несхінёных вех
жаданняў нарсцівых, што заўтра будуць
праўдай... і крыўдай камусьці.

Крыўда і праўда — спрэчка вечная,
не ўмее азначаць роўных меж.

*1962*

# Лясун

*(нібыта казка)*

Між галінаў соснаў і ёлак
шчыльна зрослых,
ён доўга важаўся, абвісаў,
хваліўся сваім целам.
Вецер на галінах гнуўся
разам з ім.
Не траціў подзьмух
цяжар ягонай постаці —
зваліцца ў мякасць моху
ці на каляны адранцвелы верас.

Заўважна, шчодра
хмары пачалі плажміцца
аж на сонца,
туліцца да небакраю,
падпёртыя лесам Лесуновым.

Неўзабаве між шчытнымі галінамі
навальніца жызнула
бліскавічная.
　　　　Паліў уліўны дождж.
　　　　Лясун абмок у лазні навальнічнай.
　　　　Назызлыя цяглiцы — жыццяя карэнні,
　　　　разбежліва з'явіліся па целе па ўсім.
　　　　Не ўпершыню яно
　　　　ў жыцці трапляецца,
　　　　бо жыве жыццём лясістым.

На ім акравак кожны —
лахманы зялёныя разборліва хлясцелі
на адол капеллю кропляў,
сцякалі сцюдзяніста, бы з галінаў,

---

Слухаў ён. Ніхто яго не зглушыць.
— Агу! Гу-гу-гу! — рэха спеўнае ад Лесуніхі
сігала, абнімала
яго расстання з ёй.

Ён пэўны быў. Ён быў уцешаны.
Яна жыве сабой улетку
ў бары грыбным,
аж за возерам.

---

Калісьці, не знаходзячы прычынай бы якой
адкласці Час маруднасцяй,
мабыць, так здараецца:
было жыццё,
і былі праклёны за жыццё мацнейшыя,
а можа, іх некалі памятаць,
пакуль нешта збудзецца ці вялей надарыцца,
Лесуніха страсцю не багравела:
штолетку кожнага яна
маладзела.
А Лясун-ахоўца
лясоў вяліцтва наскіх
лянотна прылягаць пачаў
пад схонам воблакаў,
у калаханцы
на выспе вершалінаў лясістых.
Разам з гонамі-камелямі дрэў
бервянеў пад сонцам добрыцай —
дранцвеў знямогай сілы.

---

На руках сваіх зялёных
вобмацна завіў залом з веццяя папараці,—
не памагло...
Там хцівасці й прагнасці незамораныя
людзей чужых.
Ад пілаў і сякераў
лес шорахным дываном аблёг —
крыламі забітай птушкі.
Лясун зваліўся
на пні карнастыя, ухопістыя за аблонь,
каменем вялікім,
блізу адцветам спадным,
увесь у шчызе расінаў-слёз,
увесь у пырсках моху-коўдры.
З-пад яго бруніць цяпер
крыніца, смерцю роджаная.

Лесцяцца пакуты Лесуна
між жарсцвяку,
між гушчароў хмызёўніка —
ручай да возера.

---

У возеры жыве Русалка.
У ночы летнія — духата духмяная.
Павеі летняка,
зблудзіўшыся,
над возерам начуюць.

У зарыстых слёзах — возера Лесуна
яна купаецца,
наготна цешыцца.
— Прыгоства возера ўберажжу!
На ім дарогі да зямных бярэжжаў
чужых і наскіх,—
хвалі плёскатна-бруістыя
словы ейныя ўторваюць.

Там справеку ва́дзіцца
(так заўсёды будзе),
усплёскамі спакволь вадзяная —
каля ног Русалкі будзіцца.

---

— Агу! Гу-гу! — лунае рэха, песціцца
праз возера
ў маладняк лясісты, шчызны
ад Лесуніхі.

Няма адказу голаснага.
Ступкі звяроў шарохцяць,
шукаюць логвішчы свае ўкрытныя,
і ручай блішчыць пад месяцам святлістым,
паглыблены дажджавой паводкай —
смерць Лесуна палошча.

— Лесуна няма!
Я спамін яму!
Я радасць і ратунак лесу!

*1986*

## Сустрэча

(з дзённіка)

Датклівае сустрэчы быў сягоння сведкай.
Не ведаю:
пачуцці словамі — спагадай уздыхаць,
ці мо пакінуць гэтае
ў бязднаой памяці
ўспамінам
нікому не патрэбным?

---

Чую гутарку. Пачуў ад немцаў.
Яго ведаюць — на зямлі сваёй жыве.
Чамусьць часіны бавяцца, што заўтра спыняцца
у часе нашым і яго калекі.

---

Зноў сустракаюцца яны
на пляцы шырокім.
Дань Перамогам — пляц
не любіць вузкасці.
Схіляўся нанач позні летні вечар.
І неба чыстае, без хмараў,
і сцені ад будынкаў бы
раўнялі вуліцаў завароты —
дазволенае вайной ляжыць руінамі.
А ён па плітках —
дыванах каменных, ад бомбаў уцалелі,
бязногі,
прыпоўз да п'едэсталу.
Выпрошваў: — Нур айн пфэнінг!

Другі — што помнікам
(не трэба тут імёны),
прыгожства дзён ён выпіў аж да дна,
стаяў над ім, як памятнасць святая.

# З гутарак братавых

*Брату Сцяпану,*
*загінуўшаму ў Другой сусветнай*
*вайне, прысвячаю*

1

— Свет-зямля народамі ўсякімі ты поўная.
Надстолле над табой належыць сонцу.
Мы ссохнуць можам на зямлі,
пад сонцам,
няледзь зрабіўшы ход у будучыню,
нават па-хіжацку,
не зацемліваючы спрагным зрокам
перамежкі дня і ночы
на сонечнай травяністасці,
сонечныя ад сонца,
не ведаючы: ці да заўтра
будзем жыць.
У пакроўнай вопратцы вайсковай
з думкамі туманнымі
жаўнеры ўсялякіх арміяў
паўзуць па ёй
да сценаў вёсак і гарадоў.

— Чым будзеш ты ў ярны дзень?
Пахінешся, што пагражае?
Блізу падобная біблійная гамазня:
пашукаць у іх спагаду плачам?
Мальба, што словамі рассыпаецца
і самімі яна пачутая.
Яна больш адчуецца
адкусіцца гадзіннікам
праз маятнік падзеяў,
ці кусочкам аніліпшнім хлеба
вуснамі галоднымі...
Напэўна, Бога шчырасці ўжо зайздросцяць,
як укароціць часін майго жыцця...
Я не прарок, што кліча ў смутку жыць
і папярэджваць праз гнеў Гасподні
прыгнебліваецца перад кімсьці
назаўсёды.

---

— чалавек, ты любасцю прысудзі сябе!
Прасі казніць сябе ўсім,
што ёсць адно святое:
любоўю чалавечай.

---

— Як не ўразуміць нас:
пагарджаныя кусаюцца, як пчолы, каб
абараніць вулей.
Задаволеныя сваімі плачамі,
плодзь укрыжаваную пад крыж кідаюць —
прырасці ўзростам.

---

— Усякія прызывіны ўладу пераняць
прыцевам ахінаюцца багамольна:
быць нейкім шчасцем,
і дазволена самім народам.

---

— Не ўсе асобіны праніклівыя ў будучыню
хутка ў разваліінах жыцця знікаюць.
Судлівыя яны. На Пляцы Волі ні тапельцы
кідаюць рукі ў перадачу —
вось так ратуюцца яны
быць не пакорнікам астацца
аж паміж чужой прычыны.

---

— Дзень ясны наш — прыйдзі!
Глядзім сваім наўмерам
жальбой даведзены —
у нялішні раз стварoны ад сумніваў...

Пра сваё ў прышласці і іншых
не забудуся.
Каменем любові сябе пакіну
пазнаць прасцінак на сходзінах дарог,
на ўскрыжаваннях.

2

— Уся зямля для чалавека:
сухазем'і ды узбярэжжы...
Жартую я.
Бярэжжа пада мной ля возера —
яго заўсёды зямлёю называюць.
Мае абутыя ступені,
можа, шчыра яго хваляць —
не змок ад хвалькаў,
што пырскаюць з няволі
азёрных шурпавінаў.
Плёская вада не радасцю прыкіднай,
а зямлі суседкай.
Затон у плёсе, як заўсёды,
зор кволае святло
заняватна ловіць.
Заранкам не карціць усхліпваць усцяжна
па ўлонні небасхільных хмар,
знаходзяць месцы ў нябёсах шпарка,
не спакмечваючы слядоў сваіх,
і нечай задамавіннай мроі...
Як маці радая пагрудным шчасцем,
даўно пагоджаная сваёй ахвоце,
барздзяць спаткаць бяссонныя вякі
людзьмі азначаныя намаганні...

---

— Жартаўлівасць слоў мяне ахлынула.
У іх лунаю. Змагацца з імі лёгка.
Аддзельваю між імі добрыя і злыя...
У процвіні між процьмаў несуладу
ловяць позіркі жывыя нашы
мрою нейкую несупакоясцю,
што моліцца
ўпатайку
свайму часу.

---

— ... за крутагорам — узвышшы нашыя,
марны дзень спыніўся.
Прастор бражовая. Вышыняў ветразі
вецер скамячыў і выкінуў на бераг
вячорнае красы.

---

— Радасць тлённая! Чаго нам мала?
Ноч нараджае сны і дні.
І нехта просіцца — пакорлівасць дачасная:
— Глядзі, мяне не абміні!

---

— На шуметніку збытнелых аксіёмаў
той ж піск і тыя мудракі,
і дзесь адно — бязмеж здавальнення
ў торбе злічаныя медзякі.

---

— Улеплены камень па-свойму ў падмурак:
мяркуйся з брацтвам прыдуманым, чужым...
І нечы гнеў прад моцай не здрыгнёны
светазорыць вобразам святым.

3

— Усё адчуюць, але ўкрадліва не створаць рукі.
Дзяржаўны дзень адзіны.
Мадзеем, да восеньскай пары падобныя,
над скарбам нестаёным штодзённай працы.
Сэрца пераведам, сцюдзёнай скрухай
мосціцца,
і, можа, не пусціня:
рукі нестамлёныя жывым жадомы надзяць,
а думкам не ўспамінаць — вецер даганяй:
спадчыну пакінуць спадкаберцам.

---

— Птушыны спеў.
У волю не апошні раз, птушыную, кідаемся.
Хараство не збедніш спеву — забагатае!
Не гэты пошчак заклінаю шчасцем,
прасіць кагосьці, шмат каго,
пераймаць яго збаўленнем-зместам.

---

— У спрэчках несамавітых нялюбасці адходзяць.
Сумленнасць роўню шчырасцю да свае Айчыны.

Не мінаю плач. Слязамі матчынымі я плачу
над тымі,
што гордасці свае змагарныя
крывёй саваёй захлынулі.

---

— Хачу прызнацца, успомніць пра жыццё мінулае
без трывог,
пра дзень хачу забыцца сённяшні,
каб толькі звахай рук
дзяцінай бы,
усіх жыццё
ганьбой благой сароміла.

## Спеў жанчын з новай элігіі

Закукуй, зязюля, рана
рэхам звонкім у лесе.
Збажыной паспелыя нівы —
звонкія песні
таксама.

У руках завіхаецца серп,
палатняныя вопраткі пахнуць
палавою зжатых палёў.
У бабках, бы цёмны склеп,
квас сцеражэцца сядзёрны.

Закукуй, зязюля, рана
рэхам звонкім у лесе.
Бясхмарнае неба — азёрная сціж,
звонкая песня
таксама.

Зязюля, шчасце якое кукуеш
у воддалі ніў і сялібаў?
Гуллівыя скрыкі дзяцей
у шасценні калосся чуем.

Божа, ад дажджу ўпасі!
Упалудзень жаўрук мілей.
Да спорнае працы разыдземся,
вечар прыйдзе хутчэй.

Мужчыны даўно накасіліся,
спяшаюцца піць да крыніц.
Жартуюць з нас, таўсценькіх,
а самі ж не ткуць
спадніц.

Што ім да нашае працы?
І што нам да іхнай таксама?
Жартуем. Вось гэтак да смерці
жнём сябе без астанку.

Закукуй, зязюля, рана
рэхам звонкім у лесе.
У жаночай захопнасці
часта:
песня — і смутак
і радасць.

*1961*

* * *

На сэрца скрабінка яшчэ адна.
Яшчэ адна жыццёвая на сэрцы.
Усё мінулае і творчая мана
у ёй купаецца, бы ў рэчцы.

Малады я быў. І вось тады
я тлённыя падслухаў болі:
чакаюць прыйсця памёрлыя сады,
каб іншыя пасеяць лозы.

Зусім стары. І вось цяпер
вясёла не адчую за плячыма раніцы.
Але радуюся: не напавер
было камусьці сяння.

*1960*

# Калумбы

*Сыну слаўнаму народу*
*ўслаўленага Беларускага,*
*доктару Скарыну*

## I

### 1

Успомніўшы ліхую долю дзён,
нядобрасці мінуўшыя душы сваёй,
ён пабарздзіў спыніцца ў пагардзе
прад самай процьмай праклёнаў шчырых,
што ведалі прастор прыпадкаў мроі:
ачысціцца ад волі людзей і бытнасці,
не абяцанай нікому ніколі,
ні Богам нават, ні чортам запаведніцкім,
што можа жыць у собскай сіле
прычасным справе памагача,
ужо злом даўно падможаны.

### 2

Памалу гэтак, дакладнасцю падмешаныя:
есці хлеб і запіваць яго сядзёрыстым мёдам,
яны ўспомнілі: варагі між гунаў, ды між
іншых іх страшаць смерцю або пакорай —
задумалі прыкідвацца нямоцнымі й дурнымі.
Хай будзе да часу нам! Зямля пад намі
й пад імі не расступіцца. Апоўначы, увосень,
пачуем крык глухі пугачоў у пушчы,
і мёд усцеражом у дубовых кадках.
Ды мо яшчэ не раз адступім з ранамі
крывавымі да ўзбярэжжаў азёр лясных.
Стамлёныя, спачыць на карэнні дрэваў ляжам
з розумам заблытаным у лікі стратаў і ахвяраў...

Хай будзе гэтак! Пасаг багаты заўсёды нас турбуе
і вельмі, вельмі цешыць. Умеласцю якой
ён будзе зближаны да сціпласці вясковых хатаў,
да гарадзішчаў з глыбокімі выймамі навокал?..
У дзіўным сваволлі Айчыны неўціхаміранае!

3

Памалу гэтак, у прыбылях разумных і дурных, але, бадай, нібы ўбогі жыццём ці моцай цела, завіхаецца найбольшай кражай свет: сваёй пакутай.
Мы дзеля сябе прыслужваем — інакш не можна нам... Заўтра, можа, перагніўшае гніллё вякоў у добрай радасці дня забудзем... Хай будзе нам прыхінкам змаганне, і смерці няўтомнае спачын забудзем у жыццёвай споймe.

Для жыцця ўсёдно, ці ты ёсць, ці няма цябе!
Жыццю прыхільнікі не патрэбны.
У мудрасцях Айчынаў — жыццё, бадай святыня
з паганскімі багамі, творнасцяй людской змураваная.

## II

Яму не трэба весткі ад гандляроў з кірмашоў.
Яго падмовіла чуццё зямлі далёкай.
Ён думкай перакроіў усе краі вядомыя,
ён уторыў іхныя звычаі лёгкія,
а набожныя ніяк не мог прароўніць
да мроі собскай,
роднай і нястрашнай.

---

Ён змрочыўся, калі ў хмарах неба
старажліва высілася над местам і над усім.
Ён шмат што не паслаў да зораў светлазорых
із думак пэўных і падданых.
Плач ён чуў на вуліцы —
з намерам хтосьць благім
сэрца жаночае расчуліваў цярпліва...
Нарсцівасць у яго была
да неба зора-яснiстага:
— Хай святыя за цябе заступяцца,—
шапнуў ён ночы із падстрэшша.

---

Крыху далей, у прахонах цесных вуліцаў,
вазы скрыпелі, сапелі, цягнучы цяжары, валы,
і вазары спрачаліся. З маленькіх вокнаў свечкі

быццам адганялі цемрыню начы, і дзверы камяніцаў
часта адчыняліся.
— Рукамі падвяхлі!—
Гандляр цвяліўся на парабка свайго,
а мо і на сужэнку...
Там міласцю да прыбылі ўсе жылі.

---

— Навошта адмаўляць жыццё штодзённае,
адчуванне надзіць: красатосць прыгожыць не ўсё?
Празмерна я раблюся святаром нявыхрышчаным —
быццам ад гультайства, рай хачу хутчэй
на зямлі ўсёй. І не ведаю: у суседскай вёсцы
бедных твораць і знаходзяць —
мабыць, жаласці справеку нам патрэбныя.

---

Сваю праўду ў дзяржак нажа замацаваўшы,
з сумленнем чыстым, неразлучным нават смерцю,
ён сталасцяў словаў дакоры і неадступнасці,
быў сам упорнасцю ўпэўненых асцярожнасцяў:
— Навошта там, пад самым небам,
бы хмары ўсялякія падперці
будуць Перамогі жыцця і смерці
і раку мацуюць сымбалям сценаў сынагоных?

---

І вось тады Сатана яго наведаў неспадзеўна.
— Ад самага ручая і да самае ракі Вялікай,—
ён прыгадаў яму нараджэнне грэху і закону чалавечага
і уверыў, што станецца з набажэнствам нашым чарвячым,
калі толькі Полацак не стане Ерусалім або Вялікі,
не будуць дзеі Сапраўднасцю ўсяўладнай.

---

— Спяваць і думаць не кожны можа доўга.
Павер мастацтву духа спагадаў і спадзеўнасцяў!
Але як Чорт, кляну цябе праклёнам усявечна-даўным:
зрачыся просьбаў, згубі свой час у радасцях шчаслівых.
Ева разумней была Адама: малаком грудзей маленцаў
карміла дзеля Часу пакаленняў, што ніколі дзяцьмі жыцця
не хацелі быць. Ім жадалася сматкаць Быццём прасторы,
што гэтак дарма навакол зямлі снсўдаюцца.

---

— Звыклая гарачка прымае нашы косці шчыра...
Я не ўсклікну: зваліся ў яму грахоў чартовых,
чым цярпець пакуты Боскія! Бог і Чорт — улада іх адна!
Навошта Чорту надзіцца з чалавекам,
што сілу зброі любіць?
Малюска — чалавек у шатах панцыру сваю здабычу ловіць...
Я памятаю Чарадзея няўрымснага: яму закон бажалі
анёлы ад чорта уваскросшага.

---

— Цяпер пачну; мне ўсёдно хрысціць ці ганьбіць,
гісторыю цярпенняў Музы́кі з ліповай скрыпкай.
Ён — майстра, і яму ўсе «запаведзі» былі майстэрствам,
а можа, сэрцам з адказамі ў чутнасці пальцаў.
Ён пылінкай страху не зварухнуўся прад асновай
маіх страхоццяў. Ён цеплыню узяў маіх задавальненняў
і перавярнуў у гарайкасць чартовай хітрасці...
І я не ведаю, ці Музыка — Чорт, ці я — Чорт
ад волі Боскай.

---

— Калі Музыка ў яме апынуўся.
— Я — чорт, таксама! — папярэдзіў ён.
— Я дыхаць буду паветрам зверху,
і спажыву хто-небудзь кіне мне зверху.
Я — чалавек, што расце пад сонцам,
і што любіць
уцеху скрасці ў сценях пушчаў і садоў.
Не час мне паміраць? Як ралейнік баразну,
ару ў струнах спеўных дыханне ўсходу
з касцей струшоных людзей нецярплівых.

---

— Мне, як Чорту, цяжка размаўляць з людзьмі.
Навучаць: падстаў свой твар камусьці іншаму —
я не умею. Усё балюча мне! Хай грамадзянінам сытным
гульні цыркавыя моршчацца ў нервах, як неспадзеўны вар
Айчыны нейкай вітальнай і здзяйснёнай.

---

— Учора я напаткаў Скарыну руплівага і задумнага.
Ён бачыў капыты мае.
І чалавек вось гэты не збянтэжыўся.
Ён паквяліў мяне, як каваль спадарны:
— Ты, мабыць,Чорт, стаптаў абцасы каля зямлі,
ніжэй узроўню выкапанай.
Я адказаў: — Уцвеленыя багоў не ведаюць.
Але збянтэжаныя спакусы любяць,
спакусы любяць мяккіх пасцеляў.

## III

— Гранне! Гранне! Колькі струнаў трэба
пачуццё крануць людзей зямных?..
Я ветразі пускаў у моры не Крывіцкім
і на спатканне вецер выў
з вуглоў крывых.

---

— Я любіў жанчын шчырасцю жаночай.
Маё было жаданне заўсёды жарасцю.
Калі толькі сябе я знішчыў страшна,
дык толькі пацалункам здрайным
у самай вокмеці жаночай,
у самай смешнай песні пешчаў.

---

— Але, прызнацца, я забаўляюся із думкай вашай.
Ніхто мяне не нішчыў, і я сябе не знішчу.
Мой дух чартоўскі над кажнай рэччу Часам
і прасторам вітае шчыра і неадгонна.
Можа здарыцца: маю агніста-балючую нішу
назавуць песняй святой-свяціста.

---

— Нічым — нікога не пераканаеш.
Краіны глядзяцца ў паветра, бадай яно люстэрка.
Вецер шныхарыць весткамі — ён памагач вялікі.
Ты не дзівіся із маёй сымболікі.
Зрэнкі распусці шырэй,

каб бачыць міф сапраўднасцяў! Цяперака ўсе:
убогі й багаты, гультай і працавень
досведам жыцця ўскраслі —
я — хачу, і я дамагуся!

---

— Мы толькі на ўзгорак узышлі. Але ён справіўся сказаць мне шмат добрага, а можа, і злога. Па-ягонаму, на свеце зямным не скончыліся жыць і нараджацца Калумбы.— «Прынамсі,— ён спытаўся: — Што значыць Гішпанец-Калумб?»

— Табаку свету знайшоў, і бульбу, і кукурузу таксама. Жывём жа гэтым, гандлюем,— адказаў я.

— Ты пэўніш мяне: гэта — золата ёсць?

— Усё ёсць золата, калі яно патрэбна вам. Хаця кіньма пра гэта, я крыху паразумлю цябе... Але ўсё, што буду казаць, мо не ад золата, а ад залатой патрэбы жыцця паходзіць. Калі вы людзі, воблікі Боскія, дабро творыце, значыць, вам і зло патрэбна, каб дабро бараніць, але ж зло-прысуд на здзяйсненне людзям іншым аддаяце: суддзямі не жадаеце быць, а анёламі блажэннымі... Ты, Скарына, таксама Калумб, але ты любіў вялікомасць духу людскога, а гэтакіх людзей людзі не паважаюць, гоняць іх... Ты Музыку ўспомніў мне? Не шкадуй яго, што ён апынуўся ў яме ваўчынай. Ды навошта ўтрапілася гэтая яма? Ты адкажаш: людзі ваўкоў лавілі ў яе. Шкуру здзіралі з іх — грошы зараблялі. Але мне, Чорту, таксама было добра там. Па-вашаму, людскому, я адзінокі ёсць. Вось таму я неадзіноцтва шукаў. Жыў з ваўком, што ў яму пападаўся. Хоць той і намагаўся вылезці адтуль, я не памагаў. Бо памажы ці не памажы, усёдно вы, людзі, грэхам назавіцё гэта... А Музыка, суродзіч ваш, сучаснікам усялякіх эпохаў застанецца, бадай, як Архімед, што калісьці цвярдзіў, напамінаў: усякая рэч прастор займае. А пра час дабаўлю: не турбуйцеся, бо часу прастор не патрэбен. Усё перад часам убогім ёсць... Музыка пра радасці вясёлыя і пра балючыя нядолі граў. І я, слухаючы, падумаў, перакенаўся па-люцыпарску: добра, што Музыкі на свеце водзяцца. Яны і для Чорта добрае. Яны, калі хочаш уверыцца, як правадыры. Радасць уцешаць — лядайкамі зробімся: ці то грэх, нядолю праклянуць: да разбою паклікаюць — таксама грэх. Чорту работа: асудзі грэшных!.. Але твой суродзіч Музыка — паэта, як і ты сам. Ты Біблію сваёю

народу Беларускаму мрою і лятунак неадзіноцтва жыццядаяў у змаганні за жыццё... Вось на свой партрэт зірні. Ты адзінокі. Але адзінокі ў суцэльнасці іншых сапраўднасцяў адзінокіх. Пчаліна нясе здабытак да кораня свайго. Львы агрызаюцца за існаванне сваё. Паўмесяц свеціць, каб быць поўнікам. Усім вам патрэбна столь — святло Сонца. Усе не жадаюць адзіноцтва, ты добра ведаў гэта. Памруць і тады будуць адзінотнымі... Але пра гэта стане. Ды вось папрашу не дзівіцца, што гутару з табой, бадай той Музыка грае, рознымі ладамі. Я ведаю, табе рупіцца сказаць: «У перашкодах больш азначаюцца намеры». Хай будзе гэтак. Ты не ўверышся маёй шчырасці.

Чорт адышоўся ад Скарыны. І ён зрабіў гэтыя ступкі з чуццём немінучай думкі: ён гаворыць з чалавекам, з Боскім тварэнцам, з тварэнцам, што хваляваўся пачуццём светласці ў ягоным народзе; верыў і спадзяваўся, што з яго не зробяць героя або святога, а найбольш пэўным: чужынцам, выгнанцам. Ён не прапаведаваў: размахнецеся моцай народнай і захапіце іншыя народы, якія не любяць, турбуюць вас. Ах, якая вялікая розніца ў заклііку: твары й павер! Стварыць цяжка! А ператварыць Створонае яшчэ цяжэй, бо Створонае — успамін пра смерць.

Чорт ізноў падышоў да Скарыны. Ён адчуваў жарснасць пагаварыць.

— А вось пра казкі народу свайго забыліся. У іх Боскасць і праўда людзей зямлі ўсёй; і кожная рэч, жыццю прычасная, названая імем сваім і месцам...

— Калі толькі ёсць гісторыя народу, то ёсць і прычына расшырыць ейную з'яву,— адказаў Скарына, урыўна і неспадзеўна.

Але Чорт не звярнуў на яго ўвагі. Аднак наўцеміў:

— Гэта перакананне, дзеля якога дарую пашану пашанаў... А вось музыка сказаў мне, і я верыў, ён скажа гэтак: — Усе любяць патрэбу ў мастацтве. Усе любяць знайсці — неабходнасць дзеля аднаго дня — у кожнай праяве духоўнасць. Сацыялістычны рэалізм гэтакая самая патрэба, як джаз або штосьці іншае. Яны мусяць задавольваць прыемнасць сённяшняга дня. Няма розніцы паміж прынукным мастацтвам і вольным. Умей тварыць нястворанае. Умельцы наровяць узяць ад творчага духа тое, што люба камусьці, каб на ім зарабіць, наўвеціць свае пачуцці або,наадварот, горш за ўсё, паказаць сваю ўладнасць: — Я жа-

даю толькі вось гэтага! — Ён адчуваў абавязак пераканаць шызалобых вышэйшым пафасам ягонай святасці любіць тое, што паважае.

— Ты хочаш сказаць: свабода шчасця?

— Няма гэтакай, і пра яе не трэба гутарыць. Ёсць на зямлі самая большая свабода — гэта каханне. Яго ніхто не стрымае... Музыка сказаў, і я згаджаюся з ім, што ты, Скарына, толькі адзінотнік, мніх без кляштару. Ты паказаў зямлі сваёй ганарыстасць: я — ведаю, я — гуманіст, я — Сфінкс, бадай, як у цяперашніх Задзіночаных Нацыях кожны Сфінксам абвешчваецца. Навакол Егіпецкіх сфінксаў пустэльня пясчаная засталася, птушкі, у вырай летучы, на адпачын прысядаюць, свой гной на іх пакідаюць; а цяперашнія сфінксы да самае Смерці наровяць быць, каб на іхныя плечы, пакуль жывуць, галубы гноем чысціліся... Ты заўсёды адчуваў мяне дзесьці ў воддалі, з боку жыцця... Не паганьбіць мяне, не зразумець мяне, гэта тое, што я не разумею сябе і маіх суседзяў. Не ўцеміць мяне, будзе канчальнасць чалавека, што кінуты ва ўяўнасць дзесяці ці дваццаці ўсялякіх запаведзяў ці канстытуцыяў, увесь час прысягае, укленчвае, шукае суседзяў і асуду над сабой. Як гэта ўсё балюча і жахліва: чалавеку падабаецца збянтэжанасць і ўтрата ягоных магчымасцяў.

— Я ўжо прызвычаіўся да спакою смерці,— звярнуўся да Чорта Скарына.— Я люблю мой тленны спачын, як бліву хто-небудзь жывы любіць успамін пра радасць, пра жаданне штосьці добрае стварыць для людзей... Можа, у жыцці я быў эгаістам, аднак жа і жыццё было для мяне патрабавальным ды суровым. Яно бязмоўнае, але ўпорыстае, як дуб з карэннямі ў віхравей... Я жадаў, каб з маёй зямлі пайшло брацтва людское... Вось княжа-Барыс на камянях высякаў Прызывы, і Час да ягоных жаданняў быў павольны, як той камень без узросту... А мая Смерць — Жыццё!

... а Калумбам ён не стаўся, твой княжа, — заўважае Чорт.

— Але,— згаджаецца Скарына.

І Чорт не дае яму гаварыць далей. Ён шмат што памятаў ад вякоў. Усміхнуўся з добрасцю.— Можа, усё, што чалавек жадае, ёсць удачлівым дзеля ягонага жыцця. Але ўдачным ён будзе тады, калі будзе ў неабмежнасці сваёй Айчыны...

Скарына адчыніў павека собскае дамавіны, вылез з яе і пайшоў усцяж дамовак з памерлымі дарослымі і маленькімі. Каля аднае з маленцам, ён спыніўся і адчыніў яе. Стуль глядзелі яскрыстыя вочы маленца, галава шызнела сівымі валасамі. Маленец, відаць, ужо даўно чакаў Боскага і чортавага асуджэння.

Божа, не асудзі яго! Ты ж нарадзіў яго на зямлі нашай.

Чорт згроб жменю зямлі й сыпануў на маленцавы вочы, але яны, Скарына бачыў, па-ранейшаму зіхацеліся з-пад жарсцвін, і вусны штосьці з усмехам гутарылі, й быццам маладзік на начным, бясхмарным небе, з левае рукі й сэрца вясёла, брунеў ручай, і недалёка ад дамоўкі ён зліваўся зноў з самім сабой — з Жыццём — ракой — Айчынай.

---

IV

Кожнае на свой лад укладзенае.
Таімся похапкам насёнаў прарасці...
Утраціўшы малое — жыццёвае жаданне,
робімся гульнёй
шмат якіх чутлівасцяў.

Прыкінемся наветнікамі зямнога раю.
Балюча падмацуем
свой і чужы боль...
З працалюбасцю будаўніка,
паверыўшы тварцу
задумнасці,
із страхам падымаемся
на апошнюю
складку крокваў і цаглін.

Але ў меру
складкі шкуры на руках, аблíччы
прыгладзім скорнасцю спажывы і спачынку.
Напішам летапіс —
працягнем слоў ручаліны,
каб заўтра нехта зморшчыўся,
(бо лоб яго каменны).

— Ах, цудамі якімі жылі суседзі нашы!
— Яны прычасныя наўмернасцям вялікім:
пацець за працай і цешыцца сабой.
— І ў святле сонечным, або электрычным,
хвалу жыццю знаходзіць у завітках мармуру,
у думках негамонкіх
была аплата за працу іхную.

---

Вярнуся да Калумбаў маёй зямлі.
Каго уславіш у «дэкадэнцтве» нашым?..
Як рыбак бадай, кідаю невад я ў Нарач,
у Князь-возера,— глыбіняў ён няраз кранаўся,
і толькі потым... (Хай камусьці
мая задумнасць мастацтвам стане!)
Рыба выцягненая,
хапае ротам,
непрывычнае жыццю паветра.

---

Складаю рыбу мёртвую.
На самым светлым дне — між небам і зямлёй.
Дзяўчыны спеў вясёлы за ўзгоркам радзіцца
із сонцам, із хвалямі, із асакой,
як невад зблытаны рукамі й багатым ловам.
І вецер, бы зналуску, сяўбіт размашысты,
кранае лоб таемнасцю думак усялякіх.

---

Не ведаю, хто вялікім ёсць:
ці раб замучаны, ці правадыр дзяржаўны.
Я толькі ведаю: я — раб бязмежнага узлёту
дум сваіх, што святасцю пакорніцкай лятуць
у мір маіх сумніваў, у мір маіх жаданняў,
быць існасцю Айчыннай.

---

Я зноў зраблю адступства.
Мне хочацца не славіць, не ганьбіць Калумба.
Напэўна, было яму прыемна
падвесяліць жыцця астаткі
прыгодамі дзён мінулых.

---

Дзень мінуў. Зноў мяне хвалюе:
кім быў учора я прарочы?
Я задавольваўся грашом заробленым
ці спадзяваўся гуллівай ночы?
Гэтак, можа, не раз аднойчы
(не памятаю дум сваіх і кагосьці,
хто навучаў найлепшаму хваляванню),
душой я моўкнуў, як у целе косці.

---

А праніклівым клічам у воддалі мора,
залітае хвалямі, узбярэжжа глушыла
песняй, што не сціхне ў граніце сталіцаў,
у шуме фабрычных машынаў.

Музыка
*(бадай, як доктар філасофіі):*

Скрыжалі разбітыя ўслаўлены песнямі й казаннямі.
Дзея людская сімволікай сціснена і падлічана...
Ах, песня, песня! Салаўіная песня
ў сувеях зялёных малінніку —
старавечнае слова, уваскрослае зноў.

Чорт:

Жыццём не стамлёны, знаёмы для прыроды,
разважны да справаў, ад якіх не баліць,
хтосьці ўторыць шляхі небяздоленыя —
дабро не стварыць, а прыгожы міф.

Музыка
*(не слухае Чорта):*

Дрэвы уздымаюць у вышыню вершаліны.
Карэнню усёдно завошта ўчапіцца.
А лярва чарвяка ў захоне сценяў
гадуе сыць свайму жыццю.

Чорт
*(таксама без увагі на Музыку):*

...ад ганку камяністага
Яго сляды
упэўнена ляглі у свет бязмежны.
Як ні ліюць шумлівыя дажджы,

ды поступ роўны не размыюць.
І дом пустэльны Гаспадара свайго
часіну кожную на зварот чакае,
і пуцяводны над ім агонь
да цемравы ў ночах ліпне...
Ды многа вылілі дажджы вады,
і многа ночаў у гэтым доме спала...
Не будзілі іх Ягоныя сляды,
ступаючы ізноў да дому...

*(Чорт і Музыка апынаюцца на ўзбярэжжы ракі з гранітнымі мацаваннямі.)*

Чорт
*(не дае гаварыць Музыку):*
Можа, гэтага заўтра не будзе.
Але любуюся будынкам стройным.
Бы з неба апушчаныя прастакутнікі,
сцены выпаўзлі над ракой.

Я не думаю ў мроі кідацца,
буду тады бядняк і бяздомнік.
Хачу таксама пасяліцца тут,
уладнасць займець між сцен чатырох.

Ад часу зямля, калі стала ведаць
маё імя з імёнамі іншымі,
Жыццё я люблю называць не Жыццём,
а сціпла — існаваннем.

За гэтыя сцены яно не праб'ецца,
як трава між пустэльных пясчынаў.
Там Новыя мніхі сабраліся
слаць жыццю праклёны з паклонам.

Недабітых дома тут можна дабіць.
Крык роспачы можна адгэтуль пачуць.
Смяротнага кожнага вабіць
паслухаць, як лепш і хутчэй паміраць.

І кожны, хто рады хоча,
ад мяне здабудзе яе задарма...

Па часе ўжо. Хаця пачакай:
падвяжам вузлішчы ярма.

Музыка:
З пакояў іхных чуваць музыка.

Чорт:
Вагнераўскую оперу граюць.

Музыка:
Я не люблю ягоную музыку, яна вельмі брутальная, яна цешыцца напевамі забойства.

Чорт:
А якую мелодыю ты мог бы прыдумаць, прынамсі, да гэтакіх словаў:

зямля, зямля, зярно ты перабранае
па вадзяных загонах вазьмі і прарасці.
Чым там лічыць пакутнікаў прад брамамі
і без ніякага канца канцы!

Зліваліся,
калыхаліся
марскія горы.
Вецер на вужышчах і на шчоглах віс.
І не ламаліся шырыгі агністыя,
што Боская апускала высь.

Музыка
*(прад тым, як граць):*
Я крыху ад сябе дабаўлю да слоў тваіх:
хвалі неба і хвалі акіяну
цалаваліся аддана.

Чорт
*(калі Музыка пачаў граць):*
... я палец укалоў.

*(Музыка спыняецца і аддае скрыпку Чорту.)*

*(Чорт і Музыка
каля марское прыстані.)*

Невядомы
*(да мараходаў):*

Шлях невядомы й далёкі
ў маіх разліках зусім нялёгкі.
Дастанецца дзе-небудзь суравым змаганнем
яго прыкладаць і дабівацца...
Але ачышчаецца небакрай у воддалі,
надоўга забудзьцеся, як дрэвы шасцяць.
Самата акіяну і вадаплаву вам будзе
уцехай і песняй радзімых мясцін.

Цямрычнай уявай пад сонцам пякучым
вамі хвалі пад шчоглай забруняць ручаём.
Кагаркі, прысеўшы на масткох і парэнчынах,
будуць весціць надыход начы.
І зоры, схаваўшы патаемнасць нябёсную,
нас аддаляць ад берагу і пакажуць яго...

Пра долю не думайце, якой ахвяруецеся.
Мы паспрабуем, што хочацца мець.
Наўмеры мае і вашы напэўна ж
розум сціскаюць, бы смерць.

Чорт:
...па-мойму, і ягоны шлях вядомы.

Музыка
*(не слухае, адыходзячы):*

Не хачу забыцца, кім я нарадзіўся.
Вярнуся да хаты пад шатамі ліп.
Там дзесь у закутку запыленым
падвешана скрыпка мая.
Хай зноў мае пясці заблукаюцца
ў хоры напеўным струн.
Я кожную песню рэхам зычлівым
па зямлі рассцялю.

Я чуюся, як сірота ўбогая,
калі кідкім прад чортам зрабіўся.
Людскіх руплівасцяў я наслухаўся...
Мне люба камень ў падмыве крутым.

Да слёзаў журблю ад прычынаў Айчынных:
не спаткалася радасць з уцехай жыцця.
Даўно мне сняцца пушчы і нівы
вясною прывабленыя, бадай дзіця.

## Эпілог

*Сын і бацька*
*(іхнюю гутарку чуюць Чорт і Музыка.)*

**Сын**

Калі я чую шум натоўпу, я адчуваю, што існую, і натоўп-людзі таксама жывуць, бо яны — больш, чым існаванне.

**Бацька**

Няхай жыве натоўп! Я не магу адшчапіцца натоўпу, бо я сам, калі толькі не натоўп, дык усё адно ведаю, што грамадства нешта твораць. Мне гэтае «нешта» здаецца: жывём, існуем, творым.

**Сын**

Але ўсё-ткі: чаму людзей там шмат?

**Бацька**

Новы Калумб аб'явіўся.

**Сын**

І я жадаю быць з ім.

**Бацька**

Пра дзеі гэтага Калумба буду я судзіць, пакуль памру, а пасля, калі табе мой асудак не спадабаецца, найдзі свой, але горшы, шмат горшы... Сын ты і сам можаш быць Калумбам.

**Чорт**
*(яго чуе Сын і Бацька)*

...без зла, і зла да іх тысячы новых Калумбаў не абыдуцца.

Бацька
*(да Сына)*
Хадзем да дому баржджэй. Ты ж яшчэ не вывучаў, што Скарына навучаў.

Сын
Скарына ўсю працу людскую і сваю некалькімі словамі наўвеціў...

Бацька
А можа, асудзіў?..

Сын
Тварэнец ён! Ён Калумб у прасторах Айчыны сваёй, і чужацкіх.

*Канец*

*1962*

# Гутаркі Лесасека

## Уступ — прысвята

### I

Дзён мы не стрымаем аніяк
(каб ведаў сябра мой).
Але навошта пытаць насцівасць натвую?
У жыцці ўсё без рою — адзінотны рой...

Я аніякай абароны не найду ў крылах у маіх.
Боль жыцця і існасці твораць дзень прыходны.
І вось шчыра зыходам гутарак,
што перадалі людзі ад людзей знаёмых,
я прашу, каб пераказалі шчыра:
без рою
адзінотны рой
зморана
носіць жарсць жыцця ўпорыстага.

І дзён мы гэтых не стрымаем аніяк,—
цвярдзім усе мы існасць старавечную,
і дзеля кароткай існасці: — Жывём!
Крадзем мальбою Бога, і ... заём
крадзем заёмам уроўні Боскай.

### II

Хто будзеш ты?
Я думаю пра таго,
хто будзе
чытаць мае радкі вясёлыя і панурыя.
Я не здзіўлю цябе, чытач,
лёгкім рытмам,
і жартлівым звахам
словаў канцавых у вершы,
бо я захоплены жаданнем спеву,
што ўсяляк пяецца
на маёй Айчыне.

Сонца для мяне — слязіны на аблiччы...
А ты, чытач, у наступным пакаленні
глядзець будзеш у маё стагоддзе,
бы той вандроўнік, што шукае
прытулку на схоне ўздарожным.
Пад бражовым вячорным знічам
душа твая не змоўкне
маўчаць маім стагоддзем.
Ты знойдзеш словы наскія
і прылукі іншыя —
пасылаць спатканні
небывалай радасці.
Яно хай будзе,
нарэшце, не спадзевам,
а кволасцю,
якую палахліва
хоць на часіну кароткую ўтрачваем,
таму што запавет не будзе: здзейсніласяl

Вітанне шлю табе,
чытач мой, будучы!
Аднолькава стамляемся
і стаміліся
ад шчасця мы і ад змагання собскага.
Але, здаецца, не аднолькава
жыццём сціхалі мы
і сціхнем некалі?

## III

Па-іншаму переверием спадзевы неспадзеўным шчасцем.
Папросім або ці папрасілі гэтак здарацца.
Прыгожасць мы іншых не спынім неспадзевам —
жыццё раздзьмухала іх старанна.

Жыццё мо ні пры чым у казанні гэтым.
Пакорніцтвам прыгаству не скончыш век азначаны.
У сям'і вялікай зямное цепрасці,
вядзем мы лік сабе азначаны.

У гэтым ліку незразумелы воблік свой
і прокмець нейкая шчырасцяў спадзеўных,

дзеля таго, што смутку старасць нашая радая,
спадзеў вітае з намі ў маладосці.

Шчырасці ад Яна Багаслова
(што жыццём спісаныя найлепш, чым ім),
зніклі ў кагосьці пясчынай дзеяў, словаў,
бо часінам нашым не стае часін.

1

— У чыста зялёных і ў цьмяна-зялёных калярох зямлі
раслі дрэвы над самай ускраінай ніваў,
над самым адлогім узбярэжжам возера.
Возера лясное, бы гарадзішча-паселішча,
ад навалы пажараў дрэвы ахоўвала,
ад наслоты людской з сякерамі,
што лепшую міласць падумаць,
сухастоям прадчасна прыносілі.

2

— Крыху цярпення таму, хто памірае,
у жывым разгоне памірання жывога!
Гэты ўскрык у адлегласці рэха
ўскрыкам жыве жыццядайнай прасторнасці.

3

— Дрэвы разгонам, здаецца, вышэй,
чым зямля іх на ўзвышкі ўзняла,
стоўбяцца пясчанай шумнасцяй веццяў,
без ветру шумяць падабенству свайму.

4

— Але калі вецер пад подзьмухам ветру, бы крылы,
яны ўзвахам зямлі ў небакрай імкнуцца.
Але небакрай — прастор нязрушны.
І вельмі стрымны лёт суччаў на дрэвах,
мо таму, што дождж спарліва
сухавей над імі спыняюць,
вохка на свае размахі асядаюць.

5

— Вось жа каменне нямотнае каля гонаў-камлёў,
ніколі не схлусяць ні лепшай, ні благой пары:
заўсёды ўтояць спеўнасць прыроды
і вострасць ейную аголяць без сораму.

6

— Не! Я таксама хлусіць не жадаю,
перад смерцю спынюся і перад жыццём невядомым —
сціжнасць Айчыннага лесу без крыку апошняга
болем урэзаўся ў нямотнасць маю.

7

— Хто можа пераканаць сябе наўмысна:
усе жывём заўсёды настарожай поўнай,
каб толькі там, адкуль чакаем,
з'явіўся Час увесь прарочы?

8

— Апрача, што глянуўшы позіркам наўметным,
на шырыню лясоў мае Айчыны,
мяне хвалюе іншы неспакой,
аціхшы ў карэннях маёй Айчыны.

9

— Гэта пыл, што лёгкія бадай не ўдыхнулі,
лажыцца нейкім пачаткам аднагучным,
што жыццём яшчэ не ўвабраўся,
што можа знікнуць бязупынна,
у размене жыццёвай хадарлівасці.

10

— Я разменай пэўнай,
існасці сапраўдна-пэўнай
упэўнены, калісьці без існасці ўпэўнай,
гардліва ахаваўся ад злачыннай волі,
зусім не ведаўшы, што вораг я
сам сабе і ворагу майму.

II

— Я ведаю, што гутаркі мае не красамоўны,
не скалынуць душу ў маёй сужэнкі,
у асалавелага каханнем мешчаніна,
што жыве ля Менскае Кальвары,
таму і не пабаржджу (забудуся зусім), казаць,
чаму я ворагам сабе
або нікому.

IV

— Сонцу да скраю вячорнага
не кроплі расы скропнуць з галіны...
Садзіся! Магу хлебам пачаставаць.
Вады? Вада ж крынічная, сцюдзёная,
у двух кроках, за вываратнем, ільецца,—
сказаў вось гэтак лесасек і на дрэва зваленае,
з карой абдзёртай хлопна сеў.
(... зваленае ў лом суччо
іглiцамі хісталася ў сцюжату лясную,
сцень над мохам каламаціла —
жывым у смерці яшчэ было.)

Лета.
— У лесе ў Айчынным заўсёды так было і бывае
ўлетку, здаецца, няма пары інакшай...

(... і каб лепей аглядзець мяне,
лесасек, бадай наўмысна, і блізу скрытна,
ступянёй
абдзёртую кару рассунуў
і ўздыхнуў.
Жаўна ўглыбкох між дрэвамі
на дождж трубіла.
Ручай, што я адразу не пачуў,

рэхам шасліва-драўняна-духмяністым,
пацягнутая па зямлі галіна,
набытна, быццам карэнні дрэў смактала,
у воддальку да воддалі імкнуўся.)

— Я да цёмна працую тут.
(... усмехам вясёлым усміхнуўся ён.)
— І працу сваю, бы таямніцы дзяржаўныя,
хаваю пад карой дзяржаўна-крохкай.

---

— Крумшына нейкі, або ніхто ніколі,
з гэткім прозвішчам назаве мяне,
што я толькі вусны цалаваў жаночыя,
захінуўшыся за кожным за вуглом.

---

— А я,
як ёсць ніколі не забудуся,
тлумачу шчыра закон народна-шчыры:
вусны собскія прыстанішча ўладнае,
у якіх ніколі нічога не замоўкне.

---

— Я Мусаргскага люблю ад дня, калі
пачуў музыку ягоную
па радыё,
на кватэры беднай.
Музыку гэтую гаспадыня радзьва
ў звоне суддзя кухоннага губляла.

— Я слухаю ці, слухаючы музыку ягоную,
ўяўляю прычыны й уражанні заўсёды
ў сваяцтвах розных із сапраўднасцю.
Хочацца, паверце, адчуваць
прычыну і ўражанні
праматэрыяй
свядомай існасці.

---

— ... і вось нарэшце мне,
здаецца, стане
апавядаць вам пра ўсё і пра нічога.
Праз цемру зоры з неба ціснуцца,
зямную болесць падглядзець,
і караеды нанач цыркатаць збіраюцца,
пабарздзім і мы пацыркаць снамі...

(Усміхаецца лесасек.
Даўгімі сценямі дрэвы цягнуцца па ўсцяжнасці
дзялянкі.
Там паміж імі нікла сцежка да ягонай будкі.
Брунлівае рэха ручая ляснога хватліва й журліва
хваталася за спеў вячорных птушак
і за сціж вершалінаў сасновых у паднябёсах.)

— Магчыма, заўтра, у дзень апавядальны,
дармо не буду слухаць спады дрэваў.
Я мог перажыць гады маленства,
але праўду сваю (я толькі сведка),
сведчу празмерна працай штодзённай.

---

— З пропускам шчыльністым галіны дрэў
у вялікай долі ад ствалоў зрэзаных,
зямной вандроўкай распадаюцца,
зусім не хвалюючы аніяк хмары.

— Гаворкай, ці скажаш прарочай, ці празорнай,
іхныя размовы з паветрам валячыся.
Астанецца знак. Пакінуць нумар.
Ці, прынамсі,
на дошчачцы абгаблёванай,
аплочанай
або зусім законна скрадзенай,
прыб'юць
да сценаў — ног,
таксама бы карэнні нейкія,
каб больш з іх не расла прамова
барацьбіта людскога
дзеля людзей, як сам.

— Мо казка гэтая, і казку гэтую
я на край зямлі Айчыннай не пашлю ніколі,
бо зіхлівы розум зноў прышле яе
да нямотных сценяў у Айчынных пушчах.

— Хай вось у бядзе і ў радасці,
мяне асудзіць нехта за плён працоўны...
Даруйце мне: гэтак шмат раўняю я,
усё жыццё прыметнікам Айчынным.

— Хай праклёнам будзе мой творчы здлон.
Але Праметэем ніколі не буду.
Любасці мае ад нараджэння, здаецца,
прыгрозілі валадарам не маёй крыві.

— Любасцям маім бываць заўсёды суджана,
перад пагостамі багоў ад працы наскай.
Пачаткі іхныя ў пешчах адпачывання,
твораць існасць дзівосных бытаванняў.

— Там, дзе Полацак паміж трысцёўя будаваўся,
я чую рэха жарсную ягоных рыштаванняў.
Мінула тысяча гадоў,
але
трысцё краін суседскіх
у дзікай звахнасці спадае ў дрыгву
або атульваюць яе панцырна-панцырныя равы.

— Што жадаю я? Я — лесасек, забойца дрэваў?
Яны паклікалі іх нішчыць і ашчадзіць.
Яны апавядаюць мне ўсё,
й імя маё тояць у камлёх.

— Там ёсць ручай. З-пад карнявінаў драўняных,
ён уводаль няўзгорачную цячэ струмна-сцюдзёна,
крыху дзелены камянямі й вываратнямі,
але ні ледзь кранёны ні ветрамі,
ні глыбінёй-прадоннай.

— Што гаварыць пра водбліскі-адценні
у бегатні вадзянай? Дзеля яе пачатак —
пачатак адкуль пачаць журчэць.
Але бяздоннасць неба
не змерыцца глыбінёй вадзянай.
Неба скалы на зямлю не шле.

— Таму люблю я казкі беларускія.
Ці можна параўнаць да іх «Фаўста»?
«Фаўст» — шчырасць парадку і непарадку-сілы,
а наш «Фаўст» — палясоўшчык,
ён на камені пасадзіць шчодра
расці дабро й дрэвы.

— Мой няшчасны род.
Ніколі не скупы дзеля шчасця іншых!
Болесці твае балюча спатыкаю я.
Плакалі ад хцівасцяў людцы ў кватэрах еўрапейскіх,
мерачы гісторыю тваю і нат аблонь пад ручаём і дрэвам.
— У Палессі ёсць абсохлыя багніны,
там «Фаўст» косці таксама асушыў...
Вандруе свет!.. Пра мудрасці захопства скончу я,
таму што я люблю
сякераў стук, рыдлёвак капаніну
у голасе уторным Айчынных казак,
бо вера у іх ёсць і пашанота ёсць.

(... лесасек, бы ўпершыню, зноў паглядзеў на лес,
і заспяваў сабе, ледзь чутна.)
Бог даўно прыцix у гэтай песні.
Ён толькі вецер,
вясна,
зіма,
і восень.
І дзіўны адгалосак толькі: Я!
Я стварыў! Я стварыў!
Напісана ў Бібліі жыдоўскай ці латынскай.

## ПЕСНЯ ЛЕСУНА

Ад тых пярылаў,
што стаяць, бы клетка
звяром,
ён уцякаў стрымглоў
у абдыймы лесу.
Каб толькі на колькі часінаў
спаткаць
вялікае шчасце песні сваёй.
Ён там распадаўся травой
і карэннямі дрэў.
Расінамі росаў і дажджоў
абвісаў між галін.
Між верхалінаў стромкіх
небасінь раздзіраў
шматкамі верасу вераснёвага.

Гладзіў пясцей кару
на ствалох —
гэта жыццё людзей і ягонае.
Ручай у воддальку яму гаманіў:
— маліся за іх!
Молішся?
Моцы іхнай маліся!

---

— Ёсць вера і Пашанота ёсць.
Вера ў тое, хто нараджае...
Нараджэнцаў-дрэвы я чую пад сякерай,
а пад пілой апілкамі сцішаю,
чутнасць непамёрлую ў вяршкох драўляных.
— Пашанота, як іх завуць — святым.
Святыя, бо ж кожны з іх прыціх
у сваім сполаху.

Кожнаму,
яму здаецца,
што скрыгат ад пілы маёй
сцігне недалужнасць цягліц ягоных.

---

— Даруйце мне! Як даўно, не памятаю,
жорсную часіну спаткаў у маім сэрцы,
што прагне ўзбярэжжаў не зямлі Айчыннай
поўнасцю напоўненаю: было і ёсць.

---

— Навошта апавядаць пра горнасць, пра красатосць зямлі
й дзеі нашы;
пра карупцыі ў Рыме, у Сынодзе,
навошта забаўляць пачуцці трапяткія,
пра што яны і чуюць й перажываюць?

---

Лесасек:
Пройдземся крыху па гэтай дарозе. Як бачыш сам,
яна паміж ляда і ўцалелага бору цягнецца. Калі ўзыхо-
дзіць сонца, мне заўсёды здаецца: уцалелы бор, быццам

атула сялібаў. Часам у гэтых мясцінах гэтак бывае ціхотна, што ажно з трох вёсак навакольных я магу разборліва чуць, як гутараць між собку людзі. *(Ідзе да дарогі; дайшоўшы туды, спыняецца.)* Паслухайце крыху іншае. Я не паэта, але пакуль гутарыў з вамі, пакуль ішоў да дарогі, у маіх думках аб'явіўся верш. Я ніколі не пісаў вершы. Хай гэта будзе першы й апошні, і вы першым і апошнім пачуйце яго, бо калі не скажу яго, ён будзе цвяліць мяне.

Той часінай,
я думаю,
а здарылася гэтак,
залацістым пялёсткам
ад сонца вячорнага,
я забаўляўся на ўскрайку лясным.
Мая цацка, ад нябёсаў пасланая,
бязодню згубіла сваю
між далоняў маіх,
у шуме хваёвым,
на сцежцы імшастай,
каля хваёвых ствалоў.

Той часінай,
калі абнямоглы
дзень у спеве начным сціхаў,
я моўкна,
уцешаны сонцам летнім,
бадай што прыносіў яго
да маміных рук стамлёных,
да сялібных куткоў
сутанкам абкругленых шчыльна.

Той часінай,
уводдальку чутным,
(з возера вохка вадрыў чарот),
начлежнікі з крыкам каля вогнішча
скалыналі хараша
і зоры
й прастор.

Ды дзесьці
(я ведаю, не абы-дзе)
крынічны ключ гаманой разлівістай,

зоры часлінкамі збіраў у плёсах,
і сны мае,
маленства поўныя,
забыў у зліве з возерам.

Вось на гэтым і стане. Паэзія любіць сціснуць час у некалькіх словах. І яна сумленная да ўсялякага часу людскага жыцця... *(Зноў падумаўшы, ідзе.)* Я ўсе эпохі, блізу ўсе перажываю тут, у лесе... Усё-ткі імкненнасць — я жыву, я жадаю жыць і валадарыць — ёсць большая, чымсьці цывілізацыя або культура...

Невядомы
*(урыўна)*

Культура і цывілізацыя — таксама імкненнасць або вынік усялякіх імкненняў.

Лесасек
Ужо таму, што я існую, ёсць імкненне тварыць здарэнні, бо існаванне творыць здарэнні й прычыны — ёсць культура й цывілізацыя.

Невядомы
Вы раптам супраць сябе.

Лесасек
Не! Не зусім! Але можна сказаць: я люблю жыць у супраціве маім жаданням, маім імкненням і парыўнасцям.

Невядомы
Я думаю: не заўсёды.

Лесасек
Крыху ўлагоджу вам: не заўсёды... Але я пра іншае. Я наўмераваўся сказаць вам, што чалавек пастаянна мае ворага ў чалавеках. Ён не мае будучыні. Усё, што ён творыць, пакуль жыве, ёсць адвечная сучаснасць. «Усё для будучыні» — гэта толькі пафас. У патрэбе дзеля сучаснасці чалавек творыць патрэбу, якая потым застанецца, перажывае яго. Падчас тварэння патрэбы-сучаснасці ён бачыць у перашкодах напатканых ворагаў. І ворагі гэтыя, безумоўна, Чалавек — Чалавеку.

Невядомы

Пра гэта людзі гавораць даўно, даўно.

Лесасек

Вам смутна ад маіх размоваў — не будзем тады. *(Падыходзяць да крушні камянёў з вялікімі камянямі навакол)*

Лесасек

Гэтую крушню я называю: Гісторыя. Я ведаю, вы паважаеце вывучаць гісторыю. *(Невядомы недаўмела зварухае пляча.)* Перакідваеце чарапкі падзеяў то на далонь, то на п'едэстал, то прытоптваеце... не хачу сказаць у якое месца.

Невядомы

*(бадай дурнавата)*

Гісторыя — кухня!

Лесасек

О! Тады навучайцеся варыць у ёй. Гісторыя толькі памяшканне. Прынясеце туды што-небудзь зварыць. Выпадкі ў Гісторыі нелагічныя...

Невядомы

Вы завельмі свядомкі!.. *(Насмешна паказвае пад вялікі камень.)* Вось там люгашкі лясныя жывуць.

Лесасек

*(яму ўсёдно перамена гутаркі )*

Калі б вы спакмецілі, як яны паўзуць, узбіраюцца на кругаліны для іх высокіх камянёў. Як выраслая з-пад камянёў трава ці лясная краска, бадай памагае ўзлезці ім на каменныя высоты... Вы ніколі не бачылі гэтага ў сваёй Гісторыі?

Невядомы

Не-е...

Лесасек

Дык прашу тады павучэнню нашаму навучыцца. Парожняе, земнаводнае, дзеля ўлады і грамадства ўзвысце... а тады... вы не цеміце як?

Невядомы
Саромлюся і не саромлюся адказаць: не!

Лесасек
... скіньце яго ў загоны працы, каб усё разумнае, творчае палохалася і тварыла дзеля надуманага праўдыром... нацыі... або як інакш называюць дзеля патрэбы народу.

Невядомы
Старыя песні без новага прыпеўку.

Лесасек
Пераменімся. Крыху па-людску пагутарым.

Невядомы
Але. Валей па-людску з мной пагутарыць. Людскае не тое, што па-людску, яно недарэчнае.

Лесасек
Я ніколі не жадаў, каб людское ператварылася ў собскае гняздо існавання.

Невядомы
Самую прыгожую п'есу адмаўляеце на жыццёвай сцэне!

Лесасек
А чаму і вам не адмовіцца ад гэтай прадчутнасці?

Невядомы
А што тады застанецца мне і ўсім?

Лесасек
Дзякую! Мне цяжка сказаць. Але паўнотай душы адчуваю: мая рупнасць і клопат застануцца са мной. Што я мог рабіць без іх?

Невядомы
Бадай з Новым Годам вітаю вас. Але мне здаецца, ці ёсць у вас здольнасць пераканацца ў немагчымасці адолець іх.

Лесасек
Я — лесасек. Я не страчу здольнасці, якая была паслухмя-

ная мне. Я магу пiлiць i секчы. I гэта ёсць мая сапраўднасць. Сапраўднасць — памяць.

Невядомы
*(неспадзеўна)*
Вы адкуль тут?

Лесасек
З краіны гэтай.

Невядомы
Вы пра лес прыгожа гаворыце.

Лесасек
Дзякую! Як добра, што лесасек жыве
і лес штогод,
штогод расце.

*(Невядомы знікае.)*

Лесасек
*(сам)*
Я з душой, што любіць у размаху
сякеры гострай, і ў звоні пілкае пілы,
скараць манеры прагнай скорнасці
мускулаў працоўных аштодня.

Я не змяняю дзень працоўны
ў сяброўства з лёткасцяй пад шатамі баровымі,
я да працы падкі ў час дажджлівы і зімовы.
Мой пот кранае скроні цяплынёй трудлівай,
і вочы хінець сорам: працы шмат не скончана.
Хвалюся працай я!
Навошта некаму хвала, што зваху роўная
дрэва зваленага на зямлю маёй завіхнасцю?
Шкура на касцёх маіх расцягваецца,
як вецер у прасёлах наўмысна разцярэбленых.
А пра кроў не ўспамінаю я
бруніць яна (каб чуў),
ручаінай ручаёў у нізінах сцісненых.

---

Апілкі каля пнёў — песня моўкная.
Я часта спатыкаюся із імі, быццам з успамінамі.

Яны ўпомач мне. Сякуць размахам вёслаў
мшыстую спакволь, абголеную надоўга перад сонцам.
Па іх заўтра пройдзе палясоўшчык і тралёўшчык паляў —
час для іх не заміне зачараваецца моцай у бярвеннях.
Птушка пераляціць як праз абток азёрны,
і ніхто не скажа з іх: слёзы гэтыя
выплаканыя із цела без пары памёрлага.

Што тут час? Паўстанцы Каліноўскага
стаілі часу шмат у гэтым лесе;
і ручай у воддалі, што камлёў цеснату рассунуўшы,
будучыню сабраў у пясчынцы вымытай.
Пясчынка тая з моцнасцю дыяменту.
Мае вочы зыркасцяй ад іх зіхцяць...
Сяку я лес. Нямотнага сведку нішчу.
Стамляюся — засынаю моцна.
Мой адпачынак?
Узбярэжжа пэўнае, адкуль я зноў ступлю
святкаваць Айчынную,
Айчынную ўрачыстасць.

---

Вясна была ў апошніх днях.
Зямля дрыготкамі ручаін снегавых
ужо не кроілася,
асвялая,
уся,
яна толькі час напаміналa.

Верылася зямлі й спадзявалася.
Лес — бор, і дрэва ўсялякае,
што расло ў полі, на лугох, у садзе
краталася ў вышынях неба,
як ланцуг, апушчаны з вадаплава ў мора,
усім ухватам учарэпіўшыся,
сцераглі ў часе зямлі цвіценне.

Нівы ў зелеве аднолькавай —
узронь разбежыстая таго мора.
Дрэвы — шчоглы.
Але лес — сцены вадаплаву.
Бадай ён хутка адплыве
з хваляў ніваў,
гардліва ўздымаў рэі

ў скраі небакрая,
і шлях найлепшы
па ім шукаў.

---

— Хадзем у лес.
У Айчынны лес, хадзем.
Вораг маёй Айчыны,
прыйдзі туды спачыць
або пажыць,
пажыць у часе адпачынкам.
Падатак і страта толькі будзе:
галіну пакладзі,
зялёную,
неасвялую,
на магіліцы
тваіх прашчураў,
але забойцаў для нас.

---

— У Беларусі ўсе
на моры жывуць.
Шумлівае мора — лес!
І мора людзей аніяк не турбуе —
бы дзіця парог пералез.

---

— Лес мае Айчыны — гандляр,
Гандлюе ўсім без разбору.
Ён самы жорсткі самасек:
сячэ сябе
і ўсё Айчыне неспадобнае.

---

З вышыняў — па камлёх паднябёсных —
лес апускае даніну свяціл.
Гэтак мякка сцелецца —
моху ўнізе насціл.

Сучок адхінуўся ад ветру планетаў —
будрожыць брунення крыніцаў лясных.
У сунічным водру,
наўмысна,
вясняны дзень
аціх.

## Адхін першы

Асудзіць мінуўшчыну сучасніку лягчэй,
хоць і мінуўшчына — пачатак для сучаснасці.
Аднак дзеля прагод «дзеля чаго напісана»,
у свет тайкоў я крушняй «літаратурнай» лягу.

І вось не гэтак:
адступнасці жыццё ўцвеляць,
у адступнасцях закон жыцця народзіцца.
Маленцаў бачыў я.
Усе яны ад пладзіні духовай і цялеснай,
і кажная палова гэтая
у іх спакмечваецца.
А смоўж, што паўзе і ведае паўзці — паўзе
у змроку нежыцця жыццём уціхамірыцца.

---

Мой крытык, прашу цябе любіць сябе.
Мне ўсёдно, адкуль пачаўся свет.
Усіх наслухаліся дурняў ад дурняў.
Сваіх не памятаем гурмой народнай.
Затое нейкіх чужацкіх бундзякоў,
бадай як панцыр,
рэлігію якую
шлём перад сабой вялікай абароны
і клянёмся верай ім,
нат здыхаючы
ад голаду
зімой варона.
Вось гэта іхны першапачатковы свет.
І яны радыя,
што ёсць загон,
і што імёны іхныя назавуць,
там пералічваючы іх.
Валадар ведае свой пачатак.
Абы святло, мой крытык,
але як грамадзянін, як дзіцянё сусвету
спакмець:
што з любасцю начлег сабе знаходзіў
на ўзбярэжжы Свіслачы і Вяллі сталічнай
і Айчыннай.

## Адхін другі.

*Найлепшаму сябру майму*
*прысвячаю*

Сябра мой! Пра гэта можна шмат што гутарыць.
Герой із мной нязгодны й непадобны.
Ён толькі згодзіцца паклікаць шум із бору,
што назаўсёды сціх пад яго сякерай.

Але ён песню вам пачне спяваць
пра тое, як вясна скарае смерць зімовую,
як без трывогі першы прарасцень займе
прастор прасторную.

Але навошта нас раўняць пачуццямі?
Ён у смерці дрэў не ведаў смерці іншых.
Ён спаткаў у целах дрэваў зваленых
маладосць росту свету,
што старасці Айчынныя ад яго забралі.

Я ведаю, што кожны кут зямлі
уславілі прашчуры і нашчадкі ўсялякія
І з імі невядомымі і вядомымі
перамогі нашыя цяжка падлічыць.
Але ў цудзе жыцця спаквольнага
успомнім «Лесасека» з маіх тварэнняў,
якому шлях засцілі
людзі
з Айчынаў не Айчынных.
У сваёй Айчыне ў роўнасцях з чужацкімі Айчынамі
ён пролазь прасякаў
даўно, даўно
да акна сваёй Айчыны.
І розум ягоны каменем рабіўся —
ён крышыцца мог пад сцінамі жыццёвых скрухаў,
і раніць спакой яго цялесны,
і нішчыць скарбы жыцця людскога.

*1962. Нью-Йорк.*

# Змест

**Юхнавец Я.**

Ю94 Сны на чужыне: Выбраныя творы / Уклад. і прадм. А. Бяляцкага.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 220 с., іл.— (Галасы беларускага замежжа).

ISBN 5-340-01255-7.

Творы паэта Янкі Юхнаўца, які жыве ў ЗША, няпростыя для ўспрымання. Ён імкнецца вылучыць паэтычную субстанцыю жыцця, занатаваць «спакойны беларускі пагляд» на космас, што звязаны з намі безліччу невідочных нітак.

Ю $\frac{8820600000—066}{М(302(03) — 94}$ 105—94

ББК 84(4Бел)6

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ЮХНАВЕЦ ЯНКА**

**Сны на чужыне**

**Выбраныя творы**

**Рэдактар У. А. Арлоў**

**Мастак А. І. Цароў.**

**Мастацкі рэдактар А. М. Малышава**

**Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо**

**Карэктар К. У. Дзмітрыенка**

Выдавецтва
«Мастацкая літаратура»

---

У новай серыі
*«Галасы беларускага замежжа»*
рыхтуюцца да друку кнігі:

КАСТУСЬ АКУЛА

Змагарныя дарогі

Раман

ЮРКА ВІЦЬБІЧ

Плыве з-пад святой гары Нёман

Апавяданні. Эсэ. Публіцыстычныя артыкулы